*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 26 ліпеня 1985 г. № 30 (3284) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

**Заўтра — урачыстае адкрыццё XII Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў. Юнацтва планеты, з'яднанае дэвізам «За антыімперыялістычную салідарнасць, мір і дружбу», сустракаецца ў Маскве.**

## У НУМАРЫ:



Яны будуць прадстаўляць Беларусь на фестывалі.

Здымак зроблены Ул. Круком на мінскім вакзале перад ад'ездам дэлегацыі нашай рэспублікі.

## ВЫСТАЎКІ

Шмат аматараў мастацтва сабрала выстаўка работ У. Садзіна, арганізаваная Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. «З замежных паездак» — такая назва экспазіцыі. Графічныя лісты — а іх трыццаць — расказваюць пра Балгарыю і В'етнам, ФРГ і Японію, іншыя краіны, дзе ў апошні час давялося пабываць мастаку.

**А. РАМАНОВІЧ.**

●

Вялікую цікавасць праявілі гамяльчане да выстаўкі твораў мастака-земляка А. Пятрова, які працуе пераважна ў жанры пейзажа. Яго работы экспанаваліся на шматлікіх вернісажах. Каля ста палотнаў, якія выкананы ў тэхніцы пастэлі, прадставіў мастак у новай экспазіцыі. Пейзажы родных мясцін кранаюць душу паэтычнасцю, узнёсласцю.

Асабліва вабяць кампазіцыі «Сосны», «Палескі матыў», «Паводка», «Маладыя бярозкі», «Вёска Ліпа», «Яблыні цвітуць».

**А. ШЫРОКІ.**

Да кутноў беларускай зямлі, дзе беражліва захоўваецца раслінны і жывёльны свет, належыць і Прыпяцкі дзяржаўны ландшафтна-гідралагічны запаведнік. Паблізу ад яго знаходзіцца ўнікальная ў Еўропе калонія чапляў — птушак, якіх сёння рэдка дзе сустрэнеш, а тут гнездзіцца некалькі тысяч іх. 24 мая 1985 года калонія аб'яўлена ахоўнай — тут створаны біялагічны заказнік «Вусце ракі Лань».

Некалькі месяцаў назад у ім пабывалі вядомы фотамайстар В. Ждановіч і мастак П. Драчоў. Вынікі гэтай паездкі — дзесяткі здымкаў і малюнкаў, якія адлюстроўваюць жыццё заказніка і перш за ўсё шэрай чаплі, ці, як яе яшчэ называюць здаўна ў народзе, валявахі.

Пра ўсё гэта можна даведацца, наведаўшы Дзяржаўны музей БССР, дзе ў мінулы чацвер адкрылася выстаўка «Чаплі беларускага Палесся». Экспазіцыя дае магчымасць убачыць гэтую прыгожую птушку. Няпроста давялося В. Ждановічу рабіць здымкі, часам фотапаляўнічы праводзіў не адну гадзіну ў схованцы, каб зрабіць унікальны кадр. Змешчаны таксама і матэрыял інфармацыйны, які расказвае пра жыццё чапляў, іх адметнасць як віду.

**Г. ЛОСЕЎ.**

Фота Ул. КРУКА.

## КОНКУРС ВАКАЛЬНА-ПАТРЫЯТЫЧНАЙ ПЕСНІ

Традыцыйным становіцца Магілёўскі абласны конкурс вакальна-патрыятычнай і палітычнай песні, прысвечаны памяці Героя Савецкага Саюза Леаніда Лорчанкі, які правodзіцца ў Бялыніцкім раёне, дзе змагаўся з ворагам і загінуў гераічнай смерцю камсамолец. Сёлета ў конкурсе ўдзельнічала 220 музыкантаў і выканаўцаў песень з Магілёва, Бабруйска, іншых гарадоў і раёнаў вобласці. У вёсцы Гута, дзе пахаваны воін, адбыўся мітынг, на якім удзельнікі конкурсу запэўнілі, што ніколі не забудуць імёны загінуўшых воінаў у барацьбе за свабоду і незалежнасць Айчыны.

Самадзейныя артысты выступалі ў раённым Доме культуры, у райсельгастэхніцы, у калгасах імя Чкалава, імя Энгельса, «Наша перамога». У рэпертуары былі творы высокага грамадзянскага гучання, песні часоў Вялікай Айчыннай вайны, сучасных савецкіх кампазітараў. Высокую ацэнку слухачоў і журы атрымалі народны вакальны ансамбль Глускага раённага Дома культуры, вакальна-інструментальны ансамбль Бялыніцкага РДК, а таксама калектывы самадзейнага мастацтва Крычаўскага, Бабруйскага і іншых раёнаў вобласці.

**С. СЯМЁНАЎ.**

## ДЫПЛОМ — ПАРКУ

Слуцкі парк — адзін з лепшых у Мінскай вобласці. Сёлета ён стаў дыпламантам Усесаюзнага конкурсу. Сюды прыязджаюць па вопыт з іншых раёнаў. А павучыцца ёсць чаму. У парку стала традыцыяй праводзіць Дні працоўнай славы прадпрыемстваў — пераможцаў сацыялістычнага спаборніцтва. На такіх мерапрыемствах вядзецца зацікаўленая гаворка аб працоўных здабытках на перадз'ездаўскай вахце, аб лепшых людзях горада. Цікава прайшлі сустрэчы з прадстаўнікамі заводаў «Эмальпосуд», аўтарамонтнага, мясакамбіната.

Дарэчы, прадпрыемствы Слуцка зрабілі шмат, каб парк адпавядаў сучасным патрабаванням. З іх дапамогай устаноўлены атракцыёны, праведзен рамонт будынкаў, якія тут знаходзяцца.

За год парк наведвае амаль паўмільёна чалавек.

— Робім усё, каб для кожнага, хто сюды прыходзіць, быў наладжан змястоўны і карысны адпачынак, — сказаў загадчык аддзела культуры гарвыканкома М. Зяневіч.

**Л. КАЛАЧОЎ.**

## У АНАНЧЫЦАХ СПЯВАЮЦЬ ХОРАША...

У зборніку Эдзі Агняцвет «Спадзяванне калыханак» у вершы «Ева Міхнавец» ёсць такія радкі: «Не трэба мне ні сцэны, ні заслоны, мне дайце луг ананчыцкі, зялёны, прастор крынічны, лес чарнічны — тады я заспяваю». Хто ж такая, гэтая Ева?

— Салістка ансамбля, які ўжо шмат гадоў працуе пры Ананчыцкім сельскім клубе, — адказаў на маё пытанне загадчык аддзела культуры Салігорскага райвыканкома А. Казакевіч.

Сапраўды, як сцвярджае сваім вершам Эдзі Агняцвет, «дрындушкам-песенькам — канец, калі спявае Ева Міхнавец». І іншыя ўдзельніцы гэтага ансамбля зачароўваюць слухачоў сваім талентам. Гэта — Вольга Пажыган, Валянціна Прышчыц, Марыя Саронiна, Васіліна Салавец... Усяго ў калектыве — 45 чалавек. Ніякія жыццёвыя віхуры не змаглі забраць у іх песню. Яна была з імі і тады, калі ўсе гармaністы пайшлі ў танкісты, калі стукала ў дзверы смерць, прыносячы пахавальныя. Адным словам, самыя цяжкія выпрабаванні не зламалі жанчын, не падрэзалі крылаў песні.

У партызанскім лесе, напрыклад, нарадзілася песня «На кані вараным», якую спявалі пры вогнішчы. Спяваюць яе нярэдка і цяпер. Слухае моладзь сваіх бабуль — і не перастае захапляцца мужнасцю землякоў. Свая гісторыя і ў песні «Села я на голы камень». Нарадзілася яна тады, калі жанчыны-партызанкі вярнуліся ў сваё спаленае сяло. Да глыбіні душы кранаюць радкі, абвітыя жалобнай мелодыяй, нязломнасцю чалавечага духу. Гэта выдатны прыклад таго, як трэба берагчы, ахоўваць скарбы народнай творчасці, што засталіся нам у спадчыну ад дзядоў і прадзедаў.

Выступалі самадзейныя артысты перад супрацоўнікамі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, у мінскім парку культуры і адпачынку імя Чалюскінцаў. Усесаюзная фірма «Мелодия» выпусціла пласцінку з песнямі ананчыцкіх спявачак.

І вось яшчэ адна радасная вестка абляцела гэту вёску — этнаграфічна-фальклорнаму ансамблю прысвоена званне народнага. Гэта першы калектыў у Салігорскім раёне, якому аказаны такі высокі гонар.

**У. АНТАНЕВІЧ.**

**ІНТЭРВ'Ю Ў НУМАР**

# У МАСКВУ, НА СУСВЕТНЫ ФЕСТЫВАЛЬ

**З сакратаром ЦК ЛКСМБ В. М. ДРАГАЎЦОМ гутарыць карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва»**

Па шырокай лесвіцы вы падымаецеся на другі паверх будынка ЦК ЛКСМБ, і першае, што кідаецца вам ў вочы—вялікі маляўнічы стэнд, прысвечаны XII Сусветнаму фестывалю моладзі і студэнтаў у Маскве. У стэнд умантыраваны своеасаблівы каляндар, над якім надпіс: «Да фестывалю засталося...» У той дзень тут стаяла лічба 10...

Менавіта гэты каляндар, гэтая лічба адразу ўвялі ў атмасферу напружанай падрыхтоўкі да выдатнай падзеі, якой жыве штаб беларускай камсамоліі.

— Сусветныя фестывалі дэмакратычнай моладзі, як сведчыць гісторыя іх правядзення,—сказаў Васіль Мікалаевіч Драгавец,—заўсёды набывалі характар буйнейшых палітычных падзей. Яны падымалі шырокі спектр праблем—сацыяльных, культурных, ідэалагічных, якія хвалявалі моладзь планеты. На ўсіх форумах юнакі і дзяўчаты дэманстравалі сваё жаданне жыць у міры, выкрывалі агрэсіўную, антыгуманную сутнасць імперыялізму, уздымалі свой голас супраць гонкі ўзбраенняў, сацыяльнага прыгнёту ў свеце капіталу.

У наш неспакойны, трывожны час асабліваe значэнне набывае XII Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў у Маскве. Яго сутнасць, накіраванасць як нельга лепей выказана ў дэвізе: «За антыімперыялістычную салідарнасць, мір і дружбу». Юнакі і дзяўчаты больш як са 150 краін свету збяруцца ў сталіцы нашай Радзімы, каб уславіць высакародныя ідэалы міру, сказаць НЕ пагрозе ядзернай вайны. Сярод маладзёжных дэлегацый, якія прымуць удзел у форуме, сваё важкае слова ў падтрымку фестывальнага дэвізу скажуць і прадстаўнікі моладзі нашай рэспублікі. Дэлегацыя наша вельмі прадстаўнічая. У яе ўваходзяць маладыя рабочыя, сяляне, студэнты, вучоныя, дзеячы літаратуры і мастацтва, камсамольскія работнікі. Для ілюстрацыі назаву толькі некалькі імёнаў. Гэта дэпутат Вярхоўнага Савета СССР трактарыст-машыніст калгаса «Бальшавік» Іванаўскага раёна Мікалай Дудзінскі, студэнтка Брэсцкага педінстытута Святлана Лыскавец, слесар Віцебскага завода «Эвістор» Мікалай Чарняўскі, член ЦК ВЛКСМ, механізатар саўгаса «Стрэлічава» Хойніцкага раёна Уладзімір Кашперка, навуковы супрацоўнік Інстытута механікі металапалімерных сістэм АН БССР Васіль Струк, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, студэнт Мінскага радыётэхнічнага інстытута Глеб Ерамееў, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, народны артыст рэспублікі кампазітар Ігар Лучанок, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола паэт Уладзімір Някляеў... У фестывальных мерапрыемствах прыме ўдзел і турыстычная група ў складзе 440 чалавек, а таксама прафесійныя і самадзейныя творчыя калектывы...

**Кар.:**

— У кантэксце нашай гаворкі, Васіль Мікалаевіч, і такое пытанне: якія б вы ўжылі характарыстыкі, гаворачы наогул пра моладзь Беларусі?

**В. Драгавец:**

— Перш за ўсё—працавітая, таленавітая, самаадданая. Сёння ў народнай гаспадарцы рэспублікі кожнаму трэцяму працаўніку менш за трыццаць. Кожны чацвёрты вучоны—таксама малады чалавек. Наша беларуская моладзь прымае рэальны ўдзел у кіраўніцтве дзяржавай, ва ўсіх грамадскіх справах. Хіба не пра гэта сведчыць і такі факт: больш як 30 працэнтаў дэпутатаў Саветаў—гэта людзі, як кажуць, камсамольскага ўзросту. Сярод іх, напрыклад, і самы малады дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі, згаданы ўжо мною дзевятнаццацігадовы студэнт Глеб Ерамееў. Чулы чалавек, добры таварыш, ён карыстаецца павагай таварышаў, заваяваў аўтарытэт у выбаршчыкаў. Я магу прывесці нямала прыкладаў ранняга ўзмужнення маладых людзей, якія з поспехам спраўляюцца з самымі складанымі прафесійнымі абавязкамі. У дваццаць два гады папоўніў атрад беларускіх вучоных Андрэй Рапінчук з Інстытута матэматыкі АН БССР. У 25 гадоў стаў дырэктарам саўгаса «Латыговічы» Чашніцкага раёна Фёдар Пятрашка, у 30 узначаліла калгас «Перамога» Любанскага раёна Ніна Ігнаценка.

Больш як 20 тысяч юнакоў і дзяўчат 1.640 камсамольска-маладзёжных калектываў паспяхова выканалі заданні чатырох гадоў пяцігодкі, а дзве тысячы маладых рабочых, каля ста камсамольска - маладзёжных калектываў — поўнасцю адзінаццатую пяцігодку. Больш канкрэтна? Калі ласка. Многія камсамольскія арганізацыі Мінскай вобласці «знайшлі сябе» ў важнай справе паскарэння навукова-тэхнічнага прагрэсу. Дзякуючы іх актыўнаму ўдзелу ў 488 навуковых распрацоўках атрыманы эканамічны эфект у 25 мільёнаў рублёў. Можна шмат гаварыць аб працоўнай ініцыятыве моладзі Мінскага трактарнага завода і «Гомсельмаша», Гродзенскага «Азота» і Магілёўскага «Хімвалакна», выдатных справах маладых механізатараў і жывёлаводаў.

**Кар.:**

— Вось ужо не адзін месяц у газетах, па радыё і тэлебачанні гучыць фраза, якая стала звычайнай — моладзь рэспублікі рыхтуецца да XII фестывалю. А калі больш канкрэтна, Васіль Мікалаевіч?

**В. Драгавец:**

— Адно з самых важных мерапрыемстваў перадфестывальнай падрыхтоўкі — стварэнне міжнароднага фонду фестывалю. Ён прызначаны для аказання фінансавай дапамогі прадстаўнікам замежных арганізацый моладзі і студэнтаў, якія адчуваюць у гэтым патрэбу. Больш як 1 мільён 500 тысяч юнакоў і дзяўчат Беларусі прынялі ўдзел ва ўсесаюзным камсамольска-маладзёжным суботніку, прысвечаным 60-годдзю прысваення камсамолу імя Леніна і XII Сусветнаму фестывалю моладзі і студэнтаў. У фонд фестывалю тады было пералічана 1 мільён 689 тысяч рублёў. А ўсяго моладдзю рэспублікі зароблена і пералічана ў гэты фонд каля 4 мільёнаў рублёў.

Спецыяльныя канцэрты пад дэвізам «Творчая моладзь рэспублікі — XII Сусветнаму фестывалю моладзі і студэнтаў» з пералічэннем сродкаў у фонд фестывалю далі вакальна-інструментальныя ансамблі «Верасы» і «Сябры», маладзёжныя калектывы Рускага драмтэатра імя Горкага, Брэсцкага і Магілёўскага абласных тэатраў. У фонд фестывалю перавялі прэмію Ленінскага камсамола Беларусі эстрадна-харэаграфічны ансамбль «Чараўніцы», дзіцячы ансамбль танца «Лялькі». Прыняў сацабавязацельства штомесяц пералічаць у гэты фонд адзін працэнт зарплаты камсамольска-маладзёжны калектыў токараў цэха № 6 Віцебскага завода заточных станкоў.

Можна шмат расказваць пра сацыялістычнае спаборніцтва ў гонар фестывалю, у якое ўключыліся тысячы маладых працаўнікоў, сотні маладзёжных калектываў. Напрыклад, камсамольцы Брэсцкай фабрыкі сувеніраў распрацавалі і ўкаранілі ў вытворчасць 11 найменаванняў вырабаў з фестывальнай сімволікай. Многія ткачыхі Гродзенскага прадзільна-ніткачнага аб'яднання ўзялі абавязацельства да адкрыцця фестывалю выканаць 6 гадавых заданняў за кошт работы на павышанай зоне абслугоўвання. Такіх прыкладаў можна прыводзіць сотні.

**Кар.:**

— Чытачам «Літаратуры і мастацтва» будзе цікава даведацца пра ўдзел у культурнай праграме фестывалю ў Маскве мастацкіх калектываў рэспублікі.

**В. Драгавец:**

— Калі можна так сказаць, наш мастацкі дэсант вельмі прадстаўнічы. Удзельнікі фестывалю, масквічы, госці сталіцы пазнаёмяцца з творчасцю такіх калектываў, як фальклорна-харэаграфічны ансамбль «Харошкі», вядомых вакальна-інструментальных ансамбляў «Песняры» і «Верасы», ансамбля пантамімы «Рух», студыі пантамімы «Праметэй» Палаца культуры чыгуначнікаў, эстрадна-харэаграфічнага ансамбля «Чараўніцы», народных ансамбляў танца «Крыжачок» Белдзяржуніверсітэта, «Радасць» Брэсцкага гарадскога Дома культуры, «Дружба» Беларускага політэхнічнага інстытута, дзіцячага народнага ансамбля танца «Лялькі» Баранавіцкага гарадскога дома культуры, ансамбля танца «Равеснік» Белсаўпрофа, вакальна-харэаграфічнага ансамбля «Валачобнікі» і іншых калектываў.

Беларускія артысты будуць выступаць на самых, калі можна так сказаць, прэстыжных пляцоўках. Гэта Міжнародны парк мастацтваў, Тэатр сатыры, Палац спорту «Лужнікі», Цэнтральны парк культуры і адпачынку імя Горкага. У сацыяльна-культурным комплексе Беларускай ССР будзе паказана тэатралізаваная праграма «Беларусь мая сінявокая», удзельнікі і госці фестывалю пазнаёмяцца з беларускімі народнымі святамі, звычаямі, гульнямі.

На ВДНГ СССР адкрыецца выстаўка «Моладзь краіны Саветаў», значны раздзел якой будзе прысвечаны Беларусі. У ім адлюструецца багаты сённяшні дзень юнакоў і дзяўчат рэспублікі.

Адным словам, нам ёсць чым ганарыцца, нам ёсць што паказаць на Міжнародным форуме ў Маскве. Наперадзе радасныя і напружаныя фестывальныя дні.

# ПЯЦЬ НЯПРОСТЫХ ПЫТАННЯЎ

*Рэдакцыі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» стала вядома, што прэзідыум Акадэміі мастацтваў СССР звярнуўся да вядучых майстроў савецкага мастацтва з прапановай даць адказ на пытанні, звязаныя са станам і сучаснымі тэндэнцыямі развіцця яго, з праблемамі метаду сацыялістычнага рэалізму, з крытычным жанрам у мастацтвазнаўстве. Падрыхтаваў адказы на анкету і вядомы беларускі скульптар акадэмік Заір Азгур. Рэдакцыя прапануе ўвазе чытачоў гэтыя адказы, а па сутнасці, артыкул, напісаны на іх аснове, спадзеючыся, што разважанні такога мастака па надзённых пытаннях будуць цікавымі для многіх аматараў і прыхільнікаў мастацтва наогул.*

СПЯРША, напэўна, варта ўдакладніць, як разумею некаторыя тэрміны (хоць пры гэтым вымушаны буду і паўтарыць сёе-тое агульнавядомае).

Метад — гэта прынцып адбору мастаком аб'ектаў для іх адлюстравання і прыёмаў мастацка-вобразнага ўвасаблення гэтых аб'ектаў. Прынцып дыктуецца гістарычнымі і грамадскімі матывамі творчасці, вызначаецца пераканаННЯмі аўтара, тым, як ён разумее прызначэнне мастацтва ўвогуле. Інакш кажучы, метад — паняцце гістарычна абумоўленае. Ад таленту залежыць, у якой ступені правільна і дакладна разумее ён сапраўдныя пытанні часу. Метад вядзе нас да вобразных ідэйна-эстэтычных абагульненняў.

Сацыялістычны рэалізм — метад наватарскі. Яго выпрацавала мастацтва абноўленага грамадства — сацыялістычнага, якога не ведала раней гісторыя. Мастак гэтай эпохі пачаў тварыць, успрымаючы рэчаіснасць з пункту гледжання працоўных, г. зн. ён заняў пэўную класавую пазіцыю.

Што значыць — «заняў». Часцей за ўсё пераход прадстаўнікоў старой інтэлігенцыі на народныя пазіцыі быў зусім свядомым крокам мастака або скульптара. Бывалі выпадкі, калі майстар нібы «насуперак» самому сабе аб'ектыўна адлюстроўваў праўду жыцця гэтак, што яго твор па сутнасці сваёй сцвярджаў рэвалюцыйную праўду, паказваў рэвалюцыйнае развіццё падзей, узнаўляў аблічча змагароў за пераўтварэнне грамадства. Калі мы гаворым пра мастака, што ён «заняў» тую альбо іншую пазіцыю, дык маем на ўвазе не яго дэкларацыі, а паводзіны ў мастацтве. У першыя гады пасля Вялікага Кастрычніка да творчасці абудзіліся таленты з рабочых і сялян. Іхні выбар пазіцыі не меў і патрэбы ў «падказках»: класавае чуццё вяло іх да зусім пэўнага метаду ў мастацтве.

Гэтак фарміраваліся сілы мастацтва сацыялістычнага рэалізму.

Рэалізму! Паняцце — як вечны алмаз. Так, перш за ўсё мастакі новага грамадства спавядалі рэалізм. Піянерам мастацтва сацыялістычнага рэалізму было важна ўспрыняць, зберагчы, развіць усе дасягненні класічнага рэалістычнага мінулага. Не з «нуля», не з «нічога» пачыналася ўзыходжанне пралетарскага мастацтва, хоць у свой час, бывала, нейкія абвяргальнікі, зневажальнікі намагаліся рознымі формамі мадэрнізму спярша выцесніць, а потым і зусім «прынізіць» усялякае праўдзівае адлюстраванне рэчаіснасці. Лепшыя з савецкіх майстроў першага прызыву свядома і паслядоўна ўзнаўлялі ў творах праўду жыцця ў яго рэвалюцыйным развіцці праз сацыялістычны ідэал.

ВЯДОМА, колішні «рэалізм» быў розны. Адны мастакі сваімі палотнамі або статуямі дагаджалі «ўладарам жыцця», царам і іхняму асяроддзю. Знаходзілі для гэтага пераканаўчыя фарбы, каб паказаць быццам бы партрэтнае падабенства або гістарычныя сюжэты, што выклікалі пачцівасць гледача. Іншыя выкрывалі царызм, са спагадай малюючы зацюканага прасталюдзіна, жабрака, пакорлівага прыгоннага селяніна або бяспраўнага рабочага. Нямногія з жывапісцаў і скульптараў мінулага здатныя былі ўздымаць такі змест сваіх работ да гучання вобразнай праўды часу з дакладнымі грамадзянскімі нотамі. Гэтыя нямногія — наша гордасць, нашы настаўнікі, прыклад для нас.

Хрэстаматыйная вядомасць гэтых мастакоў і іх твораў ніколькі не змяншае годнасці рэалізму, велічнасці рэалістаў. Ці буду я арыгінальным, назваўшы, да прыкладу, палатно «Не чакалі» І. Рэпіна або скульптурны партрэт «Ніке» С. Канёнкава, якія спрыялі веры народа ў перамогу справядлівай справы, захаплялі непакорлівасцю духу, здольнага і ў змрочную часіну пратэставаць супраць несправядлівасці! А якое ўзрушальнае хараство ў партрэце Максіма Горкага, напісаным В. Сяровым як жыццёвае, чалавечае ўвасабленне «буравесніка рэвалюцыі»! Успомніце разам з тым ягоныя партрэты князёў і княгінь: якім бязлітасным быў у сваёй бездакорнай праўдзе пэндзаль В. Сярова, што выкрыў духоўную пустату пануючай знаці!

Я пішу з клічнікамі, бо і дасюль, аддаўшы мастацтву ўсё жыццё, па-юнацку захапляюся неўвядальнай прыгажосцю і ўладарнай гармоніяй у творчасці майстроў мінулага. І ганаруся, што лёс наканаваў мне ўдзельнічаць у стварэнні мастацтва новага часу, мастацтва сацыялістычнага рэалізму. З першых маіх гадоў вучнёўства настаўнікі вялі мяне да мастацкага спасціжэння дзейнасці перадавых сіл народа.

Іх бачыў я на стыхійных мітынгах на плошчах Віцебска, на суднабудаўнічых верфях Піцера, у чыгуначных дэпо Кіева, на нафтапромыслах Баку. Яны яшчэ даношвалі матроскія бушлаты і салдацкія шынялі, па вечарах спяшаліся на курсы рабфакаў, потым у інтэрнатах заўзята спрачаліся, знішчальнае слова скіроўваючы на мяшчанаў, двурушнікаў, бюракратаў. Талент, кемнасць, арцельнасць, гатоўнасць падтрымаць таварыша, замяніць яго на працоўным пасту, навучыць таму, што ўмееш сам, памагчы — вось рысы маіх нявыдуманых герояў, уладароў маіх думак. Але як увасобіць гэтыя рысы ў мастацкім вобразе?

Помню, як нагаворвалі і нашэптвалі ўсялякія дарадцы: маўляў, нельга паказаць новае з дапамогай традыцыйных мастацкіх форм, традыцыйныя прыёмы быццам бы аджылі і, галоўнае, вычарпалі сябе, і не да гонару савецкаму жывапісцу або дойліду азірацца на папярэднікаў. Па праўдзе кажучы, гэта часам і збівала з панталыку. Тады здавалася, што за кубізмам ці за «лучизмом» (назва нават гучыць зававбліва!) — будучыня, што, скажам, К. Малевіч — вястун гэтай будучыні. Ва ўсякім разе, у Віцебску 20-ых гадоў мастака падпільноўвалі розныя спакусы.

Ды здаровае пачуццё арыентавала нас правільна. Калі маеш намер уславіць мужнасць новага чалавека, які пераўтварае грамадства сёння, на твае вочы, угледзься ў яго. І не хлусі! Не скажай! Будзь шчыры, сумленны перад мальбертам або ля станка, працуючы пэндзлем або стэкай.

Лёгка сказаць — не хлусі, не скажай, будзь сумленным. Ты можаш зафіксаваць толькі адно нейкае імгненне падзеі, толькі адну якую-небудзь ноту ў «музыцы аблічча» — засяроджанасць, духоўны ўздым, смутак, гнеў. Значыць, у адным імгненні і ў адной ноце належыць перадаць сваё ўяўленне і нават сваё разуменне падзеі ці зусім канкрэтнай асобы. Выбіраючы з уласных уражанняў патрэбнае табе, важнае для цябе, ты ўжо карыстаешся пэўным метадам. Рэальны свет, рэчаіснасць, якую бачым, ператвараецца ў вобраз. Як? Простым перанясеннем на палатно ў вызначаных маштабах гэтага самага «зрокавага»? Тады ты раб «зрокавага», капііст, апалагет люстэркавага паказу рэчаіснасці. З мастацкай творчасцю ў цябе тады мала агульнага, хоць ты быццам і «не хлусіш», «не скажаеш», «застаешся сумленным».

Дасюль помню, як няпроста і не адразу я спасцігаў важнасць адбору ў працэсе творчасці. Рэчаіснасць шматаспектная. Маляўнічая. Дынамічная. Рухавая. І табе важна знайсці ў ёй, кажучы ўмоўна, тую тэндэнцыю, тое напружанне, той пафас часу, праз якія найбольш чотка і выразна раскрыецца тваё мастакоўскае ўяўленне і твая грамадзянская думка пра свет, што вакол цябе. Гэты пошук і адбор залежаць не толькі ад твайго «рацыо», а і ад эмацыянальнай чуйнасці, ад тэмпераменту мастака. Таму творчасць—індывідуальная. Вучыся ў многіх, нават ва ўсіх, усіх слухай, а рабі па-свойму, слухай уласны тэмперамент. Надзвычай цяжка! Вернасць мастака самому сабе, відаць, і ёсць зарука развіцця таленту.

Цяпер я гавару пра гэта ўпэўнена, а спасцігаў усё — з пакутамі, пераадольваючы сумненні, утаймоўваючы гардыню, вырываючыся з цянётаў перайманьніцтва. Удзячны лёсу за тое, што з першых крокаў у творчасці ўва мне не пахіснулася павага да класічных узораў.

У ЧЫМ, на мой погляд, плённасць арыентацыі на класічныя ўзоры? У прафесійна паўнацэнным, у сапраўды майстэрскім асваенні вызначанага нашымі папярэднікамі: анатамічная дакладнасць, прапорцыі, кампазіцыйная яснасць, гранічнае праўдападабенства святлаценяў, выпукласцей і ўвогнутасцей, маштаб і габарыты... Сацыялістычная ява выклікала да жыцця такія розныя, непадобныя ні ў чым работы, як «Пісьмо з фронту» А. Лакціёнава або помнік савецкім воінам-вызваліцелям у Трэптаў-парку ў Берліне Я. Вучэціча, — і якія блізкія гэтыя творы нашым уяўленням пра новую класіку! Пра жывую класіку, якая заўсёды выпраменьвае «эмацыянальнае поле». Пра мастацтва, якое абуджае ў чалавеку актыўны водгук, змястоўныя асацыятыўныя развагі — пра жыццё, пра сябе, пра гісторыю, пра час. Канкрэтна-гістарычны змест такіх твораў спалучаецца з сілай вобразнага асэнсавання факта або чалавечай асобы. Гэта — ад урокаў нашай класікі. І ад непарыўнасці мастака з сучаснасцю, ад грамадзянскай акрэсленасці яго ролі ў сацыялістычным грамадстве.

Метад сацыялістычнага рэалізму нясе дух наватарства і тады, калі палатно або скульптура прысвячаецца гістарычнай тэме. Напэўна, самым яскравым прыкладам тут можа быць карціна Б. Іагансона «На старым уральскім заводзе». Тыпы рабочага і гаспадара — быццам бы з тых, што пісалі ў розны час дарэвалюцыйныя мастакі, у прыватнасці, К. Савіцкі, М. Ярашэнка або М. Касаткін, а з якім сацыяльным драматызмам улоўлены і перададзены стан паядынку паміж пралетарыем і капіталам! Такое ўражанне, нібыта аўтар — сведка той даўняй явы і, адначасна, наш пасланец у мінулае, якому наканавана асэнсаваць варожасць як з'яву класавую. Думаецца, што пільнаму гледачу адкрываецца метадалагічная самастойнасць мастакоў нашай фармацыі, калі ён знаёміцца з такімі гістарычнымі палотнамі савецкіх аўтараў, як «Раніца на Куліковым полі» А. Бубнава, «Паядынак Перасвета з Чалубеем» М. Авілава або «Паўстанне Балотнікава» Г. Гарэлава. Ды і ў пейзажнай лірыцы, у галіне больш тонкай, улоўліваеш нюансы, якія сведчаць аб тым, што мастак пісаў неба і зямлю, калі яны ўжо былі ўзрушаны рэвалюцыйным катаклізмам. Дастаткова назваць хоць бы «У блакітнай прасторы» А. Рылова — палатно 1918 года, якое, бадай, не магло з'явіцца ў годзе 1913-ым і раней... Асабліва ж ярка ўспрымаеш наватарскі характар узбагачэння класічнай спадчыны, калі думкай звяртаешся да скарбніцы Ленініяны ў мастацтве. Як адпавядаюць патрабаванням строга класічнага разумення гармоніі творы М. Андрэева і С. Мяркур'ева, М. Манізера і І. Бродскага, М. Томскага і А. Герасімава, У. Сярова, М. Жукава, што паказваюць правадыра партыі і працоўнага народа на трыбуне і ў штабе рэвалюцыі Смольным, у час адпачынку і сярод паплечнікаў па барацьбе!

Метад сацыялістычнага рэалізму памагае мастаку дасягнуць выхаваўчага ўплыву эстэтычных уражанняў на чалавека. Так, па-ранейшаму, паказваючы свет у вобразах, мы спазнаём яго, асэнсоўваем з'явы жыцця, спасцігаем само быццё, адначасова інфармуючы іншых пра хараство і дыялектычную складанасць рэчаіснасці, апавядаючы пра ўласныя адкрыцці, азарэнні, узрушэнне ці, наадварот, абурэнне. Такім чынам мастак аб'ектыўна штосьці ўслаўляе, а штосьці абвяргае. Ён ужо — удзельнік ідэалагічнай барацьбы за пэўныя каштоўнасці як грамадскія, так і маральна-этычныя. Чым больш глыбокае і маляўнічае, чым больш захапляючае ягонае мастацтва, тым больш адчувальны ўплыў мастацкай творчасці, тым больш актыўнае ўздзеянне карціны або скульптуры (гэта можна сказаць і пра сімфонію, фільм, тэатральны спектакль, архітэктурнае збудаванне) на людскія кангламераты. Калі ты паказваеш жыццё з пазіцый перадавога светапогляду, твой твор непасрэдна або ўскосна, сам па сабе або ў суме з іншымі аналагічнымі творамі, — але робіць важную справу: ён гартуе волю і можа ўплываць на паводзіны чалавека.

Не кожны твор? Згодны.

Не заўсёды? І тут не пярэчу.

Гаворка ідзе пра ідэал мастацкай творчасці ў нашай краіне з першых гадоў Савецкай улады. Ленінскія ўказанні ў галіне мастацтва, у прыватнасці, наконт прынцыпаў манументальнай прапаганды, распрацоўка пытанняў эстэтыкі і яе тэндэнцый у сацыялістычным грамадстве А. В. Луначарскім — вось першыя дакументы тэорыі нашага мастацтва, закліканага строга кіравацца светапогляднымі функцыямі. Ва ўсякім разе, ні пры якіх умовах не забываць пра такія функцыі. Інакш ты альбо скатваешся да рамесніцкага механічнага паказу будняў, альбо цябе зацягвае які-небудзь «ізм», рэцэдыў нейкага «лучизма» або кубізму. Свет ведаў і раней, што мастацтва мае сілу ўплываць на чалавека. Сведчанняў гэтага — мноства. А вось Д. Дзідро лічыў, што мастацтва паказвае дабро прывабным, г. зн. унушае табе думку пра перавагі дабра над злом.

Мне вельмі імпануе і гэтая магчымасць — прымнажаць дабро ў свеце. Я разумею гэта і як адказ на грамадскую патрэбу, па-дзяржаўнаму сфармуляваную нашай партыяй.

ТЭХНАЛАГІЧНАЯ аснашчанасць мастака падпарадкавана такому разуменню галоўнага прызначэння мастацтва. Цяпер часта ўжываецца слова «канцэпцыя» — і не выпадкова. Без пэўнай ідэйнай канцэпцыі ў задуме і ў ажыццяўленні задумы твор мастацтва ўспрымаецца накідам, эцюднай распрацоўкай, варыянтам. Закончанасць і важкую ідэйна-эстэтычную вызначанасць ён набывае тады, калі глядач захапляецца праўдай адлюстраванага ў спалучэнні з дакладна адчувальнай думкай мастака пра тое, што напісана на палатне або ўвасоблена ў скульптуры.

І ў партрэце таксама. Тэхналагічны працэс і тут не толькі ў апрацоўцы палатна, у маштабах падрамніка або, скажам, каркаса (для скульптуры), а ў безупынным спасціжэнні «законаў» чалавечага цела, яго прапорцый, яго анатоміі. Правільнае адлюстраванне аблічча чалавека абумоўлівае эстэтычнае выяўленне яго духоўнай сутнасці, раскрыццё сутнасці асобы.

Развежаем мы пра ўсё гэта, бадай, правільна. Нельга, аднак, забываць, што стварэнн трохмерных скульптурных вобразаў нават у грэкаў, якія далі першыя дасканалыя ўзоры ў гэтай галіне мастацтва, лічылася складанай справай. Таму што дойліду не гэтак проста адмовіцца ад франтальнасці. Пачынаючы лепку, мы часам нібы апрыоры вызначаем як галоўны — фасавы пункт погляду, а потым ужо ўлічваем бакавыя, профілевыя аспекты будучай работы. Тэарэтычна як быццам ведаем, што трэба вышчарбіць і абрысаваць канты прызмы і плоскасці адпаведна з контурамі выявы, змякчыць і дапасаваць пераходы ад адной грані да другой, ад выпукласці да ўвогнутасцей... А практычна ж — працаваць пачынаем над скульптурай, у думках прыхіленай намі да сцяны. Пераадолець гэта абавязкова ў наш час, калі скульптура выйшла на плошчу, заняла месца ў вестыбюлі будынка, стала кампанентам горадабудаўніцтва. І хоць у час поўнай сталасці элінскага мастацтва (а гэта IV і нават III стагоддзі да нашай эры) скульптары ўжо стваралі выявы, якія ўражвалі чалавека, з якога б пункту ён той твор ні разглядаў, клопат пра гэта надзённы і для нас. Чаму? Ад жадання даць магчымасць людзям абысці тваю скульптуру з усіх бакоў? Так, вядома. Ды галоўнае — захапіць чалавека, адкуль бы ён ні набліжаўся да вобраза, да выявы, сваёй думкай; даць гледачу ўражанне, адпаведнае твайму разуменню, тваім пажаданням.

(Заканчэнне на стар. 14—15).

*СУЧАСНАСЦЬ І СУЧАСНАЯ ЛІТАРАТУРА*

Аляксей РАГУЛЯ

# ЗА ЎСЁ Ў АДКАЗЕ,

## або

# Новыя матывы і пераемнасць традыцый

НЕКАТОРЫЯ КРЫТЫКІ сёння схільныя лічыць асабліва актуальнымі творы, прысвечаныя вясковай тэматыцы і экалагічным праблемам. З такім жа правам можна гаварыць і пра актуальнасць гістарычнай, гарадской, ваеннай і ўсякай іншай тэмы. Пярэчанне выклікаюць спробы звесці чалавеказнаўчы змест літаратуры да вырашэння канкрэтных практычных праблем аховы прыроды, працаўладкавання, так званага культурнага адпачынку. Ніколькі не прыніжаючы значэння любога практычнага дзеяння, мусім зазначыць, што няўвага да чалавеказнаўства *ператварае літаратуру ў белетрызаваную фактаграфію*, вядзе да здраблення праблематыкі, павярхоўнага і прыблізнага вырашэння канфліктаў.

Крытыка, калі яна ідзе «следам за аўтарам», у такім разе засяроджваецца на канкрэтных, практычных рэкамендацыях. Нядаўна давялося прачытаць такі пасаж: «І задача літаратуры ў першую чаргу не ў тым, каб адлюстраваць існуючыя праблемы і цяжкасці, а ў тым, каб паказаць нейкія канкрэтныя шляхі вырашэння іх». Здавалася б, што дрэннага ў гэтых пажаданнях? І тым не менш яны насцярожваюць. Занадта ўжо простым уяўляецца сродак выратавання прыроды і добрага ладу ў ёй: літаратура павінна даць рэкамендацыі, адпаведныя ведамствы прымуць іх да няўхільнага выканання — і будзе парадак. Ёсць у такіх парадах пэўная доля наіўнасці.

Здзіўляе, аднак, іншае: «у першую чаргу» рэкамендуецца абысці «існуючыя праблемы і цяжкасці». Інакш кажучы, рэкамендуецца шырока расчыніць дзверы для беспраблемных твораў. На справе гэта азначала б не што іншае, як ажывіць сумнай памяці «тэорыю» бесканфліктнасці. Наўрад ці можна прыдумаць нешта больш нябяспечнае для літаратуры, чым адмову ад усебаковага паглыбленага аналізу рэальных цяжкасцей, праблем і канфліктаў. Хіба гады бесканфліктнасці нас нічому не навучылі? У тэарэтычных, абстрактных разважаннях ніхто не будзе абараняць бесканфліктнасць, але практыка і тэорыя не заўсёды ў крытычнай дзейнасці супадаюць. Разыходжанні бываюць часцей за ўсё там, дзе крытыка трапляе ў путы нарматыўных патрабаванняў, якія, дарэчы сказаць, некаторыя крытыкі самі ж і прыдумваюць. Прыдумалі, напрыклад, вельмі адвольныя тэрміны «вясковая» і «гарадская» проза, якія ніколі і ні да чога не абавязваюць, але аналітычную думку стрымліваюць. Вось і Таіса Грамадчанка ў насычаных цікавымі назіраннямі артыкулах настойвае на «незалежнасці» гарадской прозы ад вясковай. А як жа ў такім разе быць з крытэрыямі ацэнкі, якія ў беларускай літаратуры выпрацоўваліся на вясковым матэрыяле на працягу, бадай, трох стагоддзяў? Прызнаць іх несапраўднымі, калі пераважная большасць насельніцтва засяроджана ў гарадах?

*Гуманістычная літаратура* ніколі не была свабоднай ад крытэрыяў, выпрацаваных папярэднім пазнаннем. У раманах Максіма Гарэцкага, Кузьмы Чорнага, Міхася Зарэцкага. Платона Галавача і на гарадскім і на вясковым матэрыяле асэнсоўваліся праблемы вялікага сацыяльна-палітычнага значэння. Да такіх твораў, як «Віленскія камунары», «Бацькаўшчына», «Вязьмо», «Спалох на загонах», «Палеская хроніка», немагчыма прышпіліць бірку «вясковых» ці «гарадскіх», хоць у адных больш увагі аддаецца вёсцы, у другіх — мястэчку і гораду.

Менш за ўсё заснавальнікаў беларускай прозы цікавілі асаблівасці сялянскага ці гарадскога побыту самі па сабе.

Праз сялянскі матэрыял беларуская літаратура паказвала гістарычнае адраджэнне народа, станаўленне і рост яго палітычнай актыўнасці. Сфарміраваныя пры гэтым крытэрыі эстэтычнай ацэнкі не адзін раз пацвердзілі сваю надзейнасць. Дзіўна было б набыты творчы вопыт лічыць прыдатным толькі для вясковай тэматыкі. Ахвяраваць дасканалымі крытэрыямі толькі ў імя паказу спецыфікі сучаснага гарадскога побыту было б неразумна. Наадварот, пэўная слабасць сучасных твораў пра горад якраз і пачынаецца з таго, што ў іх адсутнічае гістарычны далягляд — той крытэрый дзейснага гуманізму, які, напрыклад, уласцівы Якубу Коласу, Кузьме Чорнаму ці Івану Мележу ў адносінах да сваіх сялянскіх герояў. На гэтыя крытэрыі, на ацэнку чалавека з пункту гледжання яго сацыяльна-палітычнай актыўнасці не можа не арыентавацца і крытыка. У іншым выпадку ад яе таксама нельга чакаць плёну. Падзел літаратуры на вясковую ці гарадскую пакуль што нічым не ўзбагаціў літаратурна-крытычную думку.

Безумоўна, многія дасягненні ў сучаснай прозе звязаны з паказам духоўнай сувязі асобы з вёскай, але трэба прызнаць і тое, што пэўныя матывы распрацоўваюцца па інерцыі. Найбольш пашыраны з іх — «трэба дома бываць часцей». Лукаш Калюга яшчэ ў 20-я гады ў аповесці «Ні госць, ні гаспадар» паказаў характэрную асаблівасць мігранта: у вёсцы («дома») ён ужо не гаспадар. Ну, а сёння, калі ўжо нават пасляваенныя мігранты гадуюць унукаў, — няўжо яны ў горадзе жывуць па прынцыпе «ні дома, ні замужам»? Калі гэта так, то ці можна такую непрыкаянасць лічыць за норму? І ці не час змяніць акцэнты: і ў горадзе пара жыць не госцем?

Літаратура нашых дзён шмат увагі аддае аналізу разнавіднасцей «непрыкаянага маладзіка». «Так у мяне выйшла ў сорак год, — пісаў Васілій Шукшын, — што я — ні гарадскі да канца, ні вясковы ўжо. Жахліва нязручнае становішча. Гэта нават не між двух крэслаў, а хутчэй так: адна нага на беразе, другая ў лодцы».

У беларускай прозе ёсць свае асаблівасці пераадолення непрыкаянасці. У творах Аляксея Кулакоўскага, Алеся Асіпенкі, Паўла Місько, Яўгена Радкевіча, Валянціна Блакіта, Віктара Карамазава, Віктара Казько, Алеся Жука, Васіля Гігевіча і іншых пісьменнікаў, што звяртаюцца да сучаснай тэматыкі, пераважае матыў пошуку агульнага сэнсу быцця. Праблема акліматызацыі ў горадзе ці ў новых саўгасах на асушаных тарфяніках — гэта часцей за ўсё прыватныя моманты асноўнай праблемы: нязменнай застаецца цікавасць да пытання аб жыццятворных магчымасцях чалавека энтээраўскага часу. У артыкуле Юліі Канэ «Якія мы былі — якімі станем» ёсць цікавае назіранне, вартае самай пільнай увагі: у сучаснай літаратуры паказана духоўнае аблічча «сацыяльнай групы, для якой горад неарганічны і новы». Сцёпачка з аповесці В. Гігевіча «Калі пойдзе снег» шукае самазабыцця ў выпадковых кампаніях і выпіўках, ён «яшчэ не падрыхтаваны да жыцця ў горадзе». Да гэтай слушнай заўвагі можна дадаць, што такія Сцёпачкі ўжо не здатныя і для вясковага жыцця. Ды і для «чыста» гарадской кампаніі, да якой прымкнуў Сцёпачка, горад як цэнтр культуры ў такой жа меры неарганічны, як і для ўзгадаванага ў вёсцы Сцёпачкі.

Горш другое: у горадзе не было каму *паклапаціцца пра духоўныя інтарэсы* Сцёпачкі. У асяроддзі «з бярозаўскім вымаўленнем» пагардліва ставіцца да ўсіх тых духоўных каштоўнасцей (у тым ліку і да мовы), з якімі Сцёпачка мог бы ўвайсці ў гарадское жыццё. У аповесці «Жыціва» В. Гігевіч паказаў, што падобны нігілізм у дачыненні да працоўнай маралі, этыкі і эстэтыкі пранікае і ў вёску.

Калі ўжо гаворка зайшла пра творы В. Гігевіча, то трэба адзначыць, што ён у цыкле аповесцей з «бярозаўскай хронікі» паказаў нямала разнавіднасцей сучаснага тыпу, які задавальняецца імітацыяй духоўных запатрабаванняў, а сэнс жыцця знаходзіць ва ўхіленні ад складаных яго праблем. Гэта, так сказаць, адваротны бок спажывецкага імпэту — ілюзія самасцвярджэння праз самазабыццё, не абцяжаранае ні духоўнасцю, ні «вешчызмам».

Аб непрыкаянасці, як і сіле прывычкі, у рамане Кузьмы Чорнага «Зямля» разважаюць не толькі інтэлігенты, але і самі сяляне: «Што ж ён, з малых дзён ніколі не з'еў па-чалавечы, ні то што іншае. А цяпер, дык ён прывык і яму самому здаецца, што іначай нельга. Не то што ён дажывае веку, а так жыве. Можа, часам ён і зрабіў бы як мае быць, ды ж не прывык ён. Тут трэба, каб штурханулі яго як мае быць, каб у яго аж душа затраслася. Тады ён інакшым зробіцца. На новы капыл яго нацягнуць трэба. Бо ззамаладу, што ён ні пачынаў рабіць, дык усё яму рукі абцінала. Урэшце ў яго і выходзіць, што дзень пражыў, то і дзякуй богу...» Так думае пра бедняка Мацвея бяздомны Мікалай Крываносы. У яго таксама «стыне душа» пасля страт, перажытых у час імперыялістычнай вайны. Мікалай нават не хоча браць зямлю, будаваць хату і спадзяецца, што толькі на вялікай будоўлі, у вялікай справе перастане стыць душа.

Гуманізм беларускай прозы пасляррэвалюцыйнага дзесяцігоддзя праявіўся ў тым, што яна клапатліва і разам з тым патрабавальна паставілася да спакутаванай душы гаротніка-селяніна, якому яшчэ трэба было прайсці вялікі духоўны шлях, каб адчуць сябе гаспадаром у сваёй хаце, вёсцы, дзяржаве.

Адчужанасці не ведала новае пакаленне, якое сфарміравалася ў перадваенны час:

**Скажу: «хачу» — і кніга мне належыць.**
**Скажу: «магу» — і сам будую дом.**

Пачуццё гаспадара абудзіла ў маладзі творчы пачатак:

**Каб вырас я настойлівым, упартым,**
**Радзіма, нахіляўшыся над партай,**
**Цяжкому рамяству мяне вучыла —**
**Тварыць і жыць.**

Сэнс гэтых шырока вядомых радкоў з верша Пімена Панчанкі «Маё і тваё маленства» (1944) выходзіць далёка за межы ваеннага часу. У іх чуецца пераўтваральны паступ рэвалюцыі, бачацца адбіткі жорсткага часу ў свядомасці розных пакаленняў. Надзвычай дакладна намаляваны вобраз маленькага чалавека, што з'явіўся на свет у 1941 годзе:

**Ён нарадзіўся ў рабстве**
**Ён глядзеў**
**Галоднымі вачмі, як вораг еў,**
**Як вораг піў, як вораг рагатаў,**
**Як нашы кнігі вылюдак таптаў.**

Яшчэ ў 1942 г. П. Панчанка гаварыў у вершы «Дзеці вайны», што сляды перажытай трагедыі надоўга застануцца ў свядомасці пакалення, якое замест мацярынскай калыханкі і дзядавых казак чула «ахрыплы голас танкаў», «журботны енк удоў»:

**Лагодны гром за дальняю дубровай**
**Напомніць ім пра жах бамбардзіровак.**
**І часта, часта ў чыстыя іх сны**
**Ўрывацца будуць галасы вайны.**

Ва ўмовах пасляваеннага дзесяцігоддзя пісьменнікам нялёгка было паказаць дзейсную сутнасць чалавека, вызначыць вартасць асобы яе ўменнем «тварыць і жыць». Адэпты «тэорыі» бесканфліктнасці нават і пазней, у 60-ыя гады, спрабавалі блакіраваць творы, у якіх асэнсоўвалася трагічная сутнасць эпохі і рэальны гераізм чалавека. Сёння ўжо няма патрэбы даказваць, што немагчыма выказаць у літаратуры праўду веку, не сказаўшы пра трагедыю — тую, што нашы людзі перажылі сорак гадоў назад, і тую, што тэрмаядзерным кашмарам навісла над свядомасцю сучасніка.

Размова пра самасцвярджэнне асобы без уліку неабходнасці пераадолення трагічнай пагрозы — гэта неапраўданая гульня, імітацыя творчасці. Некаторыя крытыкі лічаць, што сёння неабходна засяродзіць усю ўвагу на паказе карцін катастрофы, якой можа быць для чалавецтва новая вайна. Думаецца, аднак, што гэта не адзіны шлях для сучаснага пісьменніка. Вялікая літаратура заўсёды па-мастацку асэнсоўвала ўрокі гісторыі, была чалавеказнаўствам, мабілізоўвала грамадскую актыўнасць. Для таго, каб па-сапраўднаму рыхтаваць будучыню, трэба мець выразнае ўяўленне аб тым, хто ёсць хто сёння, трэба валодаць дакладнай ацэнкай уласных магчымасцей, бачыць задачы рэальнага самасцвярджэння ў сучаснасці.

Літаратурнае пакаленне, што прайшло праз выпрабаванне вайной, стварыла глыбокую філасофскую лірыку. Яна стала грамадзянскім папярэджаннем аб тым, што наша рацыяналістычная эпоха шчодрая і на містыфікацыі і ілюзіі, у якіх вельмі лёгка можа заблытацца даверлівая істота:

**Усё, што працаю ты ў тлуме**
**Збіраеш стомаю гады,**
**Бяздумны век вайною глуміць,**
**Ператварае ў пыл і дым.**

**Ваюе! З кім? З бядою, смерцю?**
**О, не!.. Ён белы сам, як смерць,**
**І ў злосці ўсё гатовы сцерці,**
**Што сам не можа зразумець,**
**Што не ўкладаецца ў сістэмы**
**Яго дзяржаў, яго багоў, —**
**Бо што яму, нарэшце, усе мы —**
**Трава някошаных лугоў.**

**Трава, што не ў пракосы ляжа**
**І не ў высокія стагі,**
**А ападзе счарнелай сажай,**
**Як дань няўцешнае тугі.**

Гэта радкі з верша Алеся Бачылы «Не спадзявайся на праракоў». Яны суугучныя радкам Янкі Купалы: «Не веру купленым праракам, што з казальніц прамовы лгуць». «Грукай у дзверы гісторыі», — заклікае сучасніка А. Куляшоў. Грукай цяпер, зараз жа, не даваючы палітыканам — гандлярам чалавечай крывёй.

Характэрна, што да філасофска-публіцыстычнага асэнсавання гісторыі сучасная лірыка ўзнялася, ідучы ад сялянскай тэмы, праз асэнсаванне вынікаў сацыяльна-палітычнай дзейнасці, матэрыялізаваных у гістарычным лёсе народа, большую частку якога да нядаўняга часу складала сялянская маса.

Гэткім жа шляхам ішла і проза. І. Мележ пачаў «Палескую хроніку» паказам будаўніцтва грэблі ў закінутых Куранях, а прывёў чытача да асэнсавання палітычных падзей, што мелі месца ў Мінску і Маскве.

Ёсць пэўная заканамернасць у тым, што да вобраза ўсебеларускага старасты А. Чарвякова пасля І. Мележа звярнуўся і Васіль Быкаў у аповесці «Знак бяды». З усяго відаць, што сёння літаратура не можа абмяжоўваць сябе паказам чалавека працы на ўжо асвоеных рубяжах. Існуе патрэба пашырыць у літаратуры гарызонты дзейнасці («деяния», казаў Максім Горкі) сучасніка, ацаніць яго магчымасці, здабыткі і пралікі на ніве грамадска-палітычнай, у ідэалагічных баях сучаснасці.

Менавіта на такія рубяжы пазнання рэчаіснасці выводзіць сучасніка проза прадстаўнікоў старэйшага пакалення, у якой вылучаюцца не толькі «Палеская хроніка» І. Мележа, «Знак бяды» В. Быкава, але і такія па-новаму цікавыя сёння творы, як «Птушкі і гнёзды» Янкі Брыля, «Шметы» Міколы Лобана, «Непрыкаяны маладзік» Алеся Асіпенкі, «Петраград—Брэст» Івана Шамякіна.

Нават гэтай невялікай колькасці твораў дастаткова ўжо для таго, каб вылучыць прыкметныя асаблівасці станаўлення *беларускага палітычнага рамана*, так арганічна звязанага свімі вытокамі з паказам сялянскага жыцця. Не толькі пералічаныя тут творы даюць падставу для таго, каб сцвярджаць, што вясковая праблематыка ў беларускай прозе не застаецца нязменнай, што яна прайшла пэўную эвалюцыю, што пэўныя яе аспекты ўжо вычарпаны, што крытыкі, якія гавораць пра адставанне беларускай «вясковай» прозы, не хочуць заўважаць новага ракурсу ў прывычнай тэме.

Што датычыць крытэрыяў вартаснай ацэнкі быцця, якія ў беларускую літаратуру перайшлі з сялянскага фальклору, то яны па-ранейшаму застаюцца надзейным сродкам раскрыцця дзейснай сутнасці чалавека, хоць на першы план ужо выступае не касьба і жніво, а грамадска-палітычная дзейнасць асобы, сацыяльна-палітычная актыўнасць народа — такая касьба, на якую натхнёна заклікаў вялікі пясняр:

**Каб насілі да упаду**
**Пустацвет і зелле,**
**Што сваім пякучым ядам**
**Труцяць кроў у целе.**

Абпаленае ў маленстве вайной пакаленне не адразу змагло знайсці той рубеж, на якім наследаванне традыцыям было б найбольш плённае. І ў гэтым не толькі яго віна. Нялёгка было вызваліцца ад старых схем і натуралістычнай залежнасці ад матэрыялу і тым пісьменнікам, што прыйшлі ў літаратуру з поля бою. Яшчэ і сёння сустракаюцца творы пра вайну, у якіх аўтар гаворыць не сваім голасам або ідзе за натурай, пасіўна рэгіструючы рэальныя факты. (Ёсць крытыкі, якія падобную «дакументальнасць» схільны лічыць ледзь не вяршыняй канцэптуальнага абагульнення). Дык і не дзіва, што ў творах пасляваеннага пакалення герой паказаны ў асноўным на шляху пераадолення ўнутраных супярэчнасцей. Крыху пазней узнікла пагроза з боку ваяўнічага нігілізму мешчаніна. У даваенны час ён дзейнічаў пад маскай «неистового ревнителя», сёння

**(Заканчэнне на стар. 6—7).**

# «ІДУ НА КЛІЧ ВЯСНЫ...»

РАЗМОВУ пра новую кнігу паэзіі Леаніда Дайнекі «Вечнае імгненне» хацелася б пачаць з верша, які ўразіў адразу.

**Гарыш, нервуешся, працуеш,**
**Габлюеш найсучасны верш,**
**Да славы велічна прастуеш.**
**Калі ж — прызнайся — ты жывеш?**
**Душа пакрыта гладкім лакам,**
**Ды стукне вечнасць у акно,**
**І ўздрыгнеш, бо даўно не плакаў**
**І не смяяўся ты даўно.**

Тут не вядомае супрацьпастаўленне паэзіі і жыцця, а перш-наперш жыцця і бездухоўнага, нежывога. І небяспека ў тым, што апошняе маскіруецца пад самае жывое — пад паэзію. А яе ж нельга «габляваць», бо яна заўсёды сучасная і вечная разам.

На гэтую ж тэму і верш «Жарт».

**Пішам, брат, няблага ўсе мы.**
**Ёсць пяро? Бяры. Пішы.**
**Ах вы, вершыкі, паэмы,—**
**Піратэхніка душы.**

Для душы, пакрытай гладкім лакам, менавіта «піратэхніка» і ёсць адзінае ўратаванне, адзіны спосаб не «быць», а «здавацца». Тут можна абысціся і без «іскры, той, што божаю завуць».

«Піратэхніка душы» — гэтак трапна акрэсліў паэт, мусіць, самую небяспечную з сучасных літаратурных хвароб. Трапна акрэсліў — бо і сам перахварэў на яе. Таму зараз так свядома адштурхоўваецца. Шэрым словам, якія «прымаюць мужнасць, як допінг, каб потым памерці ад перанапружання», паэт сказаў цвёрдае «не».

Радкі паэта часцей за ўсё выяўляюць саму сутнасць думкі і пачуцця, аднак дзе-нідзе яшчэ і пыхне што-небудзь ад учарашніх «салютаў».

**Кастрамі думкі гараць, не стынуць,**
**Трапечуць думкі, як гор праменні.**
**Давайце ж думаць не прымітыўна,**
**Давайце думаць праметэйна.**

І ўсё ж узнёсласць паэта не ад версіфікацыйнай гнуткасці, а ад чалавечай чуйнасці — таму ён не «накручвае» сябе, не даводзіць да экзальтацыі, не страляе з гармат па вераб'ях. Аўтар часта падкрэслівае, што ягоны ідэал — сціпласць. І ў чалавечых, і ў мастацкіх адносінах. «Сціплы чалавек» — так і называецца адзін з вершаў зборніка.

**Які ён быў? Звычайны. Будзённы.**
**Цярплівы. Цвярозы. Меў трое дзяцей**
**І не любіў здымацца на фоне**
**Высокіх гор і вялікіх людзей.**

Але здараецца, што ў гэтым жаданні важкай прастаты паэт з'язджае ў праставатасць, прасталінейнасць, нават банальнасць. Гэта відаць і ў вершах «Мой век — мая трывога», «Ода цвярозасці». Прастата заўсёды патрабуе заглыблення, сапраўднага, хай сабе і маленькага адкрыцця. Новы і знешні матэрыял апрацоўваецца паэтам на ўзроўні няпоўнай свядомасці, без моцнага пачуцця і таму застаецца ў многім паўфабрыкатам. «Піратэхнікі» выязджаюць менавіта на турысцкай экзотыцы, на сучасна-газетнай вастрыні — гэта іх уладанні. На іх тэрыторыі паэт адчувае сябе трохі ніякавата. Удача да Л. Дайнекі прыходзіць тады, калі вонкавы імпульс рэзаніруе з глыбокай і моцнай хваляю асабіста перажытага, а не толькі ўбачанага ці вычытанага. Гэта адбываецца ў адным з самых лепшых, на маю думку, вершаў паэта «А бог вясны прыходзіць босы». У ім пануе шчырасць пачуцця, адкрытасць свету прыроды і людзей, моцнае адчуванне каштоўнасці кожнага імгнення, і ўдзячнасць за гэта шчасце — быць чалавекам, жыць на сваёй зямлі, са сваім народам.

**Шумі, звіні, жывое вецце!**
**Паклон табе, турботны лёс,**
**За гэты міг, за гром, за вецер,**
**За вочы мокрыя ад слёз!**

Наогул, лепшыя вершы амаль заўсёды аб вясне — з пафасам дзейнасці, барацьбы, святочнага пераўтварэння свету. «Ударце, гарматы вясны, над кожнаю галавою!» Толькі вясною, парою натхнёнага і доўгачаканага дзеяння, знаходзіць паэт адказы на спрадвечныя, «восеньскія» пытанні жыцця: «Душу не збянтэжыць пытанне «Адкуль мы? Навошта мы ўсе?» Менавіта ўвесну знаходзяцца хай сабе і не апошнія, але сённяшнія і здавальняючыя адказы.

**Адкуль мы? З касмічных вышынь.**
**З глыбінь акіянскіх. Навошта?**
**Мы — вечнасці юная пошта.**
**Мы заўтрашніх дзён далячынь.**

Пры здольнасці адчуваць асалоду імгнення паэт не засяроджваецца толькі на ім. Яму «ў душу стагоддзяў глянуць хочацца, нібы ў акно, расчыненае ветрам». І гэта погляд лірычнага паэта, які ў мінулым адчувае імгненны водар жыцця.

Якім бы адметным і надзвычайным ні здавалася імгненне, яно ў рэшце рэшт усяго толькі кропка на вечнай лініі станаўлення, спраўджвання. Кропка, якая трохі падаўжае гэтую лінію. Дзякуючы позірку «ў душу стагоддзяў» сённяшняе імгненне асэнсоўваецца як працяг мінулага і абяцанне будучага. Менавіта таму яно вечнае і трывалае. Добра ў ім пачуваецца паэту. «Смела гляджу я ва ўсе бакі — вакол вякі і землякі». Зямляк Вячка з трынаццатага стагоддзя і Чарвякоў з дваццатага. Старажытныя дрыгавічы і дзяды Язэп, Марцін, Давыд, Кандрат, Якуб. «На розных мы канцах адзінай гіганцкай вольтавай дугі», — сцвярджае паэт, адчуваючы гісторыю як ток, як вечную і жывую сувязь. Любыя разрывы ў гэтым ланцугу — небяспечныя. Цэласнасць сённяшняга чалавечага свету залежыць і ад цэласнасці гістарычнага самаадчування.

Погляд з сённяшняга дня на старажытнасць дапаўняецца поглядам, хоць і спрэчным, з будучыні на сённяшні дзень: «І мы калісьці станем старажытнымі, падобнымі на рымлян і на грэкаў». Пры гэтым паэт (ніякіх «лірычных герояў») адкрываецца ва ўсёй чалавечай, неўладкаванай прысутнасці ў сённяшнім дні — «светлага суму раса на сцежку жыцця асядае». Але аб гэтым паэт гаворыць не часта. Энергічны, сабраны, ён пераконвае, вучыць, прапаведуе. Лірыка-публіцыстычныя вершы добра ўдаюцца паэту. І лепшыя з іх—«Не чуеце роднага грому?», «Атрымалі кватэру? Віншую...», «Захлынулася сэрца ад смутку і болю...», «У сэрца павінна быць тайна».

Паэт заўсёды з нечым змагаецца, нешта абараняе, і сілу яго змаганню надае менавіта тое, што ён змагаецца не з абстрактным праціўнікам, а з самым рэальным і добра вядомым — з самім сабою. Паэт таксама чалавек — і ўсе чалавечыя слабасці пры ім: «Я й сам у грахах, як у чорнай смале». Чытач прысутнічае пры гэтым суровым і бескампраміснымі ачышчэнні.

Апошняя кніга паэта таксама сведчыць, што валюнтарызм у адносінах да жыцця, уласцівы ў маладосці яго пакаленню, пераадолены. Паэт па-чалавечы смуткуе аб тым часе, аб узнёслым адчуванні свету, аб лёгкасці мар, аб вышыні імкненняў.

Рамантычная ўзнёсласць пачуццяў (трохі літаратурнага паходжання), уласцівая вершам Л. Дайнекі, добра прывязана да рэчаіснасці, да вечных і трывалых каштоўнасцей жыцця. Але гэтая ўзнёсласць, не такая ўжо частая ў сучаснай беларускай паэзіі, дае падставу лічыць яго рамантычным паэтам.

**Валерый ЛІПНЕВІЧ.**

Л. Дайнека. Вечнае імгненне. Мінск, «Мастацкая літаратура, 1985.

# ТАЯМНІЦЫ СЛОЎ

Выдавецтва «Народная асвета» робіць вельмі патрэбную, карысную справу, знаёмячы чытачоў з цікавымі і займальнымі фактамі мовазнаўства ў серыі «Скарбы мовы». Нядаўна гэтая серыя папоўнілася яшчэ адной кніжкай пад назвай «Чаму мы так гаворым», якую склалі І. Шпадарук і В. Рудакоўскі.

Першы раздзел прысвечаны крылатым словам і афарызмам. Аўтары кнігі падабралі з друкаваных крыніц крылатыя выразы грэчаскага і лацінскага паходжання, а таксама заходнееўрапейскія, што ў розныя перыяды трапілі ў беларускую лексічную сістэму, узбагацілі яе. Шмат выслоўяў, цікавых і павучальных, старшакласнікі маглі сустракаць пры вывучэнні рускай і беларускай літаратуры, напрыклад: «Ёсць яшчэ порах у парахаўніцах» (М. Гогаль, «Тарас Бульба»), «Мядзведжая паслуга» (І. Крылоў, «Пустэльнік і Мядзведзь»), «Да славы прагныя, ды вузкія ў плячах» (К. Крапіва, «Саманадзейны Конь») і іншыя.

Як вядома, тэрмін «крылатыя словы» абазначае не любы трапны выраз, які ходзіць у народзе, а толькі той, што сваім паходжаннем звязаны з пэўным творам мастацкай, навуковай ці палітычнай літаратуры, з пэўным аўтарам. У XIX ст. нямецкі вучоны-філолаг Георг Бюхман напісаў кнігу «Крылатыя словы», у якой гэта вызначэнне абгрунтаваў так: «крылатымі» называюцца выслоўі, у якіх ёсць аўтар і крыніца.

У рэцэнзуемым выданні амаль усе выслоўі пашпартызаваны, апрача народных прымавак. Да многіх крылатых выразаў І. Шпадарук і В. Рудакоўскі імкнуліся даць шырокае і грунтоўнае тлумачэнне, паколькі кніга адрасавана юным чытачам — школьнікам сярэдняга і старэйшага ўзросту. Вось як, напрыклад, падаюцца, некаторыя выслоўі: «Застацца з носам» — цярпець няўдачу. З такім значэннем гэты выраз ужываюць многія, аднак не ўсе ведаюць яго паходжанне. А справа вось у чым: у старыя часы, каб дабіцца станоўчага рашэння ў судзе ці ў якой-небудзь установе, трэба было нешта тайна прынесці, даць хабар, які называўся **прынос** або проста **нос**. Калі чыноўнік ці суддзя браў прынос, то можна было спадзявацца на станоўчае рашэнне, на дапамогу, а калі адмаўляўся (ці прынос быў малы, ці па іншай прычыне), то прасіцель вяртаўся дамоў з прыносам, з носам, адсюль, і пайшло: «застацца з носам». Думаецца, што многія і дарослыя, ужываючы гэты выраз, маюць на ўвазе нос — орган нюху, а не аддзеяслоўны назоўнік «прынос».

Другі раздзел кнігі называецца «З біяграфіі слоў». Аўтары паставілі мэту даць тлумачэнне слоў папулярных у наш час, але невядомых ці забытых па этымалогіі. Гэтым самым не толькі пашыраюцца агульныя веды вучняў, а і абуджаецца цікавасць да філалогіі, да лінгвістыкі, выхоўваюцца будучыя мовазнаўцы, будучыя вучоныя. Вось, напрыклад, «біяграфія» слова «адэкалон». У 1709 г. адзін немец з г. Кёльна вырабіў духмяную ваду і назваў яе «Кёльнішвасер» — кёльнская вада. Навінку запазычылі французы і назвалі яе па-свойму: «о дэ Колонь», што значыць «вада з Кэльна».

У заключэнне хочацца выказаць складальнікам колькі заўваг. Перш за ўсё трэба клапаціцца, каб у выданні для школьнікаў трапіла як мага менш незразумелых ці малавядомых слоў. Так, на с. 5 чытаем: «...два ашуканцы **памеліся** выткаць за вялікую плату новае адзенне каралю». А што такое «памеліся»? Такога слова няма ў слоўніках беларускай мовы, відаць, лепш было б напісаць «надумалі», «задумалі» ці як інакш. Часам на старонках сустракаюцца недакладнасці. «Слова (жыхар) утворана з дапамогай суфікса -р-» (с. 57). Але ж у славянскіх мовах назоўнікі асобы ўтвараюцца пры дапамозе старажытнага суфікса -ар, а не -р, — гэта пацвердзяць усе граматыкі беларускай і іншых славянскіх моў. Або вось даецца слова «пельмені» і тлумачыцца: «Запазычана з фінскай мовы, дзе слова ўтворана з **пель** — вуха і **нянь** — хлеб. Літаральна: вушкі з цеста». Аўтары ўзялі тлумачэнне, напэўна, з этымалагічнага слоўніка А. Г. Праабражэнскага, які сам не быў упэўнены ў сваёй здагадцы, бо **нянь** — не **мень**. Вучоны сумняваўся, а іншага тлумачэння ён не ведаў. А як вучням зразумець, што **нянь** пераўтварылася ў **мень?**

Серыя «Скарбы мовы» папоўнілася яшчэ адной цікавай, а галоўнае — карыснай для школьнікаў, усіх, хто цікавіцца роднаю моваю, кнігай.

**Мікола ВАСІЛЕЎСКІ.**

Чаму мы так гаворым. Складальнікі І. Шпадарук, В. Рудакоўскі. Серыя «Скарбы мовы». Мінск, «Народная асвета», 1985.

# ЗА ЎСЁ Ў АДКАЗЕ, або Новыя матывы і пераемнасць традыцый

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).

— пад маскай носьбіта архісучаснай свабоды ад «ланцугоў» культуры.

Маладыя пісьменнікі чэрпалі сілу ў духоўнай блізкасці з народам, з вёскай — своеасаблівым цэласным духоўным арганізмам, у якім на працягу стагоддзяў выпрацавалася здольнасць да самарэгулявання і духоўнага самаруху. Проза Уладзіміра Караткевіча, Уладзіміра Дамашэвіча, Паўла Місько, Івана Пташнікава, Івана Чыгрынава, Вячаслава Адамчыка, Анатоля Кудраўца, Алеся Наўроцкага, Міхася Стральцова, Янкі Сіпакова, Барыса Сачанкі з першых крокаў сілкавалася аптымізмам народнага светасузірання. Пачуццё адзінства з вясковай стыхіяй, упэўненасць у вартасці перажытага забяспечылі лірычнай прозе поспех у барацьбе супраць рыторыкі і казёншчыны. З даверу да перажытай разам з народам бяды і радасці, з даверу да ўласных адчуванняў і пачуццяў, да ўласнага вопыту пачынаецца мужнасць аналітычнай думкі, прынцыповасць у даследаванні трагічных сітуацый, тупіковых і крызісных момантаў духоўнага жыцця.

Варта тут прыпомніць некаторыя псіхалагічныя калізіі з апавяданняў В. Адамчыка, заўсёды зацікаўленага момантамі ўзлёту і падзення чалавека, яго бяды і віны. «Як хто, а я ў свае трынаццаць год любіў цёмныя, хоць выкалі вока, ночы з бясконцым дажджом і моцным ветрам», — шчыра прызнаецца герой з апавядання В. Адамчыка «Па часе». Перажыванне сіроцтва было ў дзіцяці асабліва абвостранае ў такія ночы. «Мяне разбіраў жаль, апаноўвала моцная крыўда, востры боль раставаў у маім сэрцы, расплываўся па ўсім целе лёгкай слабасцю, на вочы набягалі слёзы — і я плакаў. Плакаў ціха, прыглушана, каб не чуў айчым, мама, але — уволю. Я шкадаваў бацьку: ён не прыйшоў з вайны».

Надзвычай дакладны псіхалагічны малюнак. В. Адамчык паказвае, што боль скоўвае, прыгнятае духоўныя сілы маленькага чалавека, атручвае пачуцці сямейнай блізкасці. Унутранае вызваленне далося хлопчыку «па часе» і дарагой цаной — праз асэнсаванае перажыванне трагічнай страты маленькага брацікa.

В. Адамчык у цэнтры ўвагі паставіў вобраз дзіцяці, якое ўсведамляе страту, сваю душэўную траўму. В. Быкаў у аповесці «Воўчая зграя» разглядае іншы варыянт — калі дзіцячая памяць не захавала выпрабавання агнём і вадой. Сустрэча Леўчука праз многа год пасля вайны з Віктарам Платонавым, якога ён ратаваў у час блакады, ставіць чытача перад неабходнасцю даць адказ на шэраг пытанняў. Што ведае Віктар Платонаў пра першыя дні свайго жыцця, пра сваіх загінуўшых бацькоў і выратавальнікаў? Які ён сёння сам — як чалавек, як грамадзянін? Што зрабіў ён дзеля гарантыі заўтрашняга дня сваёй дачкі — сямігадовага дзіцяці? І наогул, які кірунак зможа надаць грамадскаму жыццю пакаленне, якое ідзе на змену тым, хто разграміў гітлераўцаў? Падобныя пытанні турбуюць чытача на працягу ўсёй аповесці «Воўчая зграя», а на апошняй старонцы, калі Ляўчук нарэшце пераступіў парог кватэры Віктара Платонава, яны ўспрымаюцца як неадкладная неабходнасць грамадскага самапазнання і самаацэнкі.

У гэты ж час з'явіліся аповесці В. Казько «Суд у Слабадзе» і «Цвіце на Палессі груша». Яны — як бы працяг размовы, пачатай у «Воўчай зграі». У іх пісьменнік прад'явіў вялікі гуманістычны рахунак эпосе і сучасніку, і загаловак «Судны дзень» лепш перадае ідэйную накіраванасць, чым «Суд у Слабадзе».

Беларуская літаратура яшчэ ў даваенныя гады гаварыла і пра дачасную сталасць беларускага дзіцяці, пра дачасна страчанае маленства. В. Казько таксама хвалююць гэтыя матывы, але больш за ўсё цікавіць яго пытанне грамадзянскай сталасці пакалення, абпаленага вайной. Перш чым адысці ў нябыт, семнаццацігадовы Колька Лецечка з аповесці «Суд у Слабадзе» адмовіўся ад усялякіх ілюзій наконт уласнай будучыні, якую ў яго адабралі фашысты. Гучныя прозвіш-

# МОЎНЫЯ СКАРБЫ МСЦІСЛАЎШЧЫНЫ

У сучасных беларускіх мовазнаўцаў і літаратараў праявілася значная цікавасць да вывучэння жывой, народна-дыялектнай мовы, асабліва лексікі і фразеалогіі родных гаворак. Як вынік карпатлівай і мэтанакіраванай збіральніцкай працы выйшлі ў свет і невялікія падборкі мясцовых слоў, і больш буйныя матэрыялы да абласных слоўнікаў, і асобныя дыялектныя ці рэгіянальныя слоўнікі. Таксама распачата выданне такіх самавітых лексікаграфічных зводаў, як «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» і «Тураўскі слоўнік», складзеных у асноўным супрацоўнікамі Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР. Да апошніх прац паўнапраўна прымыкае публікацыя дыялектнай лексікі ў трох частках пад адзінай назвай «Народнае вытворнае слова», ажыццёўленая Георгіем Юрчанкам.

Як і папярэднія пяць лінгвістычных кніг Г. Юрчанкі — «Дыялектны слоўнік» (1966), «Народная сінаніміка» (1969), «І коціцца і валіцца» (1972), «І сячэ і паліць» (1974), «Слова за слова» (1977), — новыя тры маюць падзагаловак «З гаворкі Мсціслаўшчыны».

Дыялектная лексіка, уключаная ў рэестр новага слоўніка, сабрана Г. Юрчанкам пераважна ва ўсходняй частцы Мсціслаўскага раёна. Для публікацыі былі выбраны толькі тыя словы, якія адсутнічаюць у пяцітомным «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» і ў найбольш поўных слоўніках рускай літаратурнай мовы. Яны, як правіла, не друкаваліся ў памянёных вышэй працах аўтара.

У новым слоўніку Г. Юрчанкі пададзена і растлумачана больш за 16200 дыялектных слоў і іх словаўтваральных, а таксама марфалагічных варыянтаў. Увесь фактычны і ілюстрацыйны матэрыял паказвае на надзвычайна вялікую жывучасць рэгіянальчай спецыфікі не толькі ў лексіцы і словаўтварэнні беларускага народа, але і ў марфалогіі, сінтаксісе, фанетыцы, наогул у любой так званай маўленчай сітуацыі, нягледзячы на агромністы ўплыў беларускай і рускай літаратурных моў на ўсе падсістэмы народнай гаворкі Мсціслаўшчыны і яе пагранічча.

Словы і словаформы, занатаваныя Г. Юрчанкам, адносяцца галоўным чынам да разраду эмацыянальна - экспрэсіўнай лексікі і заканамерна суправаджаюцца стылістычнымі паметамі як абражальныя, абуральныя, асуджальныя, грубыя, *зневажальныя*, *іранічныя*, неадабральныя, пагардлівыя, узмацняльныя, узнёслыя і інш. Вядома, аўтар не пакінуў без увагі слоў з памяншальна-ласкальнымі і павелічальна-гіпербалічнымі суфіксамі, з пераносным значэннем, слоў, што надаюць усяму маўленню ці асобнаму выказванню гумарыстычнасць, жартаўлівасць і г. д. У выніку атрымаліся цікавыя лексічныя гнёзды, формаўтваральныя і словаўтваральныя рады, варыянтныя пары накшталт **адчыкрыніваць адчыкрынівацца, адчыкрыніць, адчыкрыніцца, адчыкрынетый** (пра лёгкае, спрытнае адразанне); **атмякшыць, атмякшоный, атмякшомшы** (назвы, звязаныя з лупцоўкай); **браток, браточак, братка, братачка, братуха, братушка, брахненька, брахнейка, братуля, братулька, братулічка, братулінька** (пра зварот да блізкага чалавека); **бяльмастый, бяльматый** (1. З бяльмом на воку; 2. Залішне цікавы); **вашаком, вашакомец, вашакомнік, вашакомшчык** (задавака, выхваляка); **зямліца, зямлічка, зямелька, зямелічка, зямелюхна, зямлішча** (пра зямлю як грунт); **іззаду, іззадзі** (ззаду); **міжсобкаю, междусобкаю, паміжсобкаю** (міжусобна); **панаваджываць, панаводжываць, панавадзіць, панавесць** (панаводзіць, навесці); **трыпузый, трохпузый** (тлусты); **удвацццацёх, удваццацярых** (у колькасці дваццаці *асоб*); **якей, якоў** (які) і шмат інш.

Большасць з рэестравых слоў растлумачана літаратурнымі адпаведнікамі. Аднак шматлікія мясцовыя паняцці і іх адценні Г. Юрчанку прыйшлося тлумачыць апісальна: аббарабаніваць — абгаворваць усюды і на ўсе лады; аджаніхацца — спыніць заляцанні; бадуля, бадуха — бадлівая карова; вечарынашнік — ахвотнік да вечарынак; доканне — выказванне здаволенасці; забойный — вельмі буйны (пра дождж); зялезы — 1. Пастка для лоўлі кратоў; 2. Жалезныя путы з замком для коней; канарэз, канарэзіна, канарэзішча — чалавек, які жорстка абыходзіцца з канём, наогул жорсткі чалавек; лычаваць — рабіць падкоп (пад каго-н.); маруськанне — падзыванне каровы словамі «марусь-марусь»; па-другасці — другі раз; разбіваннік, разбіванніца — той (тая), хто растрасае (гной, сена, салому і інш.); самаквасе — дачасна скіслы прадукт харчавання; сапожня — абутковая майстэрня; ужардзяваный — уціснуты жэрдкай; хром-хром— пра хадзьбу кульгавага; хуха, хухачкі, хухця — выгук з уздыханнем пры пачатку адпачынку і шмат інш.

Г. Юрчанка зафіксаваў нямала слоў з такім жа, як і ў літаратурнай мове, гукавым аблічам, але з інакшым значэннем: асколак — задзіра, балаўнік; бандура — вялікая нязграбная рэч; барана — 1. Беспарадак; 2. Неакуратны чалавек; бізун — худы, тонкі чалавек; брус — *празмерна тоўсты* чалавек; бура — буйнацелая асоба; вязаць — рубіць зруб; гармонікі — хрып; задачы — задаванне, фанабэрыя; заткала — крыкун; зверху — у дадатак, у прыдачу; капыл — капрызная, надзьмутая, незадаволеная асоба; марзянка — намарожаны знізу лубок для коўзання зімой; мянёк — сыты гультаяваты малады чалавек; нарта — назола, упартая асоба; памыць — *пахаваць; пекла — паўкруг* над квадратамі ў дзіцячай гульні ў «класікі», піпка — нос; поп — вялікі сноп, якім накрываецца капа або мэндлік; пустыня — 1. Пусты чалавек; 2. Вялізная недагледжаная хата; разгінацца — раскашэльвацца (пра скупога); разора— разбурэнне; сабачкі — ваўчкі; самасейка — пазашлюбнае дзіця; свісцёлка — легкадумная жанчына; скалупнуць — хітрыкамі пазбавіць пасады; увесь— безнадзейна слабы; укатаць — моцна збіць; уніят — нягоднік; хобат — карак; хрыпець — жыць са слабым здароўем і інш.

У «Народным вытворным слове» Г. Юрчанкі знайшлі пэўнае месца асіміляваныя на мясцовы лад ці зусім замененыя рэгіянальнымі назвамі агульнаўжывальныя, агульнанародныя, агульнабеларускія «нормы»: анцімонія, анцімоны — антымонія, пустаслоўе; бралка — ільноцэ*рабілка; з'ёмшчык, зніманнік* — фатограф; казёнка — гарэлка з лаўкі; лахмаценне, лахмачча — лахманы; марудства — марудласць; мурзалей, мурзач — мурза; мякчуг — мяккая трава; набандурыцца— натлуміцца; надвечар — адвячоркам; надзяўбацца, надзёўбацца — надзяўбціся; няхоццю — неахвотна; падоба — падабенства і шмат інш.

Надзвычай цікавыя з лінгвістычнага пункту гледжання з'яўляюцца многія варыянтнасінанімічныя рады, у якія можна аб'яднаць раўназначныя ці блізказначныя рэгіяналізмы, па*дадзеныя ва ўсіх трох частках* «Народнага вытворнага слова». Асабліва гэта тычыцца лексікі, звязанай з назвамі асобы, рыс характару чалавека, найчасцей адмоўных. Напрыклад: абараняннік, абараняльшчык, абараняльнік, абароншчык, абарона— бараненнік — заступа (абаронца); балабол — баўтаннік — баўтуха — болмат — боўтала — верзяя — лапатаннік — ласкатаннік, ласкатун — пустамалот — сакатуннік — талалай, талалайка, талакала — трапун, трапатун — траскатун, траскун — трылюдзішча — халайдра — цяўкала — язышнік (балбатун); балдэс, балдэська, балдэсічка, балдэсіна, балдэсішча — безгаловец — дуралей, дуралея — легкадумнік — малавумнік — малахольнік — тумак — тупіла — турак — цецярлюк — шаламяэй, шаламшуй шамачок (дурань); брысюган — завала, заваліна, завалюга, завалішча — ламіна — лындуля, лындулька, лындуліна, лындулішча — мянёк (гультай) і г. д.

Варта адзначыць, што Г. Юрчанка ў сваёй аб'ёмнай лексікаграфічнай працы зарэгістраваў вялікую колькасць экспрэсіўных і вобразных слоў, якія пры ўмелым выкарыстанні іх хоць бы ў мастацкай літаратуры і публіцыстыцы могуць стаць ці сінонімамі літаратурных слоў ці ўвогуле літаратурнымі нормамі. Такімі з'яўляюцца пакуль што наступныя рэгіяналізмы: абасець — зрабіцца босым; абеданне — сядзенне за абедам, абед; аблом — паламаныя бурай дрэвы; абмываннік — *той, хто абмывае*; абмятаннік — той, хто абмятае; аддручыць — набіць дручком; аддыханне — адпачыванне; адпаска — пасьба за іншых; ацяміцца— разабрацца, зразумець; базарыць, базарыцца — сварыцца, крычаць; бычэць — рабіцца грубым, нелюдзімым; бязвылазна — пастаянна; бяздоліца — няўдача; бязладнік, бязладніца — нелюдзь; векаўшчына — шматгадовы набытак; выстагнаць — выпрасіць; вытраскі — тое, што вытраслася; выхітрыць — дабіцца хітрыкамі; вярха, верхака — вярхом; вяршэнне— завершванне (стога, капы); вяшчуцца — прадчувацца; гадавік, гадавічок, гадавічочак — жывёліна ва ўзросце аднаго го*да; галаднець — робіцца галод*ным і г. д.

Новы слоўнік Г. Юрчанкі наглядна паказвае на шырокія кантакты народна - дыялектнай мовы Мсціслаўшчыны не толькі з беларускай літаратурнай мовай, яе вуснай разнавіднасцю, але і з сучаснай рускай літаратурнай мовай, з суседнімі рускімі народнымі гаворкамі. Асабліва гэта яскрава відаць з прыкладаў- ілюстрацый, узятых непасрэдна з жывога маўлення насельнікаў Мсціслаўскага раёна.

У цэлым чарговы слоўнік Г. Юрчанкі — удалы працяг вывучэння і публікацыі моўных скарбаў як роднай Мсціслаўшчыны, так і ўсёй усходняй Магілёўшчыны і яе пагранічча. Несумненна, ён прынясе вялікую карысць і вучоным, і студэнтам-філолагам, і журналістам, і пісьменнікам.

**М. АБАБУРКА.**

---

Г. Юрчанка. Народнае вытворнае слова. А-Л, М-Р, Р-Я. Мінск, «Навука і тэхніка», 1981, 1983, 1985.

---

чы, казкі, міфы, якімі выхавацелі хацелі аздобіць вечнае жыццё ў ізалятары, не суцяшаюць Кольку, не могуць кампенсаваць сапраўднае самасцвярджэнне. Выбраўшыся з ізалятара, Колька разам з *абуранай масай людзей прарываецца* ў клуб, дзе судзяць забойцаў, фашысцкіх памагатых, што каля складзеных штабелямі трупаў у канцлагеры маглі спакойна жаваць кусок каўбасы — узнагароду за катнюю працу.

На судзе да Лецечкі вяртаецца памяць, і ён зноў бачыць сябе ў агні вайны. Яго кволае цела і спакутаваная душа прагнуць спакою. Кольку хочацца пайсці да знаёмай сажалкі, да яе рыб. Ён і сам хоча, як і хлопчык з «Белага парахода» Ч. Айтматава, стаць рыбінай, нават *халоднай глінай, нямым пяском.* Ды ўсё ж перамагае грамадзянскае імкненне — знайсці і сказаць патрэбнае людзям на судзе слова, пераадолець немату і бяспамятнасць: «Вялікая справа яму даручана. Кім? А ён і сам не ведае — кім, бацькам, маці ці тымі забітымі, рускімі, беларусамі, яўрэямі, яго равеснікамі, дзецьмі, якіх спалілі, расстралялі, закапалі жывымі ў зямлю, утапілі ў калодзежах, якім патрушчылі галовы аб дрэвы, колы машын. Ад гэтай плошчы і павядзе ён знявечаных, расстраляных, спаленых, тых, хто не дажыў да гэтага светлага, ужо зямнога, суда».

Як вядома, К. Чорны яшчэ ў даваенны час напісаў раман «Судны дзень», які, на жаль, згубіўся. Матыў суднага дня, можна сказаць, скразны ў беларускай літаратуры, яму належыць прынцыповая *роля ў сістэме поглядаў на сутнасць* чалавека. Не месцажыхарства, а мабілізуючае грамадскае дзеянне расцэньваецца як канстытуцыйны фактар у структуры асобы. Такім дзеяннем для герояў В. Казько стала звернутае да суайчыннікаў слова, адшуканае ў глыбінях выпаленай вайной памяці. Размова ў яго творах, як і ў прозе К. Чорнага, ідзе не пра асобныя выпадкі з ваеннай рэчаіснасці, а пра лёс і будучыню народа. В. Казько дасягае шырокага абагульнення, надаючы малюнкам жыцця сімволіка-алегарычнае *напаўненне. Пры гэтым пісьменнік* удала выкарыстоўвае паэтыку плыней. Рэальнае жыццё трактуецца як адзін з магчымых варыянтаў жыццетваральнай дзейнасці чалавека, народа. Перажытая народам трагедыя ў гады вайны, трывога за заўтрашні дзень прымушаюць пісьменніка шукаць дзейсных сродкаў актывізацыі грамадскай думкі. У аповесці «Суд у Слабадзе» В. Казько паказаў свайго героя на рубяжы жыцця і смерці. Колька Лецечка памёр, але спачатку пераадолеў сваю адчужанасць і выйшаў з *ізалятара і сваім словам «было»* сцвердзіў сябе на судзе як грамадзянін.

На рубяжы духоўнага нябыту знаходзіцца і Яўмен Ярыга з аповесці «Цвіце на Палессі груша», вартасці якой да гэтага часу крытыка яшчэ не ацаніла належным чынам.

Завастраючы ўвагу на праблеме дзейснага слова, сучасная літаратура часта карыстаецца метадам доказу ад адваротнага. У аповесцях Я. Брыля «Золак, убачаны здалёк», В. Быкава «Знак бяды», І. Пташнікава «Тартак», рамане В. Адамчыка «Чужая бацькаўшчына» істотнае месца займаюць вобразы нямых. У аповесці «Цвіце на Палессі груша» нямы Яўмен Ярыга стаў галоўным персанажам. Яўменава маці знямела «пасля таго, як яе тры гады расстрэльвалі, палілі, выпалілі ўсё нутро». Дар слова да яе вярнуўся, калі прыйшоў з фронту бацька, але Яўмен і яго брат Рыгор нарадзіліся нямымі.

Яўмен прывык да свайго ўнармаванага жыцця. Праца за станком, ложак у інтэрнаце — такім было кола яго інтарэсаў да таго часу, пакуль не сустрэўся з Вольгай. У яе абліччы ён бачыў адбітак «вышэйшай мудрасці, якая палохала і прываблівала яго». І тым не менш Яўмен баіцца, што яго сын таксама народзіцца нямым, і лічыць, што будзе, лепш, калі дзіця не народзіцца.

У аповесці «Цвіце на Палессі груша» В. Казько даследуе сітуацыю, блізкую да той, якую К. Чорны паказаў у філасофскім рамане «Млечны шлях». Ва Уладзіміра Ярмаліцкага ў варожым палоне склалася «горкае ўяўленне»: яму гаспадары «загадалі мець дачку»— будучую служанку «іхняму маладому чалавеку». Уладзімір Ярмаліцкі гатоў загадзя адабраць у дачкі адчуванне «радасці існавання», каб зменшыць душэўныя пакуты ў няволі. Яўмен Ярыга хоча, каб яго сын наогул на свет не радзіўся, паколькі яму пагражае немата. «Ты баішся рызыкаваць, баішся страціць хоць малую частку таго, што маеш. А ці шчасце ты маеш, ці аб ім ты дбаеш? Спакою табе хочацца, спакою... Ці шчасце ж гэта, калі з *дня ў дзень адно і тое ж, адно і тое ж...* Гэта ж абыдзёнка. А ты — вол»,— так ацэньвае Яўменавы паводзіны Вольга. І сапраўды, Яўмен рабіў «замкнёны ў сабе, адгароджаны ад усіх сваёй нематой, як той чорны вол».

Філасофскае вырашэнне праблемы асобы ў літаратуры можа мець мноства аспектаў, але ёсць адзін, сёння асабліва хвалюючы. Праблема асобы ў літаратуры цесна ўвязваецца з праблемай гістарычнай памяці.

**(Заканчэнне будзе).**

**Пятрусь МАКАЛЬ**



●

На землях, якія заселім,
На гонях, што плугам узняты,
Штодзённа сеем і сеем
Зярняты,
Зярняты,
Зярняты.
Дыхае ніва вясенне
І ў лістападзе, і ў маі:
Дабра і зла насенне
Поле жыцця прымае.
Гледзячы на пагоду,
Сеюць, нібы варожаць.
Адны сеюць згоду,
Другія сеюць варожасць.
Дасюль у душы не сцерці
Тое, што перажыта,
Як сеялі зерне смерці,
Як жалі агнём жыта.
Бяссонна ўсюды на свеце
Нітка сяйва прадзецца...
А хто там сее вецер?
Буру пажаць давядзецца!
І я вяду ворыва,
Раллёю не пагарджаю,
Пытаю і ў друга, і ў ворага:
Якому быць ураджаю?
Фартух блакіту надзену,
Адкіну мякіну дробную,
Пасею, пасею надзею
На добрае.
Ці ўносім мы паі
У наша збавенне лясное?
А кажам бярозе: паі
Нас глыбінёй зямною!
Цяпер не тапаром,
Мы лес нажом турбуем,
Штодзень у яго бяром
І болей усё патрабуем.
Капае сок на пясок:
Бярозы, якія не ў гонары,
Нам аддаюць сок
Самаахвярна, як донары.
Зялёны друг не прадасць—
Не прагні яго пакарэння.
Адчуць бярозавік дасць:
Ці ж выстаіш без карэння?
Калі гулі баі,
У вогненнай кругаверці
Дрэвы шчытом былі,
Нас засланялі ад смерці.
Згараючы на кастрах,
Зналі, за што гінуць:
Ад нас адступаў страх
У холадзе лютым застынуць.
Ветру наперарэз
Зноўку, нібы на споведзь,
Спяшаюся ў цёмны лес,
Што грэе, бароніць і поіць.

## Страляюць душманы

*Сыну Святаславу, гвардыі сяржанту запасу*

Ах, і краіна—спякотны рай,
Дзе вецер палынна духмяны!..
І ўсё ж, калі можаш, не паміраі—
        Страляюць душманы.
Зялёнай зямлі сын малады,
Узростам—роўня падпаску,
Прыехаў на покліч сяброўства сюды,
Прывёз і праўду, і ласку.
З братамі салдацкія скарбы свае
Дзеліць юнак рахманы,
І хлеб аддае, і кроў аддае...
        Страляюць душманы.
Часамі ўсміхаюцца, як сябруку,
Лагодную робячы міну.
Ды толькі як пацiснеш руку,
Якая трымае міну?
Цікуюць наўкол кулямёт і кап'ё,
Што ў скалах схавалі туманы.
У сына майго і ў сэрца маё
        Страляюць душманы.
З тым, хто гаворыць мовай свінца,
Ці можна па-чалавечы?
Пяшчоту хлапца
Адвага байца
Змяніла ў грымотнай сінечы.
Рулю смяротную рулявы
Нацэльвае з-за акіяна,
І націскаюць кручок спускавы
        Пальцы душмана...
Хопіць нішчыць усё чалавечае
                                        ўшчэнт,
А голас шаўкова ціхмяны:
Гаворыць з заморскіх шырот
                                        прэзідэнт—
        Страляюць душманы.

## Бег

Працягваецца гульня:
Па гаравай дарожцы
Бягуць і бягуць штодня
Да лаўраў пераможцы.
Хоць бубнамі ногі гудуць,
Дыстанцыю не пакінеш.
Навыперадкі бягуць:
Свеціць спакуслівы фініш...
Балельшчыкі—мы глядзім,
Глытаем свае уздыханні:
На першым дыханні—адзін,
Другі—на другім дыханні.
Здаецца, не бегу лёс,
А лёс чалавецтва вершым.
Мы ўсхваляваны да слёз—
Хто прыбяжыць першым?
Мы трохі ўсе—бегуны:
Робячы рухі рупныя,
Бяжым з сівой даўніны
У сённяшняе і наступнае.
Бегаем мы наўскач
Па лесвіцах і магазінах,
Прыносячы радасць удач
У папках сваіх і карзінах...
Вёрсты нагамі лічы
На зайздрасць маторным колам,
Нястомна сябе лячы
Ад старасці бегам вясёлым.
Бегаем ноччу і днём
Па зёлкі і лекі для хворага.
Але і пад беглым агнём
Не бегалі мы ад ворага...
Бегаем, дождж ці снег,
Мы ўсе—бегуны трохі.
Няхай жыве бег—
Бог быстраногай эпохі!

## Скачок у вышыню

Ужо ўзаралі неба караблі.
А ты яшчэ, як прашчур старажытны,
Намацваеш апору на зямлі,
Каб зведаць
Вышыні глыток блакітны.
І вось скачок—
Да зорак наўпрасткі,
Што ўжо даўно з табой сустрэцца
                                        хочуць.
Не, не скачок—палёт!
А хто такі
Сказаў, што сам сябе не пераскочыш?
Галоўнае,
Што ўжо, працяўшы ціш,
Гром воплескаў гайдае небасхілы.
Галоўнае,
Што ты ляціш, ляціш,
Шырока распасцёршы рукі-крылы.
Няхай арбіта лётная твая—
Не больш як міг у акіяне зорным,
Ды як-ніяк вышэй сябе ўдвая
Узняўся ты ў парыве непаўторным...
А здолеў бы ў свінцовай цішыні
Ты ўзняцца ў поўны рост
Над рыжай пожняй,
Зрабіць скачок да энскай вышыні,
Што стаць магла ў тваім жыцці
Апошняй?
Мы на цябе з любоўю цэлім зрок:
Сябе аддаўшы ўзлёту да астатку,
Як на пярыну, зробіш на пясок
Без парашута мяккую пасадку.
Знайдзі—пераўзыдзі сябе самога,
Будзённую скаванасць страсяні,
Сагрэўшыся ў абдымках вышыні:
Табою з бою ўзята перамога.

## Хакей

Хакей—
і ўсё астатняе далоў!
Хакей—
якая лекавая ўцеха!
Хакей—
і ўсе ляцім мы стрымгалоў
з абдымкаў жонкі,
з кабінета,
з цэха...
Сапраўдныя мужчыны,
ўсе — на лёд!
Натоўп неўтаймаваным валам
                                        валіць,
а хто ў праход не ўціснецца,
скандаліць...
На лёд—
нястрымнай грамады налёт!
Канькі—
фартуны верныя канькі,
яны не проста ў бегу,
а ў палёце,
зігзагі крута крэслячы,
па лёдзе
на іх імкнуць да мэты
ігракі.
Заскача раптам брама прад вачыма,
хутчэй жа гол жаданы забівай!
Рывок—
бліскучы ўдар!
І шайба—міма...
Медаль удачы суднае,
бывай!
Балельшчыкі гукаюць гарачэй,
яны пра ўсё на свеце забываюць—
у браму
шайбу дружна забіваюць
сто тысяч пар нацэленых вачэй.
Тэлеэкран
пашырыць стадыён,
чый гул ва ўсіх краінах адзавецца...
І слізгаціць
за шайбай наўздагон
па лёдзе
палавіна чалавецтва.
Пакінь спакой—
і на хакей бяжы.
Хакей—
незацугляных крыкаў царства,
хакей, ты што такое, адкажы,—
хвароба ці гаючае лякарства?

●

Як да шчакі, рукою
Тулюся да самоты:
Ізноў не даюць спакою
Сварак суседскіх грымоты.
Разведзены нітка з іголкаю—
Як зацырую становішча?
Самота мая золкая—
Дрэннае бамбасховішча.
Каб не тануць у громе,
Хаваюся марна пад капаю.
Сусветны патоп у доме—
Кран навальнічна капае.
Халодны пот уедна
Праступіць і праз кашулю.
Чайнік сыкае медна—
Зараз параскашую.
Праз шчыліну сховішча ўпотай
Мне хтосьці з раптоўнай пяшчотай
Пасвеціць ліхтарыкам-вокам:
Хмара прайшла бокам.

●

Калі не здраджвае чутнасць,
На покліч прыйсці ты павінны:
Адсутнасць—
Заўжды падсуднасць,
Віны ты ці павінны.
Гаваруны
Любяць
І нагаворы, і плёткі,
Гаваруны
Лудзяць
Словамі ўласныя глоткі.
Судзяць чужыя заганы,
За цёмнай заслонай шторы
Іх трыбунал самазваны
Выносіць штодзень прыгаворы.
Чаго за вочы не скажуць—
Слоўны хварост дыміцца.
Скажуць—
Як сажай абмажуць:
Усё жыццё не адмыцца...
Ды вось ён і сам прыгавораны
Паўстаў перад вамі бунтоўна—
Гаваруны-вораны,
Чаму вы замоўклі раптоўна?
Хоць вы і чынна сядзіце,
Не абмініце сутнасці.
Завочна мяне не судзіце—
Судзіце мяне ў прысутнасці.



**Алесь МАСАРЭНКА**



АПАВЯДАННЕ

РАНІЦА выдалася надзіва празрыстая і да вусцішнасці гулкая. Ва ўсякім разе, так Мішку падалося. Магчыма, была яна гэткая ж самая, як і большасць ліпеньскіх досвіткаў,— проста цёплая, сонечная. А ўсё ж нечым рознілася: не такая, не звычайная была раніца — гэта Мішка нутром адчуваў, усімі фібрамі душы, хоць дзе яны ў ім, тыя «фібры», ён і блізка не ведаў.

Сапраўды, як толькі ступіў за парог, прайшоўся сюд-туд панадворкам — і цела яго бы наталіў хто бадзёрасцю. Увачавідкі падужэў, лёгка стала. Да нязвычнасці лёгка. Нават боль у вуху, левым, адхлынуў — сышоў, як маці кажа, на сухі лес. Трэба ж, ад самае зімы бадай штодня даймаў, а тут — знік, акурат выветрыўся. Хоць — што боль. Трактар (старой маркі калесьнічок) і той завёўся адразу. Бывае, занатурыцца — і ты яму што ні рабі, а ён і разу не чмыхне, маўчыць, пакуль не ўсчэпіць хто на буксір ды не правалачэ метраў з паўтараста.

Так, сёння ў Мішкі ўсё ладзіцца, ідзе роўна, без лішняга спеху і клопату. Учора Піліпчыкава Таня, паштарка, шапнула яму, каб у сем гадзін раніцы абавязкова быў на шашы. І дзе — ля нароўскай павароткі. Ён будзе там раней. «Але чаму на паваротцы? — непакоіўся Мішка.— Аксана ехаць куды сабралася?..— і разважыў нарэшце:— Ад маці хаваецца, каб не западозрыла і не села на хвост. Так, хаваецца!»

Трактар Мішка гнаў хутка, на калдобіны не зважаў. А калі выхапіўся на шашу — пагрукацеў краем асфальту яшчэ хутчэй.

З дзяцей Аксана апошняя ў Рагуцкіх. Яе брат і сястра, блізняты, на дванаццаць гадоў старэйшыя, жывуць і працуюць у Крычаве. Маці, Ларыса Давыдаўна, разлічвала, што Аксана застанецца пры бацьках, скончыць інстытут завочна — варыянт самы найлепшы для вясковай дзяўчыны. Нават замуж можна выходзіць і дзеці не ў страх.

Аксана ж, як відаць, і замуж выйшла, і дома не засталася, і пакуль яшчэ не вучыцца. Ларыса Давыдаўна бочкі коціць на зяця — ён, толькі ён збіў яе дачушку з тропу.

У тым, што Мішка Вярнігрэх нейкі там ашуканец — бабка надвая варажыла. Аксана і блізка не думае так. Мішка ўпэўнены ў гэтым. А вось для цешчы ён як і не асоба ўсё роўна. Ветравей, недалэга — завочы яна ніяк больш і не заве яго. Мішка ведае гэта. Знайшоўся, праўда, яшчэ адзін вастраслоў — Ціток Мазуха. Гэты дасужац пусціў погалас, нібыта Мішка зусім не мае характару, не мужчына, слабак, жонцы рогі не збіў, таму яна і ўцякла да мамачкі, абняславіла. Хто-хто, а Мазуха падкі на вымудры — яму абы пакпіць з чалавека, абы зачэпку знайсці. Уведаў ён пра Аксаніну запіску — во дзе было б гамонкі, увесь раён успалашыўся б. У пакінутай запісцы — почырк у Аксаны прыгожы, каліграфічна-строгі — было заяўлена Мішку: «Не хацеў жыць па-чалавечы — жыві ў гразі, з пацукамі і мухамі. Аксана Рагуцкая». Пацукі ды мухі, Мішку, вядома ж, не пагроза. Насцярожвала іншае: Аксана назвалася Рагуцкай. Намёк на яго прозвішча: моў, несур'ёзнае, а яе лепшае? Ці, можа, іншае што? Няйнакш Ларыса Давыдаўна, цешча, развод надумала ўчыніць... О, кабета яна дзейная, шырокай натуры — ад яе ўсё можна чакаць, цырымоніцца не будзе. Іх развядуць — і яны чужыя. Сам-насам застанецца ён,

Мішка Вярнігрэх, са сваімі пачуццямі. Проста і лёгка. Але ж — каханне не помсціць. Аксана вернецца. А што пакінула часова — абставіны так склаліся...

Іван Кудрашоў, айчым, вось ужо год як пабраўся з Мішкавай маці. Яму недзе каля шасцідзесяці, маці — пяцьдзесят сем. Кудрашоў працуе электрыкам. Чалавек нахожы, тым не менш прынялі ў калгас ахвотна: масцеравы і не п'яніца. Старшыня спачатку прывёў яго да маці як кватаранта, а праз паўгода завёз іх на сваёй «Ніве» ў сельсавет, дзе «маладых» распісалі. У дзве сям'і — не жыццё ў адной хаце, і Мішка дамогся, што яму з Аксанай (ён — механізатар шырокага профілю, яна — бібліятэкар, патрэбныя калгасу людзі) выдзелілі ў новым катэджы двухпакаёўку. Аксана радавалася: па-адно — кватэра з усімі выгодамі, газам і ваннай, як і ў горадзе, і не трэба будзе распальваць штораніцы печ, займацца гаспадаркай — хопіць часу на вучобу (паслала дакументы ў педінстытут на завочнае аддзяленне). Катэдж здалі пад ключ напярэдадні Першамая. Жаданае збылося, але... Мішка без яе згоды, самадумна, аддаў двухпакаёўку маці з айчымам: моў, жывіце, бацькі, у цяпле-святле, а нам, маладым-здаровым, і ў будане рай.




Хата матчына, канечне ж, на будан і блізка не падобная — прасторная і яшчэ не надта старая, падворак умесцісты, з калодзежам, ёсць пуня, пограб, а ў канцы сотак — лазня. Побач люстрыцца рачулка, зелянее мурог. Выгоды наяўныя, раскоша. Праўда, сам ён, Мішка, наўрад ці рашыўся б на такі абмен — навёў на розум, падахвоціў айчым. Спачатку Мішка дык і не разумеў яго.

— Як думаеш жыць: заможна, пасялянску, ці так сабе — пусці, божа, павалюся?— пытаўся айчым і хітра жмурыў вочы, і быў усё роўна як незадаволены нечым.

— Павалюся? — неўразумення глядзеў на яго Мішка.— Гэта вы пра што, Захаравіч?

— Пра тое, што ад гультайства сап'ешся і... адкінеш дрыгі. А не — шлунне парвеш, падымаючы старшынёўскі лімузін.

— Гм... Было такое — падняў «Ніву», выйграў у хлопцаў бутэльку каньяку. А прычым гультайства, а? Я ж працую.

— Сёння не гуляеш, а заўтра... Дакладней, я вось аб чым: хочаш быць селянінам? Сапраўдным, у поўным сэнсе гэтага слова?

— Я хіба не селянін? — Мішка ажно знерухомеў ад здзіўлення.

— Селянін у наш час, як мне думаецца, проста абавязаны мець сваё мяса, яйкі, малако, гуркі, моркву, яблыкі, мёд... Ты ж ад усяго гэтага адмаўляешся. Якое — гатоў туліцца ў двух мізэрных пакойчыках, толькі б не займацца гаспадаркай. Шкада мне цябе, мацака: змарнееш у цеснаце сам і дзяцей сваіх рахіцікамі вырасціш... Хаця — аднаго дзіцёнка, можа, сяк-так і выпестуеце, а на большае духу не хопіць.

Мішка ажывіўся:

— Гэта чаму ж не хопіць?

— Таму, што ўзяў ты сабе не жонку, а ляльку.

— Га-га-га-гэ-э!..— голасна ўзрываецца Мішка. Ад смеху вочы яго павільгатнелі.— Не-е, Захаравіч, дазвольце не пагадзіцца з вамі. Аксана ў мяне — эх!— такая, што як пагляджу на яе — сам сабе пачынаю зайздросціць.

— Во-во, — згодліва кіўнуў айчым. — Яна такая, што загоніць цябе пад абцас і пікнуць не дасць...

Згаданае адно ўзвесяліла Мішку. Яму падабаўся айчым, і ён рады быў за маці: позна, але знайшла-такі сабе спадарожніка. І, падобна, надзейнага.

Мішка бязбацькавічам рос, часам сёй-той з аднагодкаў дражніў яго байструком. Як не крыўдна было яму такое чуць, але маці пра гэта не расказваў, з роспытамі пра бацьку не прыставаў. Адно спяшаўся хутчэй вырасці. І вось, ужо сам, лічы, бацька. Дарослы. Троху, праўда, не давучыўся. Аднак яму не трэба лішкаў — хопіць васьмігодкі і школы механізатараў. Не хварэла б на сэрца маці, то вывучыўся б на механіка — такое жаданне ў яго было. Зрэшты, у войска не трапіў таксама з прычыны матчынай хваробы. І ўжо, несумненна, не халасцякаваў бы ён так доўга, калі б адразу, як скончыў школу механізатараў, упадабаў якую-небудзь з равесніц сваіх. Не ўпадабаў — равесніц пабралі старэйшыя за яго кавалеры. Да прыкладу, адна з іх — Зоя Лісёнчык, суседка, мае ўжо трох дачок, зрабілася тоўстай і нязграбнай. Аж не верыцца, што некалі цалаваўся з ёй і нават спрабаваў уявіць яе сваёй жонкай. Менавіта ад Зоі ўпершыню пачуў Мішка ўсю праўду пра бацьку свайго: шафёр, прыстаў да маці ў прымы, але неўзабаве яго ўжо і след прастыў — змыўся кудысьці на цаліну, у свет. Мішка ўражлівы, ледзь быў не заплакаў — праз сілу стрымаўся. Так сталася, што сваю крыўду ён перанёс на Зою, і пасля гэтай іх размовы больш ужо не сустракаўся з ёй. І не раскайваецца.

Аксану Рагуцкую Мішка ўзяў на вока яшчэ калі яна ў восьмым класе была. Хоць і рослая, але ў параўнанні з ім здавалася дзіцём, танюткая, у касе банцік. Школьніца. Ён зацяўся і цярпліва чакаў свой зорны час. У Аксаны быў кавалер — Мікола Вострык, аднакласнік. Кавалер такі — памагаў ёй рашаць задачкі пад час кантрольных работ, часам праводзіў з кіно або танцаў дахаты. Звычайна і Мішка прыкампаньваўся да іх, частаваў цукеркамі, і так, размаўляючы, ішлі яны, тройцай, аж да Нароўкі, Аксанінай вёскі, што ў чатырох кіламетрах ад Паніззя — цэнтральнай сядзібы калгаса. Мішка пачціва ставіўся да Міколы, любіў з ім размаўляць. Сапернік ані не замінаў яму. Наадварот — цешыў. Дзівак, вычытаў у Памялоўскага, свайго любімага пісьменніка, што шчасце заўсёды наперадзе — гэта, моў, закон прыроды. Паверыў сам і пачаў даводзіць Аксане, што Памялоўскі тут мае рацыю, не памыляецца. Размова адбывалася, вядома ж, у прысутнасці Мішкі. Аксана запярэчыла:

— У такім разе шмат хто не зведае шчасця.

— Не зведае той, хто недастойны яго! — рашуча не пагадзіўся Мікола.

Мішка адно ўхмыльнуўся — ён быў задаволены Аксанай: яна, бадай, аднолькавай з ім думкі наконт шчасця. Яго, да прыкладу, Мішкава, шчасце — ён гэта пэўна ведае! — у тым, што цвёрда, абенаж, стаіць на сваёй роднай зямлі. Таму і зрабіў усё так, каб заўсёды быць ёй патрэбным, не лішнім. І ён не проста нейкі там недавучка, абсевак прагрэсу, і выбару іншага няма. Мішка ў зямлю змалку яшчэ пусціў карэнне, заглыбіўся так, што ўжо ніякае ліха не ў сілах зрушыць яго з месца.

— Шчасце...— Мішка як хваляваўся ўсё роўна, аж нечага прыстоіў і звярнуўся да Міколы: — Па-мойму, сёння трэба жыць так, як і заўтра, не спадзеючыся на тое, чаго няма і яшчэ невядома калі будзе. Чалавек — не ослік, а шчасце—не жмак сена ў яго перад вачыма.

— Во сказаў!..— Мікола ўзгарэўся як мае быць.— Жыць сёння, як і заўтра? Гэта, выходзіць, спыніць прагрэс?.. Ну й даеш ты, Вярнігрэх... Табе сёння ўсё падавай, адразу, га?..

Мішка больш не ўдаваўся ў дэбаты, маўчаў і думаў аб тым, як многа Мікола ведае і да чаго наіўны ў гэтых сваіх кніжных ведах. Дамарошчаны максіміаліст, ён шмат чаго не прызнае ў сённяшнім дні з таго, што ёсць і яшчэ доўга будзе.

Кажуць, кінь наперад, будзеш ісці — знойдзеш. Мішка так і зрабіў, кінуў: павіншаваў Міколу з заканчэннем дзесяцігодкі — падарыў яму, адзінаму ў класе медалісту, «Селгу», партатыўны радыёпрыёмнік, з надпісам: «Вялікаму земляку Міколу Вострыку. Не забывай нас — твае Аксана і Міхась Вярнігрэхі». Мікола не разгадаў Мішкавай хітрасці — з удзячнасцю прыняў падарунак. Для Аксаны гэта быў усяго толькі прыемны жарт. Потым Мікола паступіў у радыётэхнічны інстытут. Аксане ж, каб стаць студэнткай, не хапіла трох балаў. Ружовае воблака надзеі, што мроілася ёй дыванам-самалётам, стала звычайным шэрым сухмаркам. Нездоўга да Міколавага ад'езду яна ўладкавалася на работу — замяніла бібліятэкарку, якая выйшла замуж і з'ехала ў Мінск. Мішка штодня стаў бачыцца з Аксанай, варон не лавіў — зрабіў, як здавалася яму, бадай немагчымае: у той жа год пад час Кастрычніцкіх свят ажаніўся з Аксанай...

Каб хто сказаў тады, што будзе пісаць Аксане пісьмы, нізашто не паверыў бы — разлучацца з ёй ён не збіраўся не тое што на тыдзень, а нават і на адзін дзень. Аднак жа накатаў іх ужо недзе з паўсотню. І якія пісьмы — кожнае паўсшытка займае, не менш.

Пісьмы... Першы свой ліст Мішка напісаў у адказ на Аксаніну запіску, заклеіў аж у два канверты і папрасіў Таню ўручыць Аксане асабіста. З гарачкі, можа, і лішняга чаго напароў. Помніцца адно заключны сказ: «Рагуцкай ты ўжо ніколі не будзеш!» Хлёстка закругліў. Адказу, канечне ж, не атрымаў. Напісаў зноў — павядамляў, што ўзяўся рабіць веранду, установіць там газавую пліту на чатыры канфоркі, балон... Усе свае будаўнічыя планы выклаў, нават паабяцаў сёлета ж управіцца з падмуркам — новы зробіць, з напускам, каб можна было затым абкласці хату белай цэглай. Аксана не азвалася, затое паштарка супакоіла: «Ты, Міхась, не ведаеш жанчын... Пішы ёй кожны дзень». І ён пісаў. Не штодня, але ў тыдзень сшыткі тры спісваў. У адным з лістоў нагадаў Аксане, што споўнілася ўжо роўна тры месяцы, як яна ў прочках, і прыпісаў: «Чакае цябе за гэта ўзнагарода — французскія духі і безліч пацалункаў». Жартаваў Мішка, зводзіў задаўнены сямейны незалад на нішто. Праз Таню і цукеркі ёй перадаваў: у Магілёве набыў дзве шыкоўныя каробкі, у Крычаў ездзіў — адтуль таксама прывёз. І Аксана азвалася: «Міша, я не хацела дачасна цябе турбаваць — усё не верыла.. У нас будзе дзіця. Яно ўжо дае знаць пра сябе, тоўхаецца... Так што, будаўнік, дзіцячы пакой рабі ў першую чаргу. За мяне не хвалюйся. Паводзіны твае мне падабаюцца. А што на работу не хаджу — мама так распарадзілася: ёй, пенсіянерцы, усё роўна няма чаго рабіць, то хай працуе, пакуль не здаволіцца... Лічы, што я на цябе ўжо не злуюся. Праўда, турбуе вось што: няўжо ты і надалей будзеш адзін, без мяне, усё вырашаць?.. Галя наша зноў нарадзіла дачку, трэцюю. Чакалі сына... А табе, муж, каго нарадзіць?.. Сувязь — ранейшая, праз Таню. Да нас сюды не прыходзь — так лепей будзе. Да сустрэчы. Аксана Вярнігрэх».

Аксану, жонку сваю, Мішка пазнаў здалёк — каралева! Адна на прыпынку, гэта і добра. На ёй новае ў белыя суквецці плацце; пышныя непаслухмяныя валасы прыхоплены злёгку белай хусцінкай. Бач, белы колер да твару Аксане — гэтага Мішка не заўважаў раней...

Трактар, нібы жывы ўсё роўна, быццам і ён разумее нешта, лучае падвільнуць як найбліжэй да Аксаны. Сам Мішка падаўся наперад, гатовы выпхнуць лабавое шкло: учора ён памыў кабіну, шкло чыстае, і Аксану добра відаць. Дарма што плацце на ёй вольнага крою, шырокае і доўгае, а жывот ускаптураны ўжо як мае быць, хавай — не схаваеш. Памажнела жоначка, пакруглела ў стане... Мішка вызірнуў з кабіны, прывітальна ўскінуў руку — гэта каб Аксана ведала, што дужа знябыўся па ёй, рады сустрэчы. Аксана ў адказ кіўнула яму — ахмана, як толькі яна адна ўмее. Вачэй не адвяла, не патупілася. Мішку ад гэтага яе сустрэчнага пагляду аж горача стала. Ён ужо сабраўся спыніць трактар, ды нечага — як хто насілкам змусіў — зірнуў паўзверх Аксаны, на прыдарожны хвойнік. Адразу ж і апанурыўся: Аксана не адна, а з маці, гэтай сваёй заўсёднай ахоўніцай. Вось і зразумей, што ў іх за патрэба да яго...

Трактар ледзь сунецца ўжо, во-во спыніцца. Аксана зрушыла з месца і паволі, урачыста ідзе насустрач. Мішку аж дых перацяла, захваляваўся. Тут жа спыніў трактар, расчыніў напята правыя дзверцы і прыспешыў Аксану:

— Давай руку... Хутчэй!

Аксана птушкай упырхнула да яго ў кабіну, і трактар порстка, бы ўзгарачаны конь, ірвануўся з месца. Ад рыўка дзверцы зачыніліся самі, гучна клацнуўшы замком.

Аксана спалохалася:

— Што з табой, Міша?

— Уцякаю ад цешчы...

Яна азірнулася і ўбачыла маці, якая, размахваючы доўгай паленінай, бегла ім напярэймы. Мішка паддаў газу — пусціў трактар па цэнтры шашы. Маці прабегла трохі — і з сілай, не спыняючыся, шпурнула паленіну ўслед, тая глуха бэмкнула па кабіне, звалілася на капот і засталася ляжаць там, упёршыся адным канцом у выхлапную трубу.

Трактар бег, не збаўляючы хуткасці, і нечага ўсё не збочваў на сваю — правую — паласу, аж пакуль не выхапіўся з-за пагорка сустрэчны «жыгулёнак» — шасцёрка зялёнага колеру. Мішка пазнаў машыну — Сяргей Рагуцкі, Аксанін брат перад ім. І так ён, бедны, спалохаўся, што пачаў сігналіць фарамі і ў дадатак пагразіў Мішку кулаком. Здаецца, пагразіў.

А можа, пазнаў яго і махнуў, каб спыніўся?

Аксана не надала ўвагі сігналу, на машыну і не глянула нават, і Мішка не сказаў ёй пра Сяргея. Прыехаў — няхай сабе гасцюе. Зрэшты, ён часта наведвае бацькоў. Летам і зімой. Эксплуатуе машыну круглы год, не шкадуе. І заўсёды чамусьці адзін наяўляецца, хоць і сямейны, ужо дачка дарослая. А ўвогуле — дзіўны ён, гэты Сяргей. Даўно мог бы кандыдатам навук быць, работу напісаў, надрукаваў, але абараняцца не стаў — нечага раптам з'ехаў у Мурманск, уладкаваўся на плаўбазу. Тры гады плаваў, нарэшце вярнуўся дамоў, купіў машыну... Цяпер працуе ў брыгадзе мясцовых шабашнікаў. Інжынер-шабашнік. Гучыць.

Мішка, хоць і не інжынер, але таксама мог бы паехаць на поўнач, у той жа самы Мурманск. З яго сілай і спрытам яму цаны там не было б. Аднак не паехаў і, бадай, нікуды ўжо не паедзе. Так, не паедзе — нічога паездка такая не дасць. Жыць поўна, на ўсю шыр свайго сэрца ён і тут, дома, умее... Зірнуў на Аксану і весела, голасна спытаў:

— Эй, дзяўчынка, чаго маўчыш?.. — мякка, у два прыёмы, прытармазіў і крута развярнуўся.

— За маму сорамна... — Аксана пахілілася і паклала галаву яму на плячо, і трактар запаволіў бег.

Калі міналі паваротку, адзін і другі адначасова глянулі ўсцяж нароўскай дарогі, нядаўна выраўненай і пасыпанай гравіем. Пешаходаў на ёй не відаць было, адно насупраць кладзішча, у паўкіламетра да вёскі, лёгка віхурыўся пыл з-пад колаў зялёнага легкавіка. Мішка ведаў яго пасажыраў, пасміхнуўся і бяскрыўдна падумаў пра цешчу, Ларысу Давыдаўну: «Дачку правяла, а сына сустрэла... Супадзенне — не прыдумаеш».

# СЁННЯ І ПЯТНАЦЦАЦЬ ГАДОЎ НАЗАД

**«ЗАЦЮКАНЫ АПОСТАЛ» у Маскоўскім акадэмічным тэатры сатыры**

Пачнём з гісторыі... П'еса Андрэя Макаёнка «Зацюканы апостал» не так лёгка знаходзіла сабе дарогу на сцэну. Далёка не ўсе, нават з тэатралаў, яе зразумелі адразу. Была рэальная небяспека, што «Зацюканы апостал» увогуле не праб'ецца на падмосткі. «Зону маўчання» прарваў Маскоўскі тэатр сатыры: гэты макаёнкаўскі твор тут пачаў сцэнічнае жыццё ў 1970 годзе. Спектакль адразу ж набыў не толькі шумны, але і, без перабольшання, сенсацыйны поспех. Памятаюцца доўгія чэргі людзей па білет у тэатр. З вірлівага маскоўскага натоўпу тэлежурналісты спынялі многіх, і на пытанне: «Што б вы хацелі паглядзець у тэатрах?» — большасць тады адказвала: «Зацюканага апостала».

Поспеху пастаноўкі спрыялі выканаўцы галоўных роляў: Таты — З. Высакоўскі, Мамы — З. Зялінская, Дзеда — А. Солюс. Цікава іграла Дачку Т. Мурына. Мастацкім адкрыццём быў дэбют у ролі Сына А. Лявінскага. Спектакль уражваў жыццёвай актуальнасцю ўзнятых у ім праблем. Дзякуючы менавіта яму яшчэ да публікацыі ў друку шырокую вядомасць набыла і сама п'еса. Да яе адзін за адным сталі звяртацца тэатры краіны, у тым ліку нашы — купалаўскі і коласаўскі калектывы.

**Праўда, саміх пастановак было не так многа, асабліва ў параўнанні з другім макаёнкаўскім творам — «Трыбуналам». У шматлікай і пярэстай галерэі сцэнічных версій «Трыбунала» былі цікавыя вытлумачэнні, былі і банальныя прачытанні п'есы, нават шлягернасць. Да «Зацюканага апостала», як правіла, ставіліся ў тэатрах сур'ёзна. Большасць спектакляў вызначалася яркімі акцёрскімі і рэжысёрскімі знаходкамі, багатымі творчымі набыткамі. Гэта ў высокай меры ўласціва і пастаноўцы ў Маскоўскім тэатры сатыры (рэжысёр Я. Радамысленскі).**

***Ішоў, аднак, час, і многія пастаноўкі*** **«Апостала...» знікалі з рэпертуару розных тэатраў. Прычыны на тое былі розныя, але асноўная з іх — «вырасталі» з роляў Таты, Мамы і найбольш Сына і Дачкі акцёры. Знайсці ж замену, асабліва на вобраз Сына, было цяжка. Толькі гадамі жыве на падмостках «Зацюканы апостал» у Маскоўскім тэатры сатыры.** ***Спектакль і цяпер па*****казваецца часта, па-ранейшаму карыстаецца ў гледачоў вялікай папулярнасцю. Пра гэта засведчылі і гастролі калектыву ў Мінску.**

Тут, уяўлялася, п'еса ўжо, як кажуць, «адыграна» купалаўцамі. А колькі гледачоў сёння сустракае вас перад тэатрам з вельмі хісткай надзеяй на «лішні білецік»!

Спектаклю масквічоў уласціва выразна акрэсленая і сапраўды яркая форма.

Пакой, дзе збіраюцца ўсе члены сям'і, — невялікі і цесны, застаўлены груваасткімі і крыху «па-заморску» незвычайнымі рэчамі (мастак А. Окунь). Гэта гасціная. Ёсць тут па-ўсходняму экзатычны камін, стаіць вялізная скульптура нейкай афрыканкі, тапчан і журнальны столік. На яго Тата ставіць абстрактную скульптуру дзяўчыны, а Мама ўвесь час стараецца яе зняць. А яшчэ яна хоча прымацаваць да трохкутнай драбіны карціну, насуперак густу мужа — рэалістычную.

Непаразуменні, сутыкненні паміж Татам і Мамай узнікаюць амаль адразу ж, як толькі ўзнімаецца заслона. Іх варожыя адзін да аднаго адносіны выканаўцы выяўляюць і паказваюць у падкрэслена рэзкіх танах. Рэплікі персанажаў падкрэсліваюцца музычнымі акордамі (кампазітар А. Крэмер). На лініі «ваенных» дзеянняў Таты і Мамы часта з'яўляюцца іх дзеці — Сын і Дачка.

Цікава, што спектакль выконваецца амаль у тым жа акцёрскім складзе, што і на прэм'еры. У ролі Таты выступае Ю. Аўшараў, які напачатку быў другім яе выканаўцам, у ролі Дзеда — В. Насачоў, які раней выходзіў на падмосткі Палітычным каментатарам (і гэты вобраз за ім значыцца цяпер). Па-ранейшаму ролю Мамы выконвае З. Зялінская, Сына — А. Лявінскі, Дачкі — Т. Мурына. На ролі ўведзены і другія артысты, але нам якраз давялося глядзець іх работы.

Натуральна, паўстае пытанне: адбыліся змены ў спектаклі ці не, а калі адбыліся, то ў чым і якія?

Змены ёсць. Перш-наперш яны тычацца вобразаў Сына і Дачкі. Як бы запавольніўся рытм іх сцэнічнага існавання, як і ўвогуле пэўным чынам паслабла інтэнсіўнасць, напорыстасць дзеяння.

Скажам, раней А. Лявінскаму ў ролі былі ўласцівы малады запал, гарэзнасць. Цяпер гэтыя якасці выканаўца кампенсуе насычанай характарнасцю, асабліва ў моўнай палітры. І да яе спачатку трэба прызвычаіцца, каб потым паверыць у логіку дзеянняў і ўчынкаў персанажа. Па-ранейшаму нязграбны, вуглаваты, з канвульсіўна падцягнутай рукой, толькі яшчэ больш даўгавалосы, Сын цяпер выглядае пераросламым малым і амаль дарослым філосафам-палітыкам. На сваіх блізкіх і ўвогуле на свет ён глядзіць з-пад ілба, найчасцей з недаверам, з падазронасцю і нават азлобленасцю. Гэтаму персанажу ўжо з самага пачатку многае вядома. Ён шмат што паспеў спазнаць, перажыць, таму ў яго такое цвярозае, каб не сказаць нігілістычнае стаўленне да людзей, да жыцця. Як і большасць выканаўцаў спектакля, А. Лявінскі падае фразы кідка, ударна, і яны, натуральна, знаходзяць жывую рэакцыю ў зале.

**Пакой, дзе сустракаюцца, суіснуюць персанажы, мае два ярусы: ніжні, пра які ішла ўжо гаворка, і верхні. На верхнім ярусе ляжаць неймаверна вялізных памераў кніжныя фаліянты. Там стаіць мяккае крэсла, статуя нейкага бога ці апостала, грамафонная труба. Там акно на вуліцу, у якім часта ўспыхвае зіхатлівае святло. Усе**

# абліччаў гэтых непаўторнасць

**Калінінскі дзяржаўны драматычны тэатр—у Мінску**

**ВІЗІТНАЯ КАРТКА тэатра — яго рэпертуар. Зусім не новы тэзіс, праўда? Паглядзеўшы амаль увесь гастрольны рэпертуар калінінцаў, я надумала сказаць інакш: візітная картка гэтага калектыву — работы акцёраў. Рэпертуар — як вопратка, па якой сустракаюць незнаёмца. Рэпертуар старэе, сыходзіць з афіш, аднаўляецца — застаюцца вызначальныя для аблічча тэатра творчыя індывідуальнасці.**

**Аблічча калінінскага калектыву вызначае вядомая ў нашым тэатральным свеце індывідуальнасць галоўнага рэжысёра В. Яфрэмавай. І тое, што адзін з вядучых акцёраў А. Чуйкоў захапляецца журналістыкай і спрабуе сябе ў літаратуры для тэатра; што ён, як і В. Яфрэмава, вядзе курс акцёраў-завочнікаў у ГИТИСе. І тое, што артысты І. Андрыянава і К. Ючанкоў кіруюць студэнцкім тэатрам Калінінскага універсітэта. І тое, што выпускнік гэтага універсітэта, цяперашні заўліт Р. Дзкуя паступіў на завочнае аддзяленне акцёрскага факультэта ГИТИСа і ўдзельнічае ў масоўках, каб глыбей, праз уласны сцэнічны вопыт, спазнаць прыроду тэатра. Нарэшце, тое, што актрыса Маскоўскага тэатра сатыры В. Васільева знайшла тут цікавых партнёраў (яна іграеРанеўскую ў «Вішнёвым садзе»)... Усё гэта, пагадзіцеся, рысы жывога творчага аблічча калектыву.**

**Візітная картка тэатра — акцёры. Сем вечароў знаёмілася я з калінінскімі акцёрамі, назіраючы за імі ў розных спектаклях. З маіх глядацкіх уражанняў складаліся своеасаблівыя індывідуальныя акцёрскія «візіткі»...**

**Аляксандр Чуйкоў.** Ідэйная чоткасць і патрыятычны пафас п'есы Л. Лявонава «Нашэсце» — бясспрэчныя. Спрачацца можна пра жыццёвую і мастацкую пераканальнасць самога драматургічнага пісьма. Ды галоўнае, у прапанаваных драматургам, скажам так, лабірынтах тэксту не губляюцца акцёры, падтрыманыя вопытнай рэжысёрскай рукой (пастаноўка В. Яфрэмавай). З'яўляецца на сцэне Іван Таланаў (А. Чуйкоў). Пасочыш хвілін колькі за акцёрам — і ўжо ёсць што сказаць пра яго сцэнічны вобраз.

**Адкрыты твар. Пажылы, стомлены, засяроджаны, заклапочаны. Лекар «з глыбінкі», правінцыяльны рускі інтэлігент: на такіх, кажуць, трымаецца свет. Зусім не** ***па-сваяцку,*** **з дзіўнай ветлівай непрыязззю ўспрымае Таланаў нечаканае вяртанне сына свайго, Фёдара: так сустракаюць чужынцаў. Ды раптам Таланаў — Чуйкоў, гатовы назваць сына здраднікам, падхоплівае ягоную руку: «Ты хворы, Фёдар..» Падхоплівае прафесійным жэстам, як урач, і адначасна — са стрыманай прагнай пяшчотаю, як бацька. На імгненне яснее адчужаны, лютаваты твар Фёдара ад цеплыні гэтага прыхаванага поціску бацькоўскай рукі.**

**Культура, густ акцёра выяўляюцца ў сцэне з дачкой: у яўна дэкларацыйным дыялогу ён ашчадліва карыстаецца выразнымі сродкамі, не дазваляе сабе «гульню ў тэмперамент».**

Ледзь пазнавальны А. Чуйкоў у абліччы амерыканскага фермера Эфраіма Кэбата («Каханне пад вязамі» Ю. О'Ніла, рэжысура В. Яфрэмавай). Штосьці невытлумачальна ўчэпістае і прыземленае ў каржакаватай постаці гэтага старога, штосьці дрымучае і нераскрыта-чалавечнае ў ягоным дзікаватым «замшэлым» твары, у ягоным хрыплым загрубелым голасе. (Дарэчы, усю сцэну са старэйшымі сынамі, якія пакідаюць дом у пошуках лепшае долі, ён праводзіць, павярнуўшыся спіной да залы: на поўную сілу іграе акцёрскі голас). У II дзеі спектакля ён падаецца нават замілаваным, улагодненым сваім уяўным сямейным шчасцем, і толькі злосна і зацята гучыць у ягоных вуснах слова-сімвал: «Маё!» Кэбат — Чуйкоў варты жалю ў сваёй душэўнай абмежаванасці, у наіўнай даверлівасці. І жахліва-трагічны ў фінале: ужо быццам пастаўлена эмацыянальная кропка спектакля, а стары сноўдаецца на верхатуры, мармыча ледзь чутна, люляючы вялікі лазовы кош з мёртвым немаўлёнкам.

У п'есе «Не спіцца начамі» досыць знаёмыя калізіі жыцця сённяшняй вёскі, па-журналісцку лаканічна і дакладна акрэсленыя характэрныя эканамічныя і сацыяльна-псіхалагічныя праблемы Нечарназем'я... Здавалася б, вось дзе прастора для гатовых акцёрскіх клішэ, назапашаных і сцэнай, і кіно ў пастаноўках на вытворчую тэму! Ды ёсць у рабоце калінінцаў сакрэт — абаяльнасць, выяўленая рэжысёрам-пастаноўшчыкам В. Яфрэмавай і акцёрамі. Гэтае, кажучы па-руску, **излучение** абаяльнасці ўдзячна ўспрымаюць многія гледачы, зацікаўлена і эмацыянальна сочаць за сцэнай.

А дзеянне на ёй неадлучнае ад асобы А. Чуйкова, аднаго з аўтараў п'есы і выканаўцы галоўнай ролі. Іграе ён старшыню калгаса Сямяніна. Іграе пераканана і пераканальна. Энергічныя, дзелавітыя, часам жартаўлівыя і нават лірычныя ноткі ў голасе, «рубленая фразіроўка» ў гаворцы, прывычка рэзкім жэстам папраўляць валасы, засоўваць рукі ў кішэні пінжака... А рука ў яго не вясковая — неяк артыстычна і звыкла трымае ён у пальцах пяро. Чаму ж аблічча Сямяніна выглядае асабліва жыццёвым? Артыст вымаўляе старшынёўскія гаспадарчыя довады на рэдкасць арганічна, зацікаўлена, з веданнем справы, з аўтарскім, у поўным сэнсе, разуменнем кожнай фразы.

**Антаніна Вольская.** Нельга было сказаць: «Спектакль пачаўся». Заслона рассунулася — і ўзнікла дзівосная ілюзія, быццам за гэтай тэатральнай заслонай даўно жылі людзі і мы назіраем працяг жыцця тых людзей («Нашэсце»). І найперш заўважаем актыўна «ўключаную ў дзеянне» старую няньку Дзямідаўну. Яна — часцінка духоўнай атмасферы дома Таланавых. Яна — нібыта ўвасобленае сумленне Фёдара: моўчкі, адно толькі поглядам, дакарае яго Дзямідаўна; моўчкі дарує яму колішнюю віну; яна адзіная, хто не пазбаўляе Фёдара цеплыні роднага дома...

**Канстанцін Ючанкоў.** Чужы сярод сваіх, невытлумачальны (злачынец ён ці ахвяра?), ярушысты, іранічны і — высакародны ў сваім патрыятычным стаіцызме Фёдар. Яго К. Ючанкоў іграе без дублёраў.

Зрэшты, у «Дэкамероне» паводле Д. Бакачыо (інсцэнізацыя, пастаноўка Б. Галубоўскага) ён таксама незаменны вядучы выканавец: амаль не пакідае сцэну, задае тон усяму прадстаўленню. (Да гонару тэатра, пікантныя сітуацыі і анекдатычныя фрывольнасці бліскучага тэксту Бакачыо абыгрываюцца акцёрамі дастойна. Менавіта **абыгрываюцца,** хоць твор можа спакусіць акцёраў і на спрошчанае **заігрыванне** з публікай). Акцёр дэманструе багатую мабільную пластыку. Спявае, камікуе, звяртае ў залу то жартаўлівыя, то з'едлівыя адкрытыя каментарыі ад тэатра; «падпускае слязу» ў голас. Пераўвасабляецца ў грэшнага святошу Чапарэла, хлуса, прайдзісвета — веселуна і жыццялюба; і ў сіплага «абшчыпанага донжуана» — Графа; і ў смяхотна-сур'ёзнага карапаванага Танкрэда. А вось ужо ён у парычку з танзурай цярпліва слухае занудлівыя споведзі жанок і вымаўляе сваё дзяжурнае «амэн...» гэтак адчайна, нібыта крычыць «караул!»

Епіходаў («Вішнёвы сад», пастаноўка В. Яфрэмавай). Бязглуздая ануча на шыі, вялікі *пакамечаны капялюш* у руках. Ніякага асаблівага грыму. «Звычайнае» акцёрскае пераўвасабленне — і верыш: вось сапраўдны канторшчык Епіходаў. Пераконвае К. Ючанкоў і ў тым, што дваццаць два няшчасці чэхаўскага героя канчаюцца пасля продажу саду: як пераможна, з гонарам, аглядае ён постаць Яшы (праўда, знізу ўверх...) — нібы гэта ён, Епіходаў, купіў дваранскі маёнтак, а разам з ім і нейкі духоўны, чалавечы цэнз.

**Валерый Гатаеў.** «Вішнёвы сад», Яша. На ім крыкліва-сіні пінжак, чырванаваты клятчасты, скручаны накшталт шаліка, плед; нясе ён клятчасты зялёны сакваяж. Крокі ў яго «культурныя», акуратныя, ды прытым па-гаспадарску ўпэўненыя. Ёсць камічны дысананс паміж саліднасцю мажной фігуры Яшы — Гатаева, шматзначнай запаволенасцю ягоных рухаў і лакейскім, халуйскім нават, нутром. Гэты дробненькі прыдушаны смяшок. Гэтая манера трымаць шклянку з шампанскім, па-лакейску адставіўшы мізінчык. Гэты твар без вачэй... Сапраўды, трапная акцёрская знаходка: Яша дэманструе ўкормленую «вылізаную» фізіяномію з пошлай чолачкай, з вусікамі, на якой быццам няма вачэй. Яша ўвесь час незадаволена, пагардліва жмурыцца, нібы распешчаны любімы гаспадар-



**І. Андрыянава — Абі і В. Мандрыкаў — Эбін («Каханне пад вязамі»).**



Сцэна са спектакля.

Фота А. ЗАДЗІКЯНА.

**рэчы вялізных памераў, як бы спецыяльна выдзелены, падкрэслены.**

Да кніжных скарбаў можна ўзлезці па спецыяльнай драбіне. Па ёй іншы раз узбіраецца, а часцей спускаецца ўніз Сын. На другі паверх вядзе і лесвіца. І вось у найбольш важныя моманты Сын узбягае па лесвіцы, прабіраецца праз кнігі і па кнігах і зверху звяртаецца да прысутных, гаворыць самыя значныя словы, здзяйсняе свае асноўныя ўчынкі. Там, на другім ярусе, паміж кніг, у суседстве з апосталам, ён жыве, царуе. Там яго фактычна непадзельнае ўладанне і панаванне. Там яго жытло і непрыступная крэпасць.

Толькі адзін раз узнялася на другі паверх Дачка, ды і то пераадолела адно прыступкі, не дабраўшыся да цэнтра, дзе часта знаходзіцца брат яе. І адбылося гэта якраз тады, калі Дачка захацела дзейнічаць заадно з братам, паўтараць яго ўчынкі. Але хутка спусцілася ўніз, і гэта, як і яе «ўзнясенне», у спектаклі сімвалічна: Дачка не пойдзе ўслед за братам, у яе свой шлях, свой накірунак.

У ролі Дачкі выступае Т. Мурына. Сённяшняя яе Дачка нагадвае не па гадах таўстуху, у якой засталося штосьці ад дзіцячай непасрэднасці і гарэзнасці, і з'явілася штосьці ўжо ад сур'ёзнага дарослага чалавека.

Бадай, нязменнай у спектаклі засталася З. Зялінская ў вобразе Мамы. Актрыса паказвае гераіню знешне падцягнутай, элегантнай, праводзіць ролю з высокім артыстызмам. Зноў жа з акцэнтоўкай найбольш сакавітых рэплік у творы, з камедыйнай падкрэсленасцю. Чаго, скажам, варта адна яе міміка, калі Мама ў чым-небудзь прагаворваецца і тут жа ловіць сябе на слове, у жаху шырока раскрываючы рот. І такіх момантаў у спектаклі некалькі.

Адно з асноўных захапленняў Сына — тэлевізар, слуханне Палітычнага каментатара. Калі надыходзіць час яго выступлення, Сын імкліва і напорыста адсоўвае драбіну ад кніг у цэнтр пакоя, выстаўляе перад ёю невялічкі тэлевізар і, усеўшыся на прыступках, слухае. Цяпер для яго нічога іншага не існуе, ёсць толькі каментатар, яго словы, яго паведамленні. Зрэшты, для Сына, якім яго цяпер паказвае А. Лявінскі, важны не столькі звесткі, колькі сам Палітычны каментатар як асоба. Яго гутаркі — не працэс пазнання юнаком, што намерыўся стаць прэзідэнтам ці прэм'ер-міністрам. У тых справах, пра якія расказвае каментатар, Сын даволі добра ўжо дасведчаны і адчувае асалоду ад самой красамоўнай гаворкі пра буржуазную палітыку і мараль, пра ўсялякія выкрутасы дыпламатыі. Яму, па ўсім відаць, здрадні і цынізм такой палітыкі, як і цынізм самога каментатара. Гэта падкрэслена ў спектаклі характэрнай дэталлю: на хвіліну гасне святло і на падмостках — не рэальнасць, а, так сказаць, матэрыялізаваныя ўяўленні, трызненні Сына. На сцэну выходзіць сапраўдны Палітычны каментатар (Ю. Казлоўскі) і накіроўваецца да Сына. Той жа ў сваю чаргу падаецца да куміра. А сустрэўшыся разам, яны моцна цісну́ць адзін аднаму руку... Хаўруснікі!

**Чым далей разгортваюцца падзеі «Зацюканага апостала», тым больш нахабным становіцца Сын. Свае вопыты па кіраванні людзьмі і светам ён праводзіць пакуль што на блізкіх родзічах. Тым не менш гэтыя сямейныя вопыты з лакальных перарастаюць у глабальныя — па жорсткасці, інтрыганстве, цынізме. У гэтым плане Сын намнога пераўзышоў і Тату і Маму.**

**І тыя, урэшце, не вытрымаўшы дэспатызму юнака, аб'ядналіся, разам пайшлі ў наступ. Сын яшчэ па-ранейшаму на ўзвышэнні. Ды Тата пераадолеў лесвіцу, уварваўся ў раней недаступную для яго зону, узняўся на другі ярус і з кожным крокам, з кожным імгненнем набліжаецца да Сына. Раней для іншых недасягальная Сынава тэрыторыя цяпер катастрафічна звужаецца. Вось ужо застаўся адзін толькі падаконнік, ды і да яго зараз дабярэцца Тата.**

**Наступленне вядзецца актыўнае і надзвычай імклівае. Усе ў руху, усе актыўна жэстыкулююць. Нешта гавораць, пагражаюць, крычаць, хоць сэнс слоў не разабраць. Іх замяняе музыка, таксама трывожна напружаная, бурная па рытмах.**

**Сын не вытрымлівае напору, шугае праз акно на двор. У бездань.**

**Усеагульны перапалох, здранцвенне працягваюцца нядоўга.**

Пасля хвіліннага зацямнення падмосткаў зноў успыхвае святло, і ў пакой з двара павольнай хадою крочыць бледны з твару Сын. Ён фізічна ўцалеў, але ад падзення стаў ідыётам. Цяпер Сын ужо зусім іншы — ціхі, рахманы, паслухмяны. І ўсе, апрача яго сястры, заспакоіліся, з палёгкай уздыхнулі і нават адчулі задавальненне.

Віноўнік панёс пакаранне. Само ж зло засталося і надалей, і яно будзе мець спрыяльную глебу, будзе раскашавацца. Зноў гасне святло, усё ахутваецца змрокам.

На гэтай знешне ціхай і ўнутрана трывожнай ноце завяршаецца «Зацюканы апостал», якім маскоўскі калектыў сатырычна завострана выкрывае заганы сучаснага цывілізаванага свету на заходні лад, буржуазнай маралі і нораваў. Спектакль і сёння ўскалыхвае розум і эмоцыі гледачоў, застаецца ў творчым страі.

**Анатоль САБАЛЕЎСКІ.**

скі кот, які сніў нешта прыемнае, а на самым цікавым месцы яго патрывожылі. Толькі пры Ранеўскай на Яшавым твары высвечвае нешта падобнае да ўвагі, нават прыадкрываюцца шчылінкі вачэй. На гаспадыню ён пазірае як на адзіную дзіковінку сярод суцэльнай нудоты і «некультурнасці». Аднойчы надрыўным плаксівым голасам папросіць Ранеўскую ўзяць яго з сабою, у Парыж... Яркая работа артыста!

Сілін («Начныя забавы» В. Мярэжкі, пастаноўка В. Персікава) спачатку падаецца таленавітай акцёрскай пародыяй на клапатлівага мужа і добрага бацьку. Ды спакваля В. Гатаеў развівае неадназначнасць вобраза. Чаму дужы, здаровы мужчына ва ўласным доме нібыта ходзіць на дыбачках? Вочы ягоныя раз-пораз поўняцца слязьмі — то ад замілавання, то ад абурэння, то ад пачуцця зняважанасці і бездапаможнасці. Такі вялікі — і такі цюхцяй, капітулюе перад фельдфебельскім тонам свайго лядашчага начальніка? Ці проста ў Сіліна — Гатаева даўняя звычка прыстасоўвацца да любых акалічнасцей і ўсімі намаганнямі «ні пра што не здагадвацца»? А, можа, пад маскай мякцацелага тугадума — сапраўды добрая душа, у якую так верыць дачка Сіліна...

**Наіна Хоніна.** Тактоўная, мяккая; устрывожаныя вялікія добрыя вочы; бязгучны стрыманы плач. Мужна, употай перажывала Ганна Таланава з «Нашэсця» сваю мацярынскую трагедыю...

І вось я ўбачыла, як сонечна ўмее ўсміхацца гэтая актрыса. Добрай усмешкай надзяляе Н. Хоніна памяркоўную, адкрытую да людзей вясковую актывістку Цягунову («Не спіцца...»). Убачыла яе ў драматычнай ролі Сілінай («Начныя забавы»). Напружанасцю паставы, нервовасцю рухаў актрыса нібы падкрэслівала нядобрасумленнасць сваёй гераіні. Тым больш адчайным выбухам гучала яе рашучасць «развязаць» фальшывыя адносіны ў сям'і пры староннім чалавеку. І яе пошлая інтрыга нечакана абарочвалася выклікам фармальнаму, толькі знешне прыстойнаму сямейнаму ўкладу Сіліных.

**Леанід Брусін.** Уразіў складаны драматычны дар акцёра, яго ўменне балансаваць на грані ігры і гульні, балючага і камічнага, лёгкасць пластыкі, здольнасць да парадзіравання. Гэта — у «Начных забавах», дзе Л. Брусін стварае парадаксальны і досыць тыповы для сённяшняга горада вобраз. Вобраз эгаістычнага «пажылога хлопчыка», рэстараннага лабуха, прыжывалы ў інтэрнаце для маладых афіцыянтаў, аматара тэлефонных розыгрышаў, шукальніка лёгкіх начных прыгод... А на паверку — чалавека самотнага, самаіранічнага, не легкадумнага і гатовага ўключыцца ў чужую гульню не пешкаю, а рыцарам. І з кулакамі абараняць годнасць чужой сям'і.



**«Не спіцца начамі»: у ролях Забойкінай, Сямяніна і Цягуновай артыстка З. Андрэева, заслужаныя артысты РСФСР А. Чуйкоў і Н. Хоніна.**

**Ірына Андрыянава.** Маладая фермерша Абі ў «Каханні пад вязамі» на першы погляд — вульгарная, хцівая, кемлівая, бесцырымонная кабетка. Ды прыкмячаеш: гераіню І. Андрыянавай спакусіла не заможнае жыццё ў доме старога фермера. У шлюбе з ім яна падсвядома шукала магчымасць увайсці, нарэшце, у **свой** дом — жанчыне ж так патрэбен **свой** дом! Абі ўладарна пераступае парог **яе** дома, як новая гаспадыня, як новая маці фермерскага сына Эбіна. Якая для яе асалода прамовіць: **«мой** посуд»!. Яшчэ большая асалода была б адчуваць сябе адзінай спадчынніцай фермы. Але на ферме ёсць малады гаспадар — Эбін... Гераіня І. Андрыянавай вагаецца паміж каварствам і безразважным парываннем, паміж абдуманай подласцю і шчырай самаадданасцю... Уласніцкі рэфлекс ці жаданні жывой чалавечай натуры — што пераможа? За што яна, Абі, змагаецца: за свае правы на дом ці за свайго маладога каханага? У роспачы спрабуе рассекчы вязьмо злачыннага «жыцця ўтраіх», заплаціўшы за гэта нявінным жыццём чацвёртага. Нібы на эшафот, марудна ўзнімаецца Абі па прыступках да пакоя, дзе спіць яе першынец. Імгненне—і адразу змяніўся, пастарэў, «спустошыўся» яе голас. Знясілена распласталася толькі нядаўна поўнае энергіі цела. Жанчына забіла сваё дзіця...

У «Дэкамероне» І. Андрыянава раскрываецца як бліскучая камедыйная актрыса. Запамінаеш яе вясёлую, нахабную і спрытную Лаўрэту, яе вынаходлівую, дасціпную прыгажуню Перанэлу.

**Васілій Мандрыкаў.** Ад цэласнасці натуры Андрэя Калеснікава ў «Нашэсці» — да неўраўнаважанасці Эбіна ў «Каханні пад вязамі». Хіба не характарыстыка акцёру?

Малюючы трапятлівы, датклівы ўнутраны свет Эбіна, яго знешнюю імпульсіўнасць, В. Мандрыкаў не эканоміць на фарбах. Нястрымна жэстыкулюе. З выклікам, лоўка падскочыўшы, усаджваецца на стол, непрыстойнасцю самой позы па-хлапечы дэманструе свой пратэст новай гаспадыні, маладой мачысе. Ён аднолькава раўніва абараняе ад яе і памяць пра матулю, і свае правы на маёмасць. Ён адчайна супраціўляецца той уладарнай сіле, што зближае і заблытвае людскія лёсы; сваёй марнай упартасцю намагаецца перакрычаць голас прыроды.

А ў фінале ён адчуе сябе міжвольным удзельнікам трагедыі. Ён, чалавек, які не мог утаймаваць свой настрой, вучыцца стрымліваць парыванні тэмпераменту. Вучыцца слухаць свет чужой душы. Рыхтуецца падзяліць долю сваёй каханай...

**Віталій Сініцкі.** Прафесіяналізм яго можна ацаніць у «Дэкамероне». Тут ён — жоўчны, з адмоўнай абаяльнасцю, Карсар; паслушнік Юліяна, які з пакутлівай кіслай мінай церпіць «мірскія ўцехі» свайго падрэ; упэўнены ў сабе і разам з тым асцярожны, нібы «біты жыццём» блудлівы кот, — спакушальнік жаночых сэрцаў Амбрадзіёла.

**Прыемная нечаканасць — вобраз Пеці («Вішнёвы сад»). Колькі ні прыгадваю пабачаных «садоў», Пеця падаваўся, як гаворыцца, «рыцынаю з млекам» ці даволі прыдуркаватай істотай, не меншым недарэкам за Епіхадава, ці просталінейным рэзанёрам. У В. Сініцкага Пеця — не надта малады, не надта ўдачлівы, відаць, і стомлены жыццёвымі пошукамі і расчараваннямі. Настроены на філасофскі лад, герой выказваецца вельмі проста, кожнае ж слова выходзіць у яго напалову з усмешкай, напалову з хмурынкай.**

В. Сініцкі ўражліва абрысоўвае шаржаваны партрэт Язэпава («Начныя забавы»): гэтакі подленька-цынічны, ваяўніча-фанабэрлівы нуль у пінжаку і пры гальштуку. А які неўтаймоўны «генератар авантурных ідэй» ягоны пан Благае ў «Д — Р» («Доктар філасофіі» Б. Нушыча, пастаноўка А. Юннікава)!

**Залім Мірзоеў.** Стракатая колеравая і гукавая гама «Дэкамерона», думаю, страціла б вельмі арганічныя і яркія фарбы, штрыхі, матывы, калі б не іграў у гэтым спектаклі З. Мірзоеў. На працягу дзесяці сцэнічных навел пяць разоў мяняе ён аблічча. Ашчадліва, з пачуццём гумару і з пачуццём меры карыстаецца грымам, мімічнымі сродкамі, пластыкай, моўнымі інтанацыямі, выводзячы на падмосткі свае персанажы. Рыжы Бакалейшчык у самы нечаканы для гледача (дый для партнёраў!) момант, сцягнуўшы парык, трагічна ўздыхне: «Даўгі...» Вельмі да твару акцёру экзатычнае аблічча заморскага Султана. Са смехам пазнаеш яго пад амаль карнавальнаю маскай начнога злодзея, што наважыўся абабраць саркафаг... А потым новая метамарфоза: З. Мірзоеў ужо стары аскетычны «святы айцец». І, нарэшце, у навеле «Бочка» гэта мудры вобраз невясёлага Барончы: прыжмураные вока, перакошаны рот, старэчы траскучы голас. З непарушнай абыякавасцю суседнічае ў ім нейкая дзівацкая цярплівая цікаўнасць да неверагодных падзей у доме суседа.

**Перабіраю ўяўныя акцёрскія «візіткі».**

**Успамінаю яркі жыццёвы тып, увасоблены А. Бушковай, — Фірсаву («Не спіцца...»). «Язва» на адказнай пасадзе, яна мае за душой штосьці вабнае і кранальнае, што прывыкла хаваць ад староннiх вачэй. А вось М. Бутрэхін — Гаеў («Вішнёвы сад»). Стрыманы (гэта той выпадак, калі ёсць што стрымліваць — звярніце ўвагу на нервовыя пераборы ягоных пальцаў). З журлівай мудрасцю і дзіцячай безабароннасцю ў паглядзе... Вось У. Чарнышоў — Какорышкін («Нашэсце»). Пажадліва паглядае гэты ціхі недарэка-чалавечак на пана Фаюніна, які вярнуўся ў акупіраваны гарадок. Нібы дробная мітуслівая муха, што ўвачавідкі сама з сябе раздзімае слана, ён робіцца ўсё больш мярзотны ў сваіх прэтэнзіях.**

**Згадваю вострыя характары С. Філатавай, выразныя эпізоды А. Татарава, В. Ганчарэнка, лірычных гераінь В. Рычковай.**

**З асаблівай тугою думаю цяпер пра вобраз Фірса, пра яго старамоднае рыцарства ў адносінах да Ранеўскай, пра гаркавую развітальную, апошнюю ноту спектакля «Вішнёвы сад». Я была сярод тых, хто ў апошні раз бачыў на сцэне Фірса В. Расказава — аднаго са старэйшых акцёраў калінінскай трупы, раптоўна памёршага ў час гастроляў...**

**Іх выступленні ў мінскім Доме афіцэраў праходзяць ва ўмовах асаблівай творчай канкурэнцыі: адначасова на дзвюх сцэнах іграе спектаклі Маскоўскі тэатр сатыры, а ў філармоніі наладжаны сустрэчы з яго папулярнымі акцёрамі. Тым не менш калінінцы набылі шматлікіх прыхільнікаў у нашым горадзе, як і месяц назад — у Віцебску. Няхай поспех і сімпатыі гледачоў спадарожнічаюць гэтаму адметнаму калектыву і ў Магілёве: праз тыдзень там прадоўжыць сваё гастрольнае лета Калінінскі тэатр.**

С. БЕРАСЦЕНЬ.

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

**Уладзімір МАРУК**



●

Памяць таго берага—
Два на ветры ўзгоркі,
Мурагу ўраселага
Вечная гаворка.

Там хвіліны чаіца
На крыле калыша...
Бераг падымаецца,
І не ўбачыш,
вышай.

Вышай, памяць, вышай!
З-за кашлатай ліпы
У нядужай цішы
Чуюцца усхліпы.

Вышай, памяць!
Маму
Мы з табою чуем,
Мама мые раму,
Без дзяцей гаруе.

Вышай, памяць!
Бачым
Мы з табой няблізка:
Разам з мамай плача
Зорка з абеліска.

Вышай, памяць!
Слухай:
Дзесь за паваротка
Не святога духа
Чуцен голас.
Продка.

Чарай свету белага
Продкаў памянём...
Памяць таго берага
Вышай з кожным днём.

●

Не адзываецца мой лёс.
Я на яго ані не ў крыўдзе:
Паходзіць скрушна ля бяроз,
Паплача
і пад ранак прыйдзе.

Тады ўва мне
і там, дзе я,
Такі пачнецца свет няпросты,
Нібыта з песні салаўя,
Які спяваў на ўсіх пагостах,

Дзе кожны рух,
дзе кожны след
Надзелены такою сілай,
Якая бессмяротны свет
І нашы лёсы парадніла.

●

Вецер ходзіць ля акна,
Бы сабраўся ў шлях няблізкі.
Хутка вылеціць вясна
З дзюбкі ластаўкі ці пліскі.

І намацае крыло
У гняздзечку птушаняці
Незвычайнае цяпло,
Што ад сонца
і ад маці.

Вачаняты птушанят
Паглядзяць навокал стала...
Так мільёны год назад
І зямля з калыскі ўстала?

І захочацца вясне
Абнавіць лясы і пахі.
І прасветлена і мне
Паглядзяць у вочы птахі.

І ніяк не сагрэшу—
Іх у небе прывітаю...
Я птушыную душу
Да мужчынскай прыхінаю.

●

Раскашуе лета, раскашуе.
Вецер у двары маім начуе.
Каля плоту ў даўнім задуменні
На драўляных ножках
ходзяць цені.

І без асцярогі і ляноты
З роснага парога сходзяць
боты.
Неба пазірае добрым вокам:
Ля хлява тупочуць,
каля вокан,

Па зямлі, пасцеленай травою,
Ля цяпла, жыцця і неспакою,
Ля таго, што мучыць і сцінае,
Радуе і бровы выгінае;

Ля ўсяго, што зведана,
здабыта:
Паху сцен і пораху, і жыта,
Ля галоўкі макавай пахілай,
Ля вады, што помніць, каго
мыла...
Гэта ўсё, што на душы асела,
Паглядзець душа і захацела.

●

Шчырасць яе спытала:
— Што ж ты яму сказала,
Што аж да самага ранку
Ён не сыходзіў з ганка?
Шапку вобземлю кінуў,
Недзе ў тумане згінуў.
Шапка ў траву упала—
З болем трава завяла.
І не чутны яго крокі
Ні на зямлі,
ні ў аблоках...
— Шчырай была я.
І толькі...

### *Старыя таполі*

Гэты час вячэрняга паўзмроку,
Дзе таполі на двары у лета,
Як і я,
стаяць навідавоку
Перад полем,
як перад Сусветам.

З добрым тварам, ласкавым
паглядам,
З думкамі,
што і ўначы свіцяцца...
Разумею вас, таполі,
самі
Мы з зямлёй не можам
развітацца.

●

Сціплы водар вечаровай мяты.
Безліч хмараў часу напавер
Неба дасць.
Хай будзе ён багаты
На ваду,
траву, дзе ходзіць
звер.
На хмызняк,
на яблыні ля хатаў,
На бабра у чыстых тонях
рэк...
А калі надыдзе час адплаты,
Хай за ўсё заплаціць
чалавек.

●

Лета маленькія дрэўцы
абдыме.
Долю зямную адчуюць яны.
Не прысягаючы ў нечым
радзіме,
Будуць да скону радзіме
відны.

Ночы задумныя,
дні спадарожныя
Будуць лістотай вітаць
шапаткой,
Кожнай лісцінкай
і хваляю кожнаю
Вечнай прасторы дарыць
неспакой.

●

У позні час
і позняя каса
З апошніх сіл дакошвае атаву.
Пагладжвае туман па валасах
І студзіць думкі пра чужую
славу.

І хай бы хто са мной
загаварыў,
І неўспадзеў перакурыць
паклікаў,
Каб я, крый бог, сябе
не адарыў
Кавалкам славы,
хоць і невялікім.

Каб я адчуў,
што трэба панасіць
І мазалі па сціплых вулках
вёскі,
Што трэба ўсё жыццё касіць,
касіць...
А дбаць пра славу—
гэта ўжо дакоскі.

●

Водгулле гадоў,
нібы рака,
Што гудзе вірамі за спіною,
Прыпыняе, просіць:
«Пачакай,
Падзяліся будучым са мною...»

Ля яго сядаю на траву,
І былое зноў напамінае,
Як пражыў
і чым цяпер жыву,
І яшчэ—
што будучае маю.

## НА АБСЯГАХ КУЛЬТУРЫ

# КАБ НЕ ПАЧЫНАЦЬ З НУЛЯ

Узяцца за гэты матэрыял захацелася пасля з'яўлення ў «ЛіМе» інтэрв'ю старшыні камісіі па эстэтычным выхаванні дзяцей і юнацтва праўлення Саюза мастакоў БССР В. Вярсоцкага «Патрэбны эстэтычны цэнтр» (12.04. 1985 г.). Вядома, можна сказаць, што існуюць праблемы больш важныя, чым выхаванне ў падлеткаў добрага густу, азнаямленне іх з асновамі выяўленчага мастацтва. Але наўрад ці хто-небудзь будзе пярэчыць, што далучэнне да прыгожага — адзін з галоўных шляхоў выхавання агульнай культуры.

Праблема канкрэтная, таму і размову таксама трэба весці канкрэтную. Дык вось: у Мінску ўжо шэсць гадоў працуе ўстанова, якая, вольна ці не, бярэ на сябе функцыі такога цэнтра. Маецца на ўвазе міжшкольны вучэбна-мастацкі камбінат. Але ўсё па парадку.

Выпіска з кнігі водгукаў камбіната: «Вельмі карысная і патрэбная ўстанова. На жаль, такіх школ няма нідзе, акрамя Мінска. Б. Асварышч, загадчык сектара Дзяржаўнага Эрмітажа».

Пра камбінат пісалася ўжо шмат. Толькі каб нагадаць, паўтару асноўнае. Тут сем аддзяленняў: дызайна, мастацкага канструявання і мадэліравання адзення, вышыўкі, керамікі, скульптуры, мастацкай апрацоўкі дрэва і графікі. Пазнаёміць старшакласнікаў з асновамі гэтых спецыяльнасцей — і ёсць галоўная задача камбіната. Звярніце ўвагу на падбор прафесій — гэта тое, што непасрэдна патрабуецца ў народнай гаспадарцы: на прадпрыемствах мастацкіх промыслаў, у лёгкай прамысловасці, выдавецкай справе.

Важная ў нашай размове дэталь: на якім бы аддзяленні ні займаліся школьнікі, усюды абавязкова вывучаюцца малюнак, кампазіцыя.

Работы навучэнцаў... Яны пабывалі на дзесятках выставак, пералічваць усе заваяваныя дыпломы, прызы, узнагароды — справа доўгая. Але каб быў зразумелы ўзровень работ — два факты. Першы: экспазіцыя камбіната была прадстаўлена і адзначана на ВДНГ СССР. І другі — зараз тут рыхтуюцца да яшчэ адной выстаўкі: яна будзе дзейнічаць у Маскве ў час XII Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў.

Нельга быць сапраўдным мастаком (маецца на ўвазе не толькі прафесія), не цікавячыся мастацтвам увогуле. Гэта ў камбінаце разумеюць добра. Даўняя традыцыя тут — праводзіць «чацвяргі», на якія запрашаюцца мастацтвазнаўцы, музыканты. Не так ужо і часта ад сённяшніх старшакласнікаў пачуеш што-небудзь, накшталт: «Я задумаўся над значэннем музычнай класікі» ці: «Пасля лекцыі аб Вівальдзі буду рэзка спрачацца з прыхільнікамі року». У дырэктара камбіната І. П. Чукраева цэлая папка з такімі водгукамі—папрасілі падлеткаў расказаць аб сваіх уражаннях ад гэтых сустрэч.

Самі навучэнцы... Адбітку геніяльнасці на іх няма, самыя звычайныя хлапчукі і дзяўчынкі. Хоць ёсць бясспрэчна здольныя. Дзіма Гурбановіч, напрыклад, распрацаваў цацку — хатні цір, якая будзе запушчана ў масавую вытворчасць. Яна зараз прадстаўлена на атрыманне аўтарскага пасведчання. Да аўтарскага пасведчання прадстаўлены і дзіцячыя маскі Светы Вятровай. Самую высокую ацэнку даюць спецыялісты новым відам упакоўкі (работы дызайнераў), сукенкам, варыянтам афармлення кніг, кераміцы. Аднак сказаць, што тут займаецца эліта, лепшыя з лепшых — напэўна, было б няправільна. У час прыёму адбор па здольнасцях непазбежны, але здольнасці здольнасцямі, а канчатковы вынік... Тут прывучаюць мысліць раскавана, нестандартна. Заданні навучэнцам даюцца ўсур'ёз і патрабаванні ставяцца таксама ўсур'ёз. Падлеткі атрымліваюць справу па душы, магчымасць адчуваць сябе майстрамі.

Пасля заканчэння камбіната каля 25 працэнтаў яго выпускнікоў працягваюць навучанне ў адпаведных інстытутах і ГПТВ. Паказчык дастаткова высокі. Ну, а тыя, хто выбраў іншую прафесію? Па-ранейшаму малююць, выразаюць, шыюць — для сябе. Часам прыходзяць, расказваюць: «Займаюся ў заводскай студыі». Пішуць пісьмы: «У арміі аформіў чырвоны куток».

Выпіска з кнігі водгукаў камбіната: «...магчыма, далучэнне да прыгожага і неабавязкова прыводзіць навучэнца ў галіну прафесійнага мастацтва; знаёмства з культурнай спадчынай застаецца на ўсё жыццё. А. Занеўскі, загадчык кафедры БДТМІ».

Цяпер вернемся да таго, з чаго пачалася размова. Падумаем: канкрэтная творчая работа школьнікаў, іх агульнае культурнае развіццё — ці не тыя гэта задачы, што павінен вырашаць эстэтычны цэнтр? Дык чаму б не стварыць яго на базе камбіната? Добра, хай на першы час будзе такі цэнтр не рэспубліканскі — толькі гарадскі. Зразумела — справа новая, непазбежныя цяжкасці, збоі, «нестыкоўкі». Прызнаем з самага пачатку такі цэнтр эксперыментальным і будзем да іх — эксперыментаў — гатовыя. Але ж у любым выпадку гэта прасцей, чым пачынаць з нуля. Бо створана методыка навучання; працуюць вопытныя педагогі; дзейнічае неблагая матэрыяльная база.

Калі згодны — прыкінем, што спатрэбіцца для ажыццяўлення гэтай ідэі.

Перш за ўсё — пашырэнне вытворчых плошчаў. Зараз у камбінат прымаюць з 9-га класа. У цэнтр хлыне паток школьнікаў самых розных узростаў, іх будзе шмат, у старым будынку ўсе проста не змогуць размясціцца. Вядома, праблема не простая. Але вырашаць яе так ці інакш прыйдзецца, і ў досыць хуткім часе. Вучэбна-мастацкі камбінат арганізаваны па тыпе камбіната вучэбна-вытворчага. У сувязі з рэформай школы сюды вось-вось прыйдуць вучні 8—11 класаў, колькасць тых, хто займаецца, узрасце, як мінімум, удвая. Такім чынам, плошчы ўсё роўна прыйдзецца павялічваць. А арганізаваць іх рацыянальнае выкарыстанне — гэта справа тэхнікі.

Павялічыцца колькасць навучэнцаў — узрасце і нагрузка ў педагогаў. Таму трэба быць гатовымі, што ўстане пытанне аб павелічэнні іх колькасці.

І яшчэ. Сёння камбінат працуе практычна ў адрыве ад творчых саюзаў рэспублікі. Сустрэчы, гутаркі — усё гэта, так сказаць, на прыватнай аснове. Са з'яўленнем цэнтра сувязь гэта павінна стаць пастаяннай, цеснай. Прычым не толькі з Саюзам мастакоў — тут і пытанняў быць не можа, — але і з саюзамі архітэктараў, пісьменнікаў, кампазітараў...

Выпіска з кнігі водгукаў камбіната: «Мяркую, што пабываў ля вытокаў велізарнага руху па агульным эстэтычным развіцці і выхаванні дзяцей Беларусі. А. Мелік-Пашаеў».

Вядомы мастацтвазнаўца зрабіў гэты запіс некалькі гадоў назад. Хочацца спадзявацца, што праз некаторы час мы будзем гаварыць не толькі аб вытоках, але і аб самім руху.

**С. МЕХАЎ.**

## ПА КАЛЕНДАРЫ 1986 ГОДА

**Уладзімір Собаль працаваў і механізатарам, і цесляром, і культработнікам. Але найлепш раскрыліся яго здольнасці, калі прыняў Барсукоўскі кінастацыянар Смалявіцкага раёна. Гэта было 15 гадоў назад.**

**У фае сельскага Дома культуры аформіў «Куток кінагледача» з фотаздымкамі акцёраў, сюжэтаў з кінафільмаў, кароткімі анатацыямі на іх. Кожны месяц рэгулярна вывешваў рэпертуарны план. А галоўнае, што з жыхарамі кожнага вясковага дома наладзіў асабістыя кантакты, расказваў ім аб новых фільмах, збіраў заяўкі на тыя, якія людзі хацелі б паглядзець. Перад паказам карцін запрашаў выступаць культработнікаў, спецыялістаў сельскай гаспадаркі.**

**Усё гэта садзейнічала поспеху. Свае сацыялістычныя абавязацельствы ён рэгулярна перавыконваў. Першым у Смалявіцкім раёне У. Собаль завяршыў і пяцігадовае заданне па абслугоўванні кінагледачоў.**

**— Да канца года мяркую выканаць яшчэ адно гадавое заданне, — гаворыць кінамеханік.**

**Л. КУДРАЧ.**

## ТОЛЬКІ ПАЧАТАК

**Добрая слава ідзе пра выпускнікоў Маладзечанскай музычнай школы. Многія з іх пасля заканчэння гэтай установы працягваюць вучобу ў музычных вучылішчах, паступаюць у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Але і тыя, хто ў жыцці выбірае прафесію не звязаную з музыкай ці культурна-асветнай работай, добрым словам успамінаюць выкладчыкаў, гады, што сталі сапраўднымі ўваходзінамі ў свет цудоўнага.**

**Як складзецца ў далейшым лёс Олі Асіповіч, гадаць не будзем. У жыцці дзяўчынкі зроблены толькі першыя самастойныя крокі — Оля пакуль што закончыла падрыхтоўчы клас школы, будзе працягваць у ёй вучобу. Але музыку дзяўчынка палюбіла па-сапраўднаму, абрала і інструмент, які прыйшоўся ёй больш за ўсё даспадобы. Оля Асіповіч іграе на цымбалах. Ды так іграе, што проста заслухаешся. Хораша гучыць гэты народны інструмент, калі**



**дзяўчынка выконвае народную мелодыю ці творы сучасных кампазітараў.**

Фота М. МІНКОВІЧА.

САМАДЗЕЙНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

# КЛІЧУЦЬ НОВЫЯ ДАРОГІ

Першымі вестку аб тым, што ў Юлісіно прыедзе аўтаклуб з артыстамі, разнеслі па вёсцы хлапчукі. Іх, праўда, тут няммнога, бо і вёска невялікая, але ў Лядна, Рачкавічах і наогул у наваколлі гавораць, што юлісінскія хлапчукі самыя баявыя і спрытныя. Не магу сцвярджаць, што гэта так, але тое, што такіх невялікіх вёсак і пасёлкаў, як Юлісіно, у Слуцкім раёне нямала і што не вельмі яны распешчаны ў сэнсе культурнага абслугоўвання, дык гэта так. Зразумела, ёсць у хатах радыё, тэлевізары, ідуць газеты, часопісы і г. д. А вось сустрэцца з «жывым» артыстам ці лектарам? Або паглядзець фільм на кінаэкране, а то надвячоркам проста заглянуць у шматлюдны клуб? Такая магчымасць не заўсёды ёсць. Можна, вядома, пайсці ў Рачкавічы, Лядна, а то і паехаць у райцэнтр. Можна, але не вельмі зручна. І вось жыхары невялікіх населеных пунктаў, здараецца, і скардзяцца.

У Юлісіно я прыехаў разам з агітбрыгадай раённага аддзела культуры. Жыхары вёскі сустрэлі гасцей са Слуцка як старых знаёмых — агітбрыгада тут ужо бывала, праўда, у іншым складзе. Тады выступленне самадзейных артыстаў вельмі спадабалася гледачам. За апошнія месяцы аўтаклуб пабываў у многіх аддаленых вёсках раёна. Аўтаклуб, агітбрыгада маюць сваё, важкае месца ў сацыяльна-культурным жыцці вёскі. Справа ў тым, што аўтаклуб можна сустрэць у вёсцы разам з работнікамі службы быту, гандлю, якія таксама прыязджаюць са Слуцка.

...У прызначаны час жыхары Юлісіно прыйшлі ў брыгадны клуб. Людзі тут ветлівыя і гасцей сустрэлі апладысментамі.

Напачатку — гутарка «Веліч нашай Перамогі». А потым — канцэрт. Праграма яго разнастайная. Удзельнікі фальклорнай групы Селішчанскага Дома культуры — жывёлаводы малочнатаварнай фермы № 1, аператары машыннага даення. Настрой тут задала Зінаіда Чыпурка. Яна чытае свае вершы, чытае па-майстэрску. У рэпертуары фальклорнай групы — абрадавыя, жартоўныя і іншыя песні. Падабаецца канцэрт юлісінцам. Узнагарода — апладысменты і запрашэнне яшчэ раз завітаць у госці.

Загадчыца агітклуба, які працуе пры раённым аддзеле культуры, — Тамара Барысаўна Гаражанка. Па натуры яна аптымістка, справу сваю любіць. Вось ужо сем гадоў яна займаецца культурна-масавай работай на вёсцы, аддае ёй шмат часу і ўмення. Усё, што робіць загадчыца аўтаклуба і яе памочнікі, вызначаецца актуальнасцю, змястоўнасцю і эмацыянальнасцю. Гэтая праца немагчымая без пошуку, перш за ўсё тэмы і сродкаў яе ўвасаблення.

Калі ў вёсцы Бокшыцы рыхтаваўся тэматычны вечар «Мая вёска — лёс мой», не ў адну хату зайшлі Тамара Барысаўна, мясцовыя работнікі культуры, каб сустрэцца, пагутарыць з людзьмі, сабраць цікавы матэрыял, які стане асновай сцэнарыя. Паглядзелі падшыўкі газет, пагарталі часопісы, кнігі, дзе згадваецца вёска, яе людзі. Адным словам, работнікамі культуры было прыкладзена шмат намаганняў. Але яны акупіліся. Жыхары Бокшыцаў шчыра дзякавалі арганізатарам вечара, якія дапамаглі вяскоўцам сустрэцца з былым матросам крэйсера «Аўрора» Арцёмам Пятровічам Махлаем, з героямі грамадзянскай вайны, з тымі, хто змагаўся супраць фашызму. А якая цікавая размова ішла пра маладых людзей, якія звязалі свой лёс з роднай вёскай.

Загадчыца аўтаклуба лічыць сваім абавязкам аказваць метадычную дапамогу работнікам культуры на вёсцы. І каб гэта дапамога была дзейснай, Т. Гаражанка пастаянна вучыцца: яна студэнтка інстытута культуры. Пытаюся ў Тамары Барысаўны, якія ёсць праблемы, няявырашаныя пытанні ў яе працы?

— Метадыста па профілю нашай работы, — гаворыць яна, — у вышэйшых падраздзяленнях культуры няма. Часцей бы абменьвацца вопытам, узбагачаць методыку работы. А ўсё астатняе — у нашых руках, залежыць ад нас...

Позірк Тамары Барысаўны ўпаў на план, які ляжаў на стале. Папярэджваючы маё пытанне, яна сказала: «Едзем у Буда-Грэскую».

На яе твары добрая ўсмешка. Новыя дарогі, новыя сустрэчы з людзьмі. Сустрэчы гэтыя радуюць агітбрыгаду, якая нясе людзям шчырае слова, радасць і добры настрой.

**Р. ПАСТРОН.**

г. Слуцк.

НАМ ПІШУЦЬ

# КРЫНІЦА ЦУДОЎНАГА

**Штодня, уключаючы тэлевізар, мы маем магчымасць паслухаць цудоўны канцэрт, сустрэцца з адметнымі выканаўчымі калектывамі з братніх рэспублік. Мы, малдаўскія аматары харавых спеваў, з вялікай асалодай глядзелі перадачу з Мінска — канцэрт Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору БССР (мастацкі кіраўнік М. Дрынеўскі, музычны кіраўнік М. Сірата). Мы не змаглі ўтрымацца і не напісаць у вашу газету пра свае ўражанні.**

**Сапраўдная музычная культура і высокае выканаўчае майстэрства — так можна ахарактарызаваць канцэрт хору. Харысты, салісты і танцоры стварылі для нас — аматараў музыкі — атмасферу шчаслівай сустрэчы з цудоўным. Мы адчулі далучанасць да чыстых крыніц натхнення і вялікага таленту братняга беларускага народа. Асабліва ўпадабалі мы вакальна-харэаграфічныя кампазіцыі «Партызанская паэма», «Вясеннія абрады, гульні і карагоды», «Беларускія калядкі». Галасы харыстаў гучаць мякка, празрыста і цёпла. Выканаўцы арганічна перадаюць стыль і характар твораў, якія выконваюцца.**

**Зычым гэтаму цудоўнаму калектыву і надалей захоўваць лепшыя традыцыі харавых спеваў беларускага народа. Зычым новых творчых вяршынь і поспехаў на сцэнах краіны. Чакаем сустрэч і на нашай малдаўскай зямлі!**

**Л. КАРАДЖАВА,**
**В. КАРАДЖАУ.**

г. Цірасполь.

НАШ КАЛЯНДАР



**15 ліпеня споўнілася 75 гадоў з дня нараджэння Змітра ВІТАЛІНА (Дзмітрыя Іванавіча Сергіевіча) (нар. у 1910 годзе — прапаў без вестак на фронце), беларускага паэта. З вершамі пачаў выступаць у другой палове дваццатых гадоў. Выдаў зборнік «Будзем жыць» (1932).**



**20 ліпеня споўнілася 105 гадоў з дня нараджэння Гальяша ЛЕЎЧЫКА (І. М. Ляўковіча) (1880—1944), беларускага паэта-самавука. Друкавацца пачаў у 1908 годзе ў газеце «Наша Ніва». Выдаў зборнік вершаў «Чыжык беларускі» (Вільня, 1912). Паэтычная спадчына Г. Леўчыка, яго проза, пераклады, пісьмы, а таксама ўспаміны пра пісьменніка прадстаўлены ў кнізе «Доля і хлеб» (1980).**



**22 ліпеня — 75 гадоў заслужанаму дзеячу мастацтваў БССР Пятру АКУЛЕНКУ. Выхаванец Мінскага харэаграфічнага вучылішча, ён у 1937 — 41 гг. быў салістам Ансамбля беларускай народнай песні і танца. Затым працаваў у ансамблях песні і танца Адэскай і Прыбалтыйскай ваенных акруг. У 1953 годзе П. Акулёнак быў прызначаны галоўным балетмайстрам Дзяржаўнага народнага хору БССР. Сярод найбольш вядомых ягоных пастановак — «Лявоніха», «Крыжачок», «Вечарынка ў калгасе», «Беларуская маладзёжная».**

**25 ліпеня споўнілася 80 гадоў з дня нараджэння Ілары (Іларыёна Мацвеевіча) БАРАШКІ (1905—1968), беларускага савецкага пісьменніка. З 1924 года выступаў у друку з апавяданнямі і нарысамі. Вядомы таксама як драматург, аўтар сцэнарыяў шэрагу дакументальных фільмаў, у тым ліку пра Янку Купалу і Ф. Скарыну. Пераклаў на рускую мову паасобныя творы К. Крапівы, К. Чорнага, П. Галавача і іншых аўтараў.**



**27 ліпеня—80 гадоў з дня нараджэння Янкі (Івана Іванавіча) БОБРЫКА (1905—1942), беларускага савецкага пісьменніка. Удзельнік абароны Ленінграда. З вершамі пачаў выступаць у 1924 годзе. Разам з А. Звонакам і Я. Туміловічам выдаў зборнік «Пунсовае ранне» (1926). У 1930 годзе «Маладняк» надрукаваў яго паэму «Галіна». Асобныя вершы змешчаны ў зборніку «Мы іх не забудзем» (1949). Выступаў таксама ў перыядычным друку з нарысамі і апавяданнямі.**

# СПАДЗЯЁМСЯ НА ДАПАМОГУ

## РАСПАЧАТА РАБОТА ПА СТВАРЭННІ МУЗЕЯ «ДОМ ВАЛЕНЦІЯ ВАНЬКОВІЧА»

Працяглы час Дзяржаўны мастацкі музей БССР вядзе навукова-даследчую работу, прысвечаную вядомаму жывапісцу першай трэці XIX стагоддзя В. Ваньковічу, жыццё і творчасць якога трывала звязаны з Беларуссю.

Валенці Ваньковіч нарадзіўся ў 1799 годзе ў маёнтку Калюжыцы Ігуменскага павета Мінскай губерні ў сям'і павятовага суддзі. Вучыўся ў гімназіі пры Полацкім езуіцкім калегіуме (пазней пераўтвораным у Полацкую акадэмію). У 1818—1824 гадах Ваньковіч—студэнт факультэта жывапісу, скульптуры і графікі Віленскага універсітэта. Тут, у Вільні, пачынаецца яго дружба на ўсё жыццё з Адамам Міцкевічам, таксама студэнтам універсітэта.

У 1824 годзе Ваньковіч быў накіраваны ў Пецярбургскую Акадэмію мастацтваў. Прыродны талент, каласальная працавітасць і мэтанакіраванасць хутка далі свой плён. На першым жа экзамене яго малюнак атрымаў першае месца, потым ён атрымаў вялікі і малы сярэбраныя медалі. Яго партрэты прыцягнулі агульную ўвагу, былі сугучны часу. Ваньковіч увайшоў у перадавыя колы пецярбургскай інтэлігенцыі, сябраваў з адным з буйнейшых майстроў рускага і польскага рамантызму А. Арлоўскім, мастаком І. Аляшкевічам, рускімі літаратарамі В. Жукоўскім, П. Вяземскім, М. Палявым. Адам Міцкевіч пазнаёміў яго з Пушкіным, над партрэтам якога Ваньковіч з захапленнем працаваў, але так і не завяршыў (захаваўся толькі партрэт алоўкам).

У 1828 годзе Ваньковіч вярнуўся на Беларусь, пасяліўся ў родавым маёнтку Сляпянка пад Мінскам. Тут ён працягваў творчую працу, сабраў вялікую калекцыю твораў мастацтва. Часта выязджаў да Вільні і Мінска, дзе спыняўся ў доме свайго стрыечнага брата Эдварда Ваньковіча. Як успамінае вядомы польскі кампазітар Станіслаў Манюшка, у Сляпянцы або ў доме на вуліцы Валоскай (зараз вул. Інтэрнацыянальная) не раз адбываліся музычныя вечары.

Нацыянальна-вызваленчы рух 1830—31 гадоў не пакінуў мастака абыякавым. В. Ваньковіч купіў зброю і каня. Толькі слабае здароўе не дазволіла яму прыняць удзел у баявых дзеяннях. Разгром паўстання, гібель і выгнанне многіх сяброў і аднадумцаў былі для яго цяжкім ударам, але не зламалі яго.

У 1841 годзе Ваньковіч накіроўваецца за мяжу, малюе, капіруе творы класікі ў Дрэздэне, Мюнхене, Страсбургу. Мастак ведаў пра сваю невылечную хваробу, працаваў без адпачынку, не шкадуючы сябе. Апошні яго твор «Маці боская Вострабрамская» назаўсёды застаўся ў парыжскай царкве Сен-Северын. 12 мая 1842 года Валенці Ваньковіч памірае ад туберкулёзу на руках Адама Міцкевіча. Пахаваны мастак на могілках Манмартр-дэ-Сен-Дэні ў Парыжы.

Цяпер у Мінску распачата работа па стварэнні музея «Дом Валенція Ваньковіча. Культура першай трэці XIX стагоддзя». Спецыяльнымі навукова-рэстаўрацыйнымі вытворчымі майстэрнямі распрацаваны праект аднаўлення, рэстаўрацыі і адкрыцця экспазіцыі ў доме № 33-а па вуліцы Інтэрнацыянальнай. У працэсе збору экспанатаў, біяграфічнага і выяўленчага матэрыялу супрацоўнікі Дзяржаўнага мастацкага музея БССР сустрэліся з вялікімі цяжкасцямі. Творы майстра захоўваюцца ў Варшаве, Парыжы, Ленінградзе, Маскве, Вільнюсе.

Спадзяёмся, што калекцыянеры, аматары мастацтва дапамогуць нам у стварэнні «Дома Ваньковіча». Дзяржаўны мастацкі музей БССР (220030. Мінск, вул. Леніна, 20) цікавіць усё, што звязана з імем Валенція Ваньковіча: карціны, малюнкі, гравюры і літаграфіі з яго твораў, пісьмы, кнігі, успаміны сучаснікаў, рэчы. Жывапісныя творы, гравюры і малюнкі Яна Дамеля (1780—1840), Іосіфа Аляшкевіча (1777—1830), Фадзея (Тадэвуша) Гарэцкага (1825—1868), Аляксандра Арлоўскага (1777—1832), Януарыя Сухадольскага (1797—1835), Вікенція Дмахоўскага (1807—1862). Мініяцюры, рускія і заходнееўрапейскія гравюры, пейзажы, кампазіцыі перыяду напалеонаўскіх войн. Творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва таго часу, мэбля, музычныя інструменты, розныя прадметы дваранскага побыту. Кнігі, альбомы нот першай паловы XIX стагоддзя, выдадзені А. Міцкевіча, А. Пушкіна, А. Гарэцкага, М. Шыманоўскай, К. Ліпіньскага.

Няхай дом-музей таленавітага мастака беларускай зямлі стане вынікам творчай дзейнасці ўсіх, каму дарагая культура нашага народа.

**В. БУЙВАЛ,**
**загадчык аддзела Дзяржаўнага мастацкага музея БССР.**

**ІШЛА ВАЙНА НАРОДНАЯ**

# ЧЫРВОНЫЯ РОСПЫ

**Горад Кюстрын быў яе першай радзімай, Капыльшчына—другой. Пра жанчыну незвычайнага лёсу — наш расказ.**

У капыляніна, якому за шэсцьдзесят і які зведаў выпрабаванні вайной, слова Роспы выклікае такія ж пачуцці, што і слова Зыслаў у былога партызана Любаншчыны. У Роспах — ціхай, лясной вёсачцы, што раскінулася ўздоўж блакітнай стужкі Лошы — амаль усе гады ваеннага ліхалецця людзі жылі па савецкіх законах. Аб гэтым напамінае невялікая мемарыяльная дошчачка на доме рабочага саўгаса «Крыніцы» К. Пратасевіча: «Тут у гады нямецка-фашысцкай акупацыі базіраваліся Капыльскія падпольныя РК КПБ і РК ЛКСМБ і штаб партызанскай брыгады імя Чапаева». На процілеглым баку вуліцы — невысокі абеліск за штыкетнай агароджай, на ім — прозвішчы партызан і падпольшчыкаў, што загінулі ў баях з ворагам.

...Мясцовы настаўнік Іван Паўлавіч Пратасеня, які добра ведае мінулае Роспаў, яе партызанскую «радаслоўную», расказаў, што ў доме яго аднавяскоўца Сцяпана Пратасевіча больш за год размяшчаўся партызанскі шпіталь, а жонка Сцяпана і старэйшая дачка былі за санітарак і кухарак. І мала хто з лясных салдат, клянучы Гітлера і немцаў, ведаў тады, што светлавалосая немаладая жанчына, якая так пяшчотна абыходзілася з паранеными,— немка, прытым з Германіі.

...У 1920 годзе з нямецкага палону ў Роспы вярнуўся былы салдат царскай арміі Сцяпан Пратасевіч, якога аднавяскоўцы лічылі прапаўшым без вестак. Вярнуўся не адзін — з маладой жонкай Дорай, дачкой небагатага рамесніка з-пад Кюстрына. Мабыць, моцнае было іх каханне, калі яна, гараджанка, не ведаючы нашай мовы, звычак, пакінуўшы бацькоў, выправілася з мужам у далёкую і невядомую ёй краіну. Маці наказвала ёй, каб доўга не бавілася ў Расіі — не дазволіла нават узяць трохгадовае дзіця, разлічваючы, што Дора засумуе па ім і вернецца назад, у Кюстрын.

Яна ж не вярнулася. Цяжка было ёй прывыкаць да вясковага жыцця. Роспаўскія жанчыны хутка прыкмецілі, што Сцяпанава жонка не ўмее ні жаць, ні трымаць у руках граблі, ні прасці. «Адкуль ёй умець,—гаварылі паміж сабою жанчыны. — Жыла ў горадзе, каву піла з булкамі ды пад ручку са Сцяпанам шпацыравала». Але Сцяпан неўзабаве даказаў усім, што яго жонка не беларучка. Ён быў на рэдкасць цярплівы і настойлівы чалавек. Ні разу не ўпікнуў жонку за яе няўменне, дзень пры дні вучыў мудрагелістаму сялянскаму рамяству. Крывавымі мазалямі, рубцамі ад шматлікіх парэзаў сярпа адкладвалася на руках Доры сялянская «грамата». Навучылася ўсё рабіць не горш за іншых. Толькі размаўляла з моцным акцэнтам. Ва ўсім іншым знаходзіла з мужам агульную мову. А калі ў вёсцы пачалі арганізоўваць калгас «Чырвоныя Роспы», Пратасевічы запісаліся ў яго аднымі з першых. Сцяпан у брыгадзе з канём працаваў, Дора пайшла на ферму даяркай, мела граматы і падзякі за старанную працу. У іх было чацвёра дзяцей —два сыны і дзве дачкі. Старэйшы, Іван, служыў у пагранічных войсках, пісаў, што хутка дэмабілізуецца і пойдзе вучыцца на агранома. Меншыя дзеці хадзілі ў школу.

Страшнае слова «вайна» роспаўцы пачулі днём 22 чэрвеня — яго прывёз з Капыля Сцяпан Пратасевіч, муж Доры. Яна сказала мужу: «Каўбаснікі і лавачнікі, Штэфан, узялі там уладу. Памятаеш, як яны лезлі на ражон у дзевятнаццатым годзе? Нічога, цяпер рускія натаўкуць іх тлустыя морды».

Праз тыдзень гітлераўскія салдаты былі ў Капылі, яшчэ праз дні два тупарылы грузавік спыніўся ў Роспах. Салдатня ў шэра-зялёных мундзірах разбягалася па хатах і хлеўчуках у пошуках курэй і яек. Нехта падказаў акупантам, што ў вёсцы жыве іх зямлячка. Дору паклікалі да грузавіка. Салдаты былі нямала здзіўлены, даведаўшыся, што жанчына з «фатэрланда» па добрай волі прыехала жыць у гэтую лясную вёсачку і, мяркуючы па яе словах, нядрэнна адчувала сябе, ні на што не скардзілася.

Аб тым, што адбылося далей, успамінае дачка Доры Мартынаўны — Вольга Сцяпанаўна:

— Мне тады было пятнаццаць гадоў. І я таксама стаяла ля той машыны. Раптам бачу — маці міргае мне, маўляў, падыдзі бліжэй. Чую, як яна шэпча мне на вуха з трывогай: «Праз наш агарод ідуць чырвонаармейцы, бяжы хутчэй і папярэдзь, каб палеглі ў бульбоўніку, а то паловяць іх «мае землякі». Маці, каб адцягнуць увагу немцаў, пачала клікаць іх да сябе — фатаграфавацца на памяць. А я скочыла ў агарод і папярэдзіла нашых салдат — іх было чацвёра. Яны не бачылі, як машына заехала ў вёску. Калі немцы паехалі, маці дала мне бохан хлеба, збан малака і загадала аднесці ў лес, дзе схаваліся тыя чырвонаармейцы...

Тыдні праз два-тры ў Роспы завітаў нехта з далёкіх ці блізкіх родзічаў Доры Мартынаўны. Ён угаворваў яе кінуць «дзікую вёску» і вярнуцца ў «фатэрланд» да маці, братоў і сясцёр. Дора моўчкі выслухала агітатара і сказала з уласцівай ёй праматой:

— Нікуды я адсюль не паеду. Тут мая сям'я, мой дом. Не забывай, што мой старэйшы сын на фронце, ваюе супраць вас. І як маці я буду маліцца, каб ён вярнуўся дадому жывы і здаровы.

У першыя ж дні акупацыі яна выратавала жыццё двум аднавяскоўцам — Яўгену Нікановічу і Паўлу Пратасевічу. Хлопцы баранавалі ля лесу калгасную бульбу. Не заўважылі, як паблізу спынілася машына з немцамі. Афіцэр паклікаў іх да сябе і сказаў: «Бальшавік! Капут!» Хлапцы былі рослыя, немцы, напэўна, рашылі, што перад імі пераапранутыя ў цывільнае чырвонаармейцы. Афіцэр ужо загадаў ім капаць яму. Салдаты ўзвялі затворы аўтаматаў. Нехта з сялян убачыў гэтую сцэну і паклікаў Дору Мартынаўну. Яна паспела прыбегчы да машыны, калі хлопцы з белымі тварамі вылазілі з ямы. Яны не разумелі яе слоў, але здагадваліся, што жанчына рашуча настроена адвесці ад іх смерць. Афіцэр выслухаў Дору Мартынаўну, нешта сказаў салдатам і тыя закінулі аўтаматы за плечы. Хлопцаў адпусцілі.

З вясны 1942 года ў Роспы сталі наведвацца партызаны. Аднойчы паліцаі з Узды высачылі чатырох патрыётаў, наладзілі за вёскай засаду і ва ўпор расстралялі іх. Услед за гэтым у Роспы наехаў карны атрад. Жыхароў выгналі на вуліцу, жанчын і дзяцей паставілі ў адну шарэнгу, мужчын — у другую. Насупраць два кулямёты. Жанчыны шапталі Доры (яна разам з усімі стаяла ў шарэнзе): «Дарачка, родненькая, калі ты нас сёння не выратуеш, то ўжо ніхто нам не дапаможа».

Камандзір карнікаў праз перакладчыка גразіў: «Калі жыхары вёскі не прызнаюцца, хто хаваў тых чатырох забітых у засадзе партызан, не пакажа, дзе размешчаны іх зямлянкі, усіх чакае смерць».

І тады Дора Мартынаўна папрасіла, каб ёй далі слова. Яна падышла да афіцэра, загаварыла з ім па-нямецку. Гітлеравец слухаў яе з дрэнна скрытым недаверам, але не перабіваў... Потым ляпнуў рукой па кабуры, пагражальна загаварыў з Дорай Мартынаўнай. Ох, як не лёгка было ёй пераконваць таго прусака, што жыхары вёскі не вінаватыя. Гэта быў доўгі слоўны паядынак, які са стоеным дыханнем слухалі сотні мірных жыхароў і з якога жанчына выйшла пе-



**У Брэсцкім абласным тэатры лялек адбылася прэм'ера спектакля для маленькіх гледачоў «Сонейка, свяці!» па п'есе Уладзіміра Ягоўдзіка. Ажыццявіў пастаноўку У. Зайцаў. Мастак — С. Свістуновіч, кампазітар — В. Кандрасюк, тэксты песень напісаў А. Пісьмянкоў.**

**У ролях заняты артысты Ю. Лахмакоў, І. Герасевіч, А. Проліч, Т. Тэвасян, У. Зайцаў, Г. Сабчук, Р. Баравік.**

**В. БЕРАСЦЕЙСКІ.**

# ПЯЦЬ НЯПРОСТЫХ ПЫТАННЯЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 4).**

Я прыгадаў грэкаў. Яны ўмела гэтага дасягалі. Для мяне асабіста вельмі дарагое тое разуменне задач і прызвання скульптара, якое сфарміравалася ў мяне пад уражаннем ад твораў старажытнасці. Назаву некаторыя. Мармуровая статуя Гермеса з дзіцем Дыёнісам — славутага скульптара Праксіцеля. Яго сучаснік Скопас уражвае мяне дзівоснай у сваім эмацыянальным экстазе Менадай. Я схіляюся перад прыгажосцю чалавечага цела, увасобленай Фідзіем. Магу «чытаць» псіхафізічную гармонію «Дыскабола» Мірона або «Кап'яносца» Паліклета. Свае ўяўленні пра непаўторную прывабнасць чалавека звязваю з атлетамі Лісіпа. Мне пашчасціла свае кніжныя, разумовыя захапленні «ажывіць» непасрэдным уражаннем-узрушэннем у Луўры, дзе я на ўласныя вочы пабачыў цудоўныя шэдэўры — пачынаючы ад Ніке Самафракійскай і Венеры Мілоскай.

Грэкі, эліны — нашы далёкія і такія блізкія па духу творчых пошукаў і памкненняў настаўнікі. «Нашы», — бяру на сябе смеласць гаварыць ад імя большасці савецкіх скульптараў, маіх калег-аднадумцаў.

Дазволю сабе і жартаўлівае адступленне. Некалі віцебскія сябры, пакепліваючы з мяне, дэбютанта ў скульптуры, называлі мяне «Мікеланджэла». Вядома, гэтаксама яны маглі «перайменаваць» мяне ў «Радэна» або «Антакольскага». Ды толькі ў мяне самога ўзнікла зусім не выпадковая цікавасць да Мікеланджэла. Я даведаўся, што ўменне падпарадкаваць сабе прастору, займаючы ў ёй «месца» сваім адчуваннем уласнага твора, Мікеланджэла выпрацаваў пад уплывам бессмяротнага Леанарда да Вінчы. Заняўшыся вывучэннем спадчыны гэтага вандроўніка і адважнага празарліўца, дзівоснага генія і непераўзыдзенага ўмельца, я зразумеў, як многа імпульсаў Леанарда да Вінчы і дасюль генеруюць у творчасці мастакоў. А яны часам і не здагадваюцца, адкуль чэрпаюць натхненне, ад каго пераймаюць патрабавальнасць да сябе. Нават уражлівыя прасторавыя кампазіцыі Рафаэля Санці навеяны, калі не падказаны, менавіта ім — Леанарда!

Помню, калі мне давялося паважліва схіліцца ля грабніцы Медзічы, дзе так надзіва ясна і па-філасофску мудра супрацьпастаўлены «жыццё» і «смерць», мяне ахапіла пачуццё піетэту перад паэтычнай глыбінёй таленту Мікеланджэла. Таленту магутнага і пяшчотнага. Убачыўшы яго герояў і пакутнікаў, яго празорцаў і грэшнікаў, яго барацьбітоў і суцяшальнікаў, па-новаму пачынаеш думаць пра людзей, сярод якіх так многа стваральных сіл і супярэчлівых імкненняў. Мікеланджэла і сапраўды кіруе тваім душэўным станам і настройвае розум на бясконцыя развагі.

З больш блізкіх па часе майстроў, чый прыклад для мяне — ідэал, назаву Агюста Радэна. Лічу, што наўрад ці ёсць у яго сапернік ва ўменні адлюстраваць у імгненным — вечнае. «Мысліцель», «Вечная вясна», «Блудны сын», «Пакуты»... Затрымаешся каля якога-небудзь з гэтых твораў — і ўзнікае такое адчуванне, нібыта ты няспешна прачытаў эпічны раман, драматычную паэму, быццам прасачыў у складаных сувязях узлёты і падзенне чалавека, быццам перад табой раскрылася зманлівасць розуму і прасвятленне сэрца, дапытлівае спасціжэнне таямніц быцця і грамадзянскае нецярплівае імкненне да ісціны... І вяршыня — «Грамадзяне Кале»—праца Радэна, якую ў думках я стаўлю побач з «Вайной і мірам» Л. Талстога. Як уражвае геніяльна вылепленая група, здавалася б, звычайных гараджан, паяднаных агульным лёсам і знамянальным уздымам духу!

Ці будзе перабольшваннем, калі я скажу, што «Камень — зброя пралетарыяту» І. Шадра, мастака зусім іншай сацыяльнай фармацыі, можа смела заняць месца побач з радэнаўскімі шэдэўрамі па глыбіні жыццёвай праўды ў гэтым сімвалічным вобразе? Мне блізкія творчыя пошукі і адкрыцці В. Мухінай і М. Томскага — майстроў савецкай школы, якія шанавалі класічныя традыцыі і не ўхіляліся ад наватарскага кроку, калі яго падказваюць тэма і задума твора. Тут я назаву яшчэ Я. Вучэціча — захопленага і неўтаймоўнага творцу. У лепшых работах гэтых скульптараў, якія свядома і пераканана прытрымліваліся метаду сацыялістычнага рэалізму, перадаецца рэвалюцыйная скіраванасць прадстаўнікоў працоўных класаў у будучыню. Фігуры герояў у І. Шадра, В. Мухінай, М. Томскага, Я. Вучэціча — вобразы свайго часу, зразумелыя і ясныя для ўсіх людзей зямлі. Гэта творы ідэйна-эстэтычнай гармоніі. Я думаю, такімі і папаўняецца скарбніца хараства ў культуры чалавецтва. Папаўненне, унесенае савецкімі мастакамі.

Зазначу і асабістае: такія людзі, як І. Шадр або Я. Вучэціч, імпануюць мне акрэсленасцю сваіх поглядаў і перакананняў у спалучэнні з тэматыкай і нават з аб'ектамі іх творчай увагі. Вось ужо ніколі не стаў бы, скажам, Яўгеній Віктаравіч Вучэціч кампанаваць у адну скульптурную групу вобразы людзей супрацьлеглых гістарычных і грамадзянскіх рэпутацый! У такіх майстроў надараюцца не вельмі спрыяльныя дні, месяцы, гады, але ўсяеднасці і грамадскай непераборлівасці служыць яны не будуць ні ў малым, ні ў вялікім. Такому майстру я — таварыш. Мне моташна ад какетлівай апалітычнасці, калі яе выстаўляе сёй-той з нашага асяроддзя; тым больш, што апалітычнасці ў мастацтве не бывае.

МНЕ ЗДАЕЦЦА, мае адказы на пытанні Акадэміі мастацтваў СССР пачынаюць пераходзіць у сферу мастацкай крытыкі. Гэта ёй наканавана асэнсоўваць творчы працэс, удакладняючы і развіваючы тэарэтычную рас-

раможцам. Людзям загадалі разысціся па хатах.

Восенню сорак другога года Роспы канчаткова сталі партызанскай «сталіцай» Капыльшчыны. У кожнай хаце размясціліся на пастой народныя мсціўцы. Знайшлося месца і для шпіталя — у доме Сцяпана і Доры Пратасевічаў. Аб тым часе ўспамінае іх дачка Вольга:

— Зайшоў да нас нехта з партызанскіх камандзіраў — і да мамы: «Вось тут мы, напэўна, і размесцім параненых. У хаце чыста, суха. Во, цётка, не супраць?» Мама адказала, што месца хопіць, хата вялікая, яна рада дапамагчы, аблегчыць няшчасным іх пакуты. Параненых набралася чалавек дваццаць. Мы перайшлі жыць у бакоўку, але не сядзелі без справы: гатавалі параненым ежу, мылі бялізну, бінты, дапамагалі перавязваць раны. Бацька насіў дровы, ваду, мяняў сена ў матрацах.

13 мая 1944 года партызаны са штабам, шпіталем, абозамі выехалі ў лес — чакаўся налёт нямецкіх самалётаў. Усе жыхары таксама падаліся далей ад вёскі. Сцяпан Пратасевіч, чамусьці, застаўся дома. А пятай гадзіне дня наляцела шэсць «юнкерсаў». На працягу гадзіны яны бамбілі і абстрэльвалі вёску, пакуль не засталіся адны дымныя галавешкі. Сцяпана цяжка параніла куляй у галаву. Пад вечар ён памёр. І калі труну з нябожчыкам апусцілі ў зямлю, усе пачулі праклёны, якія па-нямецку пасылала Гітлеру і яго галаварэзам Дора за тое, што аднялі ў яе мужа, а ў дзяцей — бацьку.

Аж да вызвалення Капыльшчыны ад гітлераўскіх захопнікаў роспаўцы жылі ў зямлянках. Памалу пачалі будаваць хаты. З дапамогай калгаса пабудавала дом і Дора Мартынаўна. Зноў пайшла на ферму даяркай і працавала там да выхаду на пенсію.

Вярнуўся з фронту яе старэйшы сын Іван. Ён цяпер працуе заатэхнікам у адным з раёнаў рэспублікі. Вольга выйшла замуж у сваёй вёсцы. Дора Мартынаўна памерла на семдзесят восьмым годзе жыцця. Уся вёска праводзіла яе ў апошні шлях, успамінаючы добрымі словамі за ўсё, што яна зрабіла для людзей у цяжкія гады нямецка-фашысцкай акупацыі для сваёй новай, сацыялістычнай радзімы.

**Міхась ТЫЧЫНА.**

Капыльскі раён.

## ПЕРАКЛАДЫ

Малады адэпт перакладу Лявон Баршчэўскі — выхаванец Мінскага інстытута замежных моў, некалькі гадоў працаваў выкладчыкам нямецкай мовы ў Наваполацку, цяпер — вучыцца ў аспірантуры. Нядаўнім часам паспрабаваў голасу ў мастацкім перакладзе і, трэба сказаць, — з поспехам. Наперадзе — доўгая дарога і вялікая праца, і я спадзяюся, што Лявон Баршчэўскі пазнаёміць беларускіх чытачоў з выдатнымі творамі нямецкай паэзіі і прозы. Прыслухаемся да яго паэтычнага голасу сёння, па беларускай версіі некалькіх вершаў Б. Брэхта, паэта самабытнага і наватарскага, і пажадаем дэбютанту творчых удач.

Васіль СЁМУХА.

**Бертальд БРЭХТ**

### Неперамажны надпіс

Пад час сусветнай вайны
У камеры італьянскай турмы Сан-Карла,
Поўнай дэзерціраў, злодзеяў і п'яніц,
Салдат-сацыяліст напісаў
хімічным алоўкам на сцяне:
«СЛАВА ЛЕНІНУ!» —
Пад самай столлю ў цёмнай камеры
ледзь бачны,
Але зроблены вялікімі літарамі надпіс.
Убачыўшы яго, турэмшчыкі паслалі
з вядром вапны маляра,
І той даўгім пэндзлем замазаў
пагрозлівы надпіс.
Але ён сваёй вапнай толькі абводзіў
літары,
і таму
Уверсе цяпер з'явіўся надпіс вапнай:
«СЛАВА ЛЕНІНУ!»
Другі маляр зафарбаваў усё
шырокім пэндзлем,
І надпіс часова знік, але ўранку,
Калі вапна высахла, з-пад яе зноў
выступілі літары:
«СЛАВА ЛЕНІНУ!»
Тады турэмшчыкі выслалі змагацца
з надпісам
муляра з долатам.
І той высякаў, літара за літарай,
цэлую гадзіну...
Калі ж ён скончыў, пад столлю віднеўся
бясколерны зараз,
Але глыбока ўрэзаны ў мур
неперамажны надпіс:
«СЛАВА ЛЕНІНУ!»
— Цяпер бурыце сцяну! —

сказаў салдат.

1930

### З «Азбукі вайны для немцаў»

Калі гаспадары гавораць пра мір,
Просты народ ведае: будзе вайна.

Калі гаспадары шлюць праклёны
войнам,
Ужо загад аб мабілізацыі падпісан.

Ноч.
Мужы і жонкі кладуцца ў пасцель.
Маладыя жанчыны
Народзяць сірот.

На муры было напісана крэйдай:
«Яны хочуць вайны!»
Той, хто гэта напісаў,
Ужо загінуў.

Канструктары гарбеюць
У чарцёжных залах.
Крыху не тая лічба — і гарады
праціўніка
Не ператворацца ў руіны.

З навуковых бібліятэк
Выходзяць разнікі.

Прыціскаючы да сябе дзяцей,
Стаяць маткі і разгублена шукаюць
У небе вынаходкі вучоных.

Генерал, твой танк — магутная машына.
Яна валіць долу лес і знішчае сотні
людзей.
Але ў яе ёсць адна загана:
Ёй патрэбны вадзіцель.

Генерал, магутны твой бамбавоз.
Ён ляціць хутчэй за буру і падымае
больш за слана.
Але ў яго ёсць адна загана:
Яму патрэбны механік.

Генерал, чалавек — дужа прыдатная
істота.
Чалавек можа лятаць і можа забіваць.
Але ў яго ёсць адна загана:
Ён можа думаць.

1938

### Адказ на верш «Пра дружалюбнасць свету»

Значыць, трэба нам утаймавацца
І сказаць «свой лёс не зменіш,
безумоўна»,
Смагнуць, кубак бачачы, й хапацца
У адчаі за парожні, а не поўны?

Значыць, мерзнуць на дварэ павінны
Мы, нібы няпрошаныя госці,
Раз з вялікай панскай ласкі
дабрачыннай
Мы пакутаваць прымушаны
чагосьці?

Можа, лепш нам, галаву падняўшы,
Ад ніякіх асалод не адмаўляцца
І, у карак жываглотаў тых
прагнаўшы,
На зямлі нарэшце ўтульна
ўладкавацца?

●

Калі нашыя гарады сталі смеццем,
Спустошаныя разніковай вайною,
Мы пачалі іх адбудоўваць нанова,
Азяблыя, галодныя, слабыя.

Як у сівую даўніну,
Мы вазілі смецце жалезнымі тачкамі,
Рукамі аднымі выкопвалі цэглу
з зямлі,
Каб не прадаваць дзяцей сваіх у ярмо
чужынцам.

Дзеля іх, дзяцей нашых, мы працавалі —
Адкрывалі і ачышчалі для іх школы,
Адскрэбвалі бруд з векавых ведаў,
Каб тыя веды дзецям прыдаліся.

1950

### Закаханыя

Вунь журавы крыляцца чарадою,
А побач увесь час плывуць аблокі —
З жыцця былога ды ў жыццё другое,
З краіны роднай ды у край далёкі.
Нямала часу іх палёт трывае,
Аднолькава ён хуткі і высокі,
Вось толькі іх нічога не злучае,
Апроч нябёс кавалачка малога,

Што разам іх на хвілю ахінае.
З іх кожны бачыць гойданне другога
І адчувае халадок паветра,
Ды больш не адчувае ўжо нічога...
Іх можа вецер у Нябыту нетры
Уцягнуць, калі ўсё будзе па-старому,
І колькі б ні ляцелі кіламетраў —
Нішто іх болей не кране, вядома:
Ці маладзік над галавой, ці сонца —
Яны ад стрэлаў, ад дажджу і грому
Удалеч будуць так ляцець бясконца.
— Вы ад каго? — Мы ад усіх.
— Куды? — Ды... нікуды.
— Як доўга разам і калі расстанне?
— Нядаўна й хутка.
Толькі мо ў каханні
Прыпынак закаханым ёсць заўжды.

### Да маіх землякоў

Вы, між руін каму выжыць
пашанцавала,
Самі сабе ўрэшце трохі паспачувайце:
Войнаў больш новых не распачынайце —
Хіба дагэтуль было іх вам мала?
Прашу вас: сабе трохі паспачувайце!

Мужчыны, бярыце не шаблі, а кельні.
Быў бы дах цёплы і сёння над вамі,
Каб не ўзяліся за шаблі вы самі.
Жыць жа пад дахам, напэўна, прыемней.
Прашу вас: бярыце не шаблі, а кельні!

Вы, дзеці, прасіць у бацькоў павінны
Міру й каб болей развагі мелі.
Скажыце: не хочам жыць у руінах
І тое цярпець, што яны цярпелі!
Вы, дзеці, міру прасіць павінны.

Вас, матак, каму дадзена на свеце
Казаць вайне «так» або «не», прашу я:
Зрабіце, каб не гінулі ў вас дзеці,
Каб вы жыццё дарылі ім, не смерць
ліхую.
Вас, матак, я прашу:
жыць дайце дзецям!

1950

працоўку прынцыпаў сацыялістычнага рэалізму. Шкада, але пахваліць нашу сённяшнюю крытыку я не магу. У нас ёсць добра ілюстраваныя часопісы, выдаюцца працы і манаграфіі, каталогі і нарысы, і колькасна ўсё гэта стварае ўяўнасць як бы «крытычнай добрапрыстойнасці». Але знешняя добрапрыстойнасць — з'ява, чужая мастацтву ўвогуле, а тым больш пра яе і не падумаеш, перабіраючы ў памяці опусы нашых крытыкаў. Пераважна яны хісткія ў меркаваннях пра сапраўдныя вартасці і сапраўдныя хібы тых або іншых твораў. То пачынаецца смакаванне нацыянальных рысаў — накшталт замілаванасці да абарыгенных прывязанасцей правінцыяльных кустароў. То — захапленне разборам агульначалавечых матываў у творы. Пры гэтым быццам забываюць крытыкі, што інтэрнацыяналізм — адзін з асноватворных прынцыпаў ідэалогіі і палітыкі сацыялістычнага грамадства.

Прадмет мастацтва можа быць глыбока абмеркаваны і зразумелы толькі тады, калі ён набыў якасць мастацкага вобраза. Наша крытыка яшчэ проста фіксуе наяўнасць тых або іншых вобразаў або тэматычных вузлоў у мастацтве, замест таго, каб вывучаць і асэнсоўваць самую прыроду мастацкага вобраза ў праўдзівым і дынамічным адлюстраванні жыцця. Праўда жыцця і праўда мастацтва — спецыфіка гэтага адзінства (дыялектычна не такога простага, як некаторым здаецца) дасюль вымагае дасведчанага і зацікаўленага вывучэння. Заканамернасці адзінства традыцый і наватарства — адзінства, прыклады якога даюцца мастакамі нашай савецкай інтэрнацыянальнай садружнасці — таксама вымагаюць удумлівага, на аснове практыкі савецкіх мастакоў, аналізу.

Практыкам выяўленчага мастацтва нашай краіны ўласціва, я сказаў бы, жывое пачуццё яшчэ не адкрытага ў спалучэнні з адчуваннем багаццяў ужо адкрытага нашымі папярэднікамі. Пра крытыку гэтак не скажаш. Усе мы ведаем, як у пошуках азначэння для наватарства мастацтва новага часу некаторыя даследчыкі ўхапіліся за парадаксальныя і нават эпатажныя пракламацыі, напрыклад, Пікасо, і пачалі спакваля цягнуць нас у «рэалізм без берагоў». Што было, тое было! І тое, што было, толькі пацвярджае неабходнасць абараняць ідэалагічную яснасць у меркаваннях пра наватарства і традыцыі, пра вобразнае спасціжэнне свету ў мастацтве сацыялістычнага рэалізму.

Я далёкі ад думкі закрэсліць усе намаганні крытыкі ў гэтым кірунку. На мой погляд, якраз НДІ тэорыі і гісторыі выяўленчага мастацтва Акадэміі мастацтваў СССР вядзе вывучэнне актуальных праблем на высокім навуковым узроўні. І тут заслуга адэпта сацыялістычнага мастацтва і паслядоўнага марксіста-ленінца ў галіне мастацтвазнаўства (цяпер нябожчыка) М. Ліфшыца, ягоных калег. Дасюль дзейснай зброяй у сцвярджэнні праўдзівага і ідэйна мэтанакіраванага мастацтва застаецца творчая спадчына А. В. Луначарскага. Ёсць у нас вядомы фонд сапраўднай мастацкай крытыкі. Мая ж трывога — хранічнае адставанне нашай аператыўнай крытыкі ад практыкі мастацтва сацыялістычнага рэалізму. Крытыкі, якая абавязана звяраць зробленае мастаком з патрабаваннямі часу, адкрываць заканамернасці развіцця і выдаткі пошукаў па гарачых слядах падзей. Час робіцца шчыльнейшым. «Сёння» вельмі хутка робіцца нашым «учора». Хутчэй, чым думаюць крытыкі, якія адкладаюць свае меркаванні і высновы на «потым».

Не адставай! — гэтак мне хочацца часам гукнуць крытыка з акна трамвая, калі я спяшаюся ў майстэрню, а ён шпацыруе і быццам чакае нечага... Абурае мяне і келейнасць нашых Заілаў: яны больш праседжваюць на нейкіх секцыях, нарадах, камісіях, а вось трыбуну ў друку часам займаюць дылетанты, выскачкі, выпадковыя аўтары, для якіх навука і веды абярнуліся хіба што званнем кандыдата навук. І кандыдаты (бакалаўры ад мастацтва) таксама патрэбны, але галоўнае веданне прадмета мастацтвазнавец здабывае ў кантэксце жывога часу, у кантактах з майстрамі-практыкамі, наведваючы майстэрні, назіраючы за мастаком ля мальберта, — а не адной толькі разумовай «правільнасцю» тэзісаў, засвоеных на вучнёўскай лаўцы.

ГАРМОНІЯ і свабода ўсебакова развітой асобы — вось высокая мэта выхаваўчых намаганняў у сацыялістычным грамадстве. Фарміраванню такой асобы служыць — свядома, паўтару яшчэ раз, і перакананa! — наша мастацтва. Яго выхаваўчы ўплыў тым больш эфектыўны, чым больш глыбокія і дасканалыя нашы мастацкія творы, вобразы нашых твораў.

З узростам я часам задумваюся: што ж так уладарна цягнула і цягне мяне ў майстэрню? Інтымная, няхай нават і славалюбівая думка ёсць недзе падспудна ўва мне, ёсць спадзяванне на штосьці. Так, мы ўсе спадзяёмся, а многія з нас вераць, некаторыя і перакананыя, што мастацтва паляпшае свет, удасканальвае чалавека, змяняе грамадскі настрой. Няхай «ледзь-ледзь», няхай гэта бывае далёка не адразу прыкметна і адчувальна, — але ж уплывае, ачышчае, змяняе! Лепшымі сваімі творамі. Значыць, рухае чалавецтва да светлых ідэалаў.

І гэтыя, умоўна кажучы, камерныя мае развагі зліваюцца з грамадскім маім разуменнем справы, якой я служу. Метад сацыялістычнага рэалізму з навуковага паняцця ператвараецца для мяне ў жывую і зразумелую мне практыку, без якой я сабе не магу ўявіць уласнае жыццё ў мастацтве. Вось тэарэтыкі некалі сцвярджалі: маўляў, Паліклет праславіўся тым, што выявіў «чалавека як ён ёсць», а Фідзій у процілегласць Паліклету праславіўся як «делатель богов». Сацыялістычны рэалізм адмаўляе крайнасці. Яму не вельмі цікавы толькі «чалавек як ён ёсць», без гістарычнага самаўсведамлення і без руху ў часе, але і ідэалізацыя гэтага чалавека да «абагаўлення» не вельмі прыцягальная. Лепшае ў чалавеку як вянцы Сусвету, які мысліць і які здатны ствараць справядлівае гарманічнае грамадства для ўсіх людзей, — вось прадмет творчай увагі і намаганняў мастакоў нашай краіны.

**Заір АЗГУР,**
**народны мастак СССР,**
**Герой Сацыялістычнай Працы.**

